ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

30 мая 1997 г. № 22/3898 Кошт 3 000 руб.







## "Хоць сабе дзеля аднаго..."

**Дзевяцікласніца Вера АМЯЛЬЧЭНЯ прыехала ў Мінск і сказала сястры: "Завядзі мяне, калі ласка, у тэатр". Сястра завяла сваю школьніцу ў тэатр — на "Марыю Сцюарт" у Рускі. З Аляксандрай Клімавай. Здаецца, у першы рад. Такое шчасце...**

**Вядучая актрыса Магілёўскай абласной драмы Вера Амяльчэня ўсміхаецца, калі расказвае, якою сціплаю дзяўчынкаю была. Як смяяліся сяброўкі, маўляў, не можа быць, каб Амяльчэня Мінск знайшла, а ў Мінску — тэатральны інстытут: яна ж у незнаёмых баіцца запытацца...**

**Аднакурснікі Веры Амяльчэні слугуюць высокаму мастацтву ў тэатрах Купалаўскім і Рускім. Ставяць. Маюць поспех і прэсу. Сустракаючыся (з Верай часцей, чым між сабой у Мінску), дзівяцца, чаму да сёння Амяльчэня застаецца аднакурсніцай, але не сталічнай каляжанкай. Раней можна было пажартаваць, прыгадаўшы адметны старасвецкі будынак, які шкада пакідаць, але каторы год Магілёўская драма перажывае драму сваёй рэстаўрацыі з рэканструкцыяй. А Вера Амяльчэня спраўна выходзіць на падмосткі Дома палітасветы, часовага прытулку магілёўскай трупы: то лэдзі Ганнай ("Рычард III" У. Шэкспіра), то Абі ("Каханне пад вязамі" Ю. О'Ніла), то Фенісай ("Вынаходлівая закаханая" Лопэ дэ Вэгі)... Радуе, нават весяліць яе і тое, што ў беларускіх спектаклях яна, Амяльчэня, "прыстаўлена" пільнаваць слушнасць вымаўлення і ўжывання слоў, — праўда, гледзячы на Веру і слухаючы Веру, адметна шкадуеш, што сама яна ўсё менш іграе па-беларуску. Магчыма, яе зачакалася сталічная сцэна і калегі-аднакурснікі маюць рацыю? Мае рацыю знаны тэатральны педагог Аляксандр Бутакоў, які час-почас катурхае актрысу сваімі "а магло б быць", "а можа быць"?..**

*(Працяг на стар. 10)*

# АД КОЛА ДЗЁН

***Не, гэта нам няйначай сапраўды Знак Нябёсаў. Знак, што Беларусь не знікне і што мы, беларусы, будзем усё ж жыць. Пэўна ж, так, бо Знак гэты спалучаны з постаццю нашага найпершага Прарока — вялікага Купалы... На пачатку гістарычнага аднаўлення нашай незалежнасці Ён прыйшоў нам на дапамогу сваімі "Тутэйшымі". Блiскуча пастаўленая — праз дзесяцігоддзі забароны і забыцця! — Мікалаем Пінігіным на Купалаўскай сцэне, камедыя збудзіла многіх і многіх, найперш маладых людзей, паклікала нас рашуча пазбаўляцца тутэйшасці і пачувацца народам, нацыяй, падмацавала, акрыліла нашы адраджэнскія высілкі...***

***А сёння, у цяжкія часіны роспачы і трывожнага одуму аб лёсе Бацькаўшчыны, Купала зноў прыйшоў да нас. Гэтым разам — драмай "Раскіданае гняздо" ў адмысловай пастаноўцы Барыса Луцэнкі на Рускай (але па-беларуску!) сцэне Беларусі. Раскіданае гняздо — гэта ўжо не толькі пахілая хаціна Зяблікаў. Сёння гэта — сімвал усёй нашай Бацькаўшчыны, гэта ўвесь наш Беларускі дом, падмурак якога трэснуў, а дах вось-вось абваліцца. І няхай сабе плача, як і раней, старая Зяблічыха. Сымон Зяблік — не плача, ён гатовы змагацца. Маладыя Зяблікі ўжо не скарацца, абароняць свой дом, не дазволяць зруйнаваць яго. Стаяў ён і будзе стаяць на гэтай святой для іх зямлі. І будуць жыць у ім, шчасна і заможна, з пакалення ў пакаленне — Зяблікі, старыя і маладыя, сённяшнія і заўтрашнія...***

***Слухайма Купалу!***

## ДАКУМЕНТ ТЫДНЯ

27—28 мая амаль увесь афіцыйны і незалежны друк апублікаваў Статут Саюза Беларусі і Расіі, які быў урачыста падпісаны ў Маскве двума прэзідэнтамі, а сёння будзе ўрачыста ратыфікаваны Нацыянальным сходам РБ і Дзярждумай РФ. Хай усё будзе на карысць. Толькі ж вось, як той казаў, драбязінкі, парушынкі... "Афіцыйнымі мовамі Саюза, — гаворыць 38 артыкул Статута, — з'яўляюцца беларуская і руская мовы. У якасці рабочай мовы органаў Саюза выкарыстоўваецца руская мова". Дзе і калі, карыцць усумніцца, будзе гучаць афіцыйная мова, якая называецца беларускай? І кім яна будзе выкарыстоўвацца? А нідзе і нікім. Дык, можа, і іншыя артыкулы, гэта самае...

## КАНСУЛЬТАЦЫІ ТЫДНЯ

Учора ў гатэлі "Беларусь" адбылося першае пасяджэнне змешанай рабочай групы прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета, адміністрацыі прэзідэнта і ЕС. Вярхоўны Савет у групе прадстаўляюць Г. Карпенка, М. Грыб і П. Краўчанка, адміністрацыю — І. Антановіч, І. Пашкевіч і М. Падгайны. На перамовах гаворка ідзе аб новых выбарах у парламент і аб унясенні змен у канстытуцыю. У сувязі з гэтым узнікае нямала пытанняў. Выбары — у які парламент? Змены — у якую канстытуцыю? З чым сутыкнецца гэтым разам апазіцыя? Што за праект канстытуцыі могуць прапанаваць прадстаўнікі ЕС і СЕ? Якія магчымыя вынікі работы рабочай групы? Альбо ніякіх вынікаў не будзе, апроч дымавой завесы: усё ў нас, як у цывілізаваных людзей, дамаўляемся...

## СКАЗ ТЫДНЯ

"Звязда" за 27 мая пад сваім традыцыйным загалоўкам "Адным сказам" паведаміла: "У мінулым годзе ў рэспубліцы канфіскавана каля 2 тон наркатычных сродкаў, раскрыта 60 падпольных наркалабараторый". Канфіскавана і раскрыта... А колькі не канфіскавана і не раскрыта? І гэта — у ціхай, стабільнай, спакойнай, адносна сытай Беларусі!..

## ЗАБАРОНА ТЫДНЯ

Савет Міністраў сваёй пастановай, прынятай у адпаведнасці з Законам "Аб абароне правоў спажыўцоў", забараніў з 1 кастрычніка г.г. рэалізацыю на тэрыторыі краіны прадуктаў харчавання і прамысловых тавараў, якія не маюць інфармацыі на адной ці другой дзяржаўных мовах. Цалкам слушна! А то, не дай Бог, хто-небудзь і сапраўды закусіць чым-небудзь не тым...

## ФАНТАСТЫКА ТЫДНЯ

Статыстыка паведамляе аб нечуваных поспехах нашай эканомікі. Так, за чатыры месяцы г.г. у параўнанні з адпаведным перыядам леташняга выпушчана аўтамабіляў на 23 працэнты больш, трактароў — на 42 працэнты, цэменту — на 83, шыферу — у 2 разы больш, шаўковых тканін — на 90 працэнтаў, тэлевізараў — на 87, скуранога абутку — на 70, масла — на 23 працэнты больш і г.д. Ну як не запляскаць у ладкі ад радасці?! Ды раптам схамянешся: а што за гэтымі працэнтамі, тонамі, штукамі, метрамі, які з іх прыбытак для тых, хто павінен зараз купляць гароднiну, што падаражэла ў 2,1 раза, маргарын — у 1,5 раза, цукар — на 47,5 працэнта, масла, муку — на 38—41 працэнт, хлеб, рыбу — на 31—35 працэнтаў, кілбасы, крупы, мясныя кансервы — на 26—29 працэнтаў, тэлевізары — на 25 працэнтаў, халадзільнікі — амаль на 50, веласіпеды — на 70 працэнтаў... Ці ў нас і павінна ўсё расці прыкладна аднолькава, апроч заробкаў?

## ФРОНТ ТЫДНЯ

Паводле паведамленняў друку, у штаб-кватэры БНФ у Мінску прайшоў першы сход аргкамітэта па стварэнні новай грамадскай арганізацыі "Малады фронт". Сход прыняў заяву, у якой гаворыцца: "Мы, маладыя франтаўцы, выступаем за вольную, незалежную, еўрапейскую Беларусь; будзем змагацца за беларушчыну паўсюль, дзе мы ёсць. Дзеля таго, каб у Беларусі была будучыня, і ствараецца "Малады фронт". Старшынёй аргкамітэта абраны студэнт Андрэй Пятроў.

## ВАЙНА ТЫДНЯ

"Патрыятычная" вайна за чысціню ідэалагічных радоў, якую ўсчыніла "Знамя юности", пайшла ва ўсіх накірунках. Газета апублікавала ў аўторак, 27 мая, "адкрытае пісьмо аднапалчан Васілю Быкаву"* пад назваю "Мы з Быкавым-палітыкам у разведку не пойдзем". У лісце — традыцыйны набор інсінуацый і абвінавачванняў у адрас сусветна прызнанага пісьменніка, патрыёта, змагара за дэмакратыю, правы чалавека, незалежнасць, дзяржаўнасць Беларусі.

І можна было б не звяртаць на ліст увагі. Толькі ўсё ж сумна і горка ад таго, што сённяшнія спосабы барацьбы з Быкавым нічым не адрозніваюцца ад колішніх: такія лісты Васілю Уладзіміравічу пісаліся і 10, і 20, і 30 гадоў назад. Сапраўды стабільная сітуацыя ў нашай краіне, нічога не скажаш.

З НАГОДЫ

# Лозунгі для новай вясны

Ставячы свой подпіс пад Статутам расійска-беларускага саюза, Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка шчаслівым не выглядаў. Хутчэй — разгубленым, што не зусім зразумела, калі браць да ўвагі, што менавіта "воссоединение" Беларусі з Расіяй, як першы крок агульнаславянскай "інтэграцыі", ён абвяшчаў сваёй марай і сэнсам свайго жыцця.

Мабыць, як часта бывае ў жыцці, здзейсненая мара аказалася не такой прыгожай; "воссоединение" абгаворваецца шэрагам непрымальных умоў. Прынятым Статут прадугледжвае дацягванне Беларусі да расійскіх стандартаў у галіне эканомікі і сацыяльнага жыцця. Гарантаванае права прыватнай уласнасці, абарона інвестыцый, свабода прэсы, правы чалавека і гэтак далей... Наўрад ці краіну, дзе па загадзе прэзідэнта будынак парламента абстрэльвалі з танкавых гарматаў, дзе для аднаўлення "канстытуцыйнага ладу" вялася поўнамаштабная вайна цэнтра супраць суб'екта федэрацыі; дзе войска, флот і працаўнікі базавых галін вытворчасці (не гаворачы пра настаўнікаў і ўрачоў) па паўгода не атрымліваюць зарплату, можна лічыць светачам дэмакратыі. І ўсё ж пры аб'ектыўным параўнанні Беларусь ад дэмакратыі стаіць яшчэ далей. Іншая справа, ці патрэбна сённяшняй Расіі дэмакратычная Беларусь, наколькі сур'ёзна сама Расія ставіцца да паперы, падпісанай 23 мая прэзідэнтамі РФ і РБ. Папера сцерпіць калі не ўсё, дык многае. А вось на справе абараніць дэмакратыю ў Беларусі Расія магла яшчэ мінулай восенню. Магла, ды не стала. І сёння Расія зацікаўлена толькі ў такой ступені лібералізацыі эканомікі і грамадскага жыцця Беларусі, якая будзе гарантаваць інтарэсы расійскага капіталу на беларускім рынку.

Невядома, што гаварылі за зачыненымі дзвярамі перамоў Расія — НАТА, але, магчыма, крок Масквы да Мінска разглядаўся заходнімі дыпламатамі як падстава для ўмацавання НАТА праз пашырэнне альянсу на ўсход. Палажэнні Статута Саюза РБ і РФ адносна правоў чалавека і лібералізацыі эканомікі павінны пераканаць Захад, што Расія мае намер спрыяць дэмакратызацыі Беларусі.

Вось толькі ці паверыць у гэта наша апазіцыя? Ці паўторыць яна памылку дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія мелі неасцярожнасць паверыць Маскве леташняй восенню?

"Мінская вясна-97" прайшла пад знакам абароны суверэнітэту. Зыходзячы з таго, што сённяшняя ўлада ў Беларусі не аслабла, сёйтой робіць высновы, што веснавыя акцыі апазіцыі скончыліся паразай. Аднак калі глядзець з іншага боку — Масква не асмелілася сёння скасаваць беларускі суверэнітэт, дык можна гаварыць нават аб сур'ёзным поспеху. Я схільны думаць, што сцэны жорсткага супрацьстаяння на мінскіх вуліцах, паказаныя па тэлебачанні, паўплывалі на характар і змест канчатковай рэдакцыі Статута Саюза РБ і РФ. Наўрад ці расійцаў пакінула абыякавымі сцэна спальвання ў цэнтры Мінска расійскага трыкалёра, бо кожнаму хочацца, каб яго шанавалі, а не наадварот.

Леташнюю і сёлетнюю вёсны зрабіла моладзь. Калі здарацца чарговыя выбары — парламенцкія, прэзідэнцкія, мясцовыя, яна здолее зрабіць правільны выбар. Але каб выбары ўвогуле адбыліся, трэба паруплііцца старэйшым. Прынамсі, прафсаюзам. Пазітыўныя змены ў нашым жыцці распачнуцца не раней, чым рабочы рух народзіць нешта накшталт беларускай "Салідарнасці". Афіцыйныя прафсаюзы наўрад ці здольныя на такую трансфармацыю. Як сведчыць страйкавы вопыт, афіцыйныя прафсаюзы могуць прыняць бок апазіцыі, толькі ратуючы самiх сябе, толькі калі іншага выйсця не будзе. А незалежны прафсаюзны рух занадта кволы, каб мець аўтарытэт сярод рабочых. "Інтэлігенцкім" партыям рабочыя не вераць.

Незалежныя прафсаюзы набудуць моц, калі сапраўды распачнецца рэформа. Але гэты час яны ж павінны і наблізіць. Ва ўласніка — а сэнс рэформы якраз у тым, каб клас наёмных рабочых трансфармаваўся ў клас уладальнікаў — іншая псіхалогія. Яму, у адрозненне ад пралетарыя, ёсць што губляць.

Вялікая колькасць катэджаў, што з'явіліся ў апошнія гады на ўскраінах і ў прыгарадах нашых гарадоў, радуе мяне не менш, чым вялікая грамада на мітынгах. Сваю "іншамарку", свой катэдж уладальнікі пралетарый будзе абараняць не менш гераічна (тут і спатрэбіцца моцны прафсаюз), чым парыжскія камунары — сваю апошнюю барыкаду. Ад тых, хто ездзіць на "іншамарках", я чуў, што зноў сесці ў "жыгулі" ці "масквіч" іх можна прымусіць толькі сілай.

Няўхільна набіраецца крытычная маса такіх людзей. Гэта дае надзею. Тады наш суверэнітэт стане непахісным, калі слова "Беларусь" набудзе канкрэтны матэрыяльны сэнс. Быць беларусам — значыць мець прэстыжную працу, высокі заробак, свой дом, машыну і іншыя зручнасці жыцця. Тады людзі будуць бараніць не абстрактную ідэю, а свой дабрабыт.

Мяркую, што "Вясна-98" пройдзе пад такімі альбо падобнымі лозунгамі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Шагала чакаюць на радзіме

У сераду, 28 мая, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі прайшла прэс-канферэнцыя з нагоды маючай адбыцца выставы графікі Марка Шагала. Гэта стала магчымым дзякуючы супрацоўніцтву Беларусі і Францыі, а таксама фінансавай і арганізацыйнай падтрымцы з боку кампаніі "Філіп Морыс". У прэс-канферэнцыі бралі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства культуры РБ Уладзімір Рылатка, Валерый Гедройц і Ірына Мятліцкая; саветнік па культуры, навуцы і супрацоўніцтве Амбасады Францыі Франсуа Ларан, генеральны сакратар Нацыянальнага музея Марка Шагала "Біблейскае пасланне" горада Ніцы Сільвэн Рэбо, начальнік аддзела па карпаратыўных справах Прадстаўніцтва кампаніі "Філіп Морыс" Дзмітрый Хрол, супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея Пётра Ходзька і Тамара Карандышава.

Прэсу азнаёмілі з праграмай ІІ Міжнароднага сімпозіума выяўленчага мастацтва імя Марка Шагала, што адбудзецца ў Віцебску з 20 чэрвеня па 7 ліпеня. Выстава графікі Шагала ў Мінску пройдзе з 6 па 29 чэрвеня, у Віцебску — з 5 па 20ліпеня.

АДГАЛОСКІ

# Пасьянс без нас

*Ой рэчанька, рэчанька,*
*Чаму ж ты няпоўная...*
З народнай песні

**І**

Напрыканцы ХХ стагоддзя беларусы пазбавіліся нарэшце ад апошніх сумненняў наконт свайго лёсу. Сумненні цалкам зніклі, дзякуючы ясным і дакладным палітычным установкам і імператывам новых лідэраў Беларусі. Беларускаму народу даходліва растлумачылі, што на "суверэнным" існаванне ён не "цягне": што "ў адзіночку" нам аніяк не справіцца, што "историческое единство", татальна падмацаванае нафта-газааргументамі, значна больш важкае, чым ілюзіі пра нейкі "свой дом", пра нейкую "незалежнасць".

Большасць збяднелага і дарэшты дзэарыентаванага народа такія насквозь зразумелыя тлумачэнні ахвотна прыняла і некалькі разоў з энтузіязмам і "ўсенародна" іх пацвердзіла. Тых жа, хто сумняваўся ў паўнавартасці гэтых тлумачэнняў, хто пратэставаў, спрабуючы давесці, што без іх той народ "не поўны", пераконвалі добра праверанымі спосабамі.

Былі і такія, хто ў пэўны час рэальна мог папсаваць крынальную карціну "адабрамса", але яны, на жаль, нагадвалі сумнавядомага кухара з байкі Крылова, у якога на вачах знішчалася ягоная курыца. І дарэмна спадзяваліся гэтыя палітыкі, што "курыцу" тую не ўдасца праглынуць.

Сёння ўлады народную "непаўнату" ў дачыненні да сваіх грандыёзных планаў проста ігнаруюць. Поўны народ, і ўсё тут! Бліскучы лінгвістычны досвед аднаго ўжо добра вядомага гісторыі "бацькі народаў" цяпер як нельга лепш прыйшоўся да месца — даўно ўжо не абыходзіліся гэтак своеасаблива з некаторымі тэрмінамі і паняццямі.

І ўсё ж ад факта "непаўнаты" адмахнуцца, як ад надакучлівай мухі, немагчыма. Трохі іншы ўсё ж цяпер час. Не схаваць нічога сёння на гэтай прanізваемай, як рэнтгенам, рознымі інфармацыйнымі каналамі і хвалямі зямлі, што "паміж Польшчай і Расіяй". І той факт, што на выбарах і рэферэндумах галасуюць многія зусім не маналітна, ды мала таго, не баяцца адкрыта пратэставаць, становіцца адразу вядомым сусветнай грамадскасці. А яна зусім не абыякавая да таго, што адбываецца сёння на Беларусі. Еўропа з прычыны ўсё больш цесных узаемасувязяў, дасканаласці камунікацыяў паступова становіцца адзіным арганізмам і наўрад ці зможа доўгі час цярпець праз якія-небудзь пашко-джаны паталогіяй орган, бо гангрэна гвалту, беззаконня, а значыць і разбурэння можа лёгка перакінуцца і на здаровыя "органы". Асабліва, калі размова ідзе пра краіну, якая, дзякуючы свайму месцазнаходжанню, прэтэндуе на ролю сэрца Еўропы...

**ІІ**

На славутай нашай "всенародности" робяць сёння імклівую палітычную кар'еру многія шчырыны ў "лепшым горадзе зямлі". Сёння яны наперабой спаборнічаюць між сабою ў праве быць першымі і найлепшымі інтэгратарамі-аб'яднальнікамі. Увішна дзеляць яны нашы вобласці і гарады, землі і заводы, нагадваючы пры гэтым яшчэ аднаго вельмі вядомага персанажа з байкі, што апантана дзяліў неісную скуру. Такога малапрыстойнага шоу, якое адбываецца сёння вакол расійска-беларускага аб'яднання, бадай што не было яшчэ ў гісторыі. І не толькі ў дачыненні да нашага беднага і шмат ужо ў сваёй гісторыі рванага на часткі "сэрца Еўропы".

Людзі абсалютна розных, часам варожых адно другому пераканнняў імкнуцца як найхутчэй зняць вяршкі з такой выйгрышнай

МУЗЫКА

# Першы конкурс у Віцебску

Кожную новую вясну Віцебск сустракае традыцыйным фестывалем дзіцячай творчасці. Праграма цяперашняга, дзевятага, была надзвычай разнастайная: агляд-конкурс аркестравых калектываў, творчыя справаздачы юных мастакоў і танцораў, дзіцячы тэатральны спектакль з Лепеля, канцэрты вядомых гасцей. У фестывалі ўдзельнічала больш за 2 тысячы чалавек з Віцебскай, Смаленскай і Пскоўскай абласцей.

Адной з галоўных падзей фестывалю стаў першы абласны конкурс юных піяністаў — навучэнцаў дзіцячых музычных школ, школ мастацтваў, музычных вучылішчаў. Спаборніцтва ладзілася па чатырох узроставых групах (7—9 гадоў, 10—12, 13—15, 16—19). Журы ўзначаліла загадчыца кафедры спецыяльнага фартэпіяна Беларускай акадэміі музыкі прафесар Зоя Качарская.

У I туры конкурсу (занальным — у Віцебску і Наваполацку) удзельнічалі больш за 100 чалавек — прадстаўнікі амаль усіх музычных школ вобласці. На II тур, які праходзіў у Віцебску на базе ДМШ N 1, было дапушчана 28 чалавек.

Праграма конкурсу ўключала ў сябе віртуозны (эцюд) і поліфанічны творы, санатнае алегра і рамантычную п'есу. Паводле слоў З. Качарскай, конкурс паказаў добрую прафесійную падрыхтоўку ўдзельнікаў, выявіў найбольш таленавітых, прадэманстраваў цудоўны (амаль еўрапейскі!) узровень арганізацыі (прафесійна настроены раяль, прысутнасць настройшчыка ў зале, максімальная ўвага да ўдзельнікаў і педагогаў). Вынікі конкурсу абнадзейваюць: не збяднела віцебская зямля на таленты. Але, на жаль, знайсці здольнае дзіця мала — трэба яго яшчэ правільна навучыць. І тут сваю перавагу ў прафесійнай падрыхтоўцы каторы раз пацвердзілі вучні трох школ вобласці: ДМШ N I Віцебска, Полацкай і Наваполацкай.

Вось яны, лаўрэаты I абласнога конкурсу юных піяністаў: С. Бандарэнка, М. Бутко, К. Бахтадзе (ДМШ N 1 Віцебска); А. Касцючэнка, Н. Вароніна (Полацк), Н. Чарняўская, С. Грызадуб (Наваполацк), Ю. Лыскова (школа пры ВМВ). Пераможцамі сярод навучэнцаў музычных вучылішчаў сталі новапалачане С. Маліноўскі, К. Герольд і А. Гурчанава, віцяблянін Д. Зверык.

Атмасферу свята ў зале стваралі добразычлівыя гаспадары — педагогі школы. Слухачамі конкурсу былі навучэнцы і педагогі ДМШ горада і вобласці. Яны атрымалі цудоўны ўрок педагагічнага майстэрства, чаму садзейнічалі праведзены ў гэты час майстар-класа прафесара З. Качарскай, і канцэрт навучэнцаў музычнага ліцэя ды студэнтаў БАМ класа дацэнта Уладзіміра Нехаенкі.

Заключным акордам фестывалю-конкурсу стаўся незабыўны канцэрт даўняга сябра віцебскіх аматараў музыкі — заслужанага артыста Расіі Аляксандра Мндаянца і яго нага сына, 8-гадовага Мікіты, надзвычай таленавітага юнага піяніста і кампазітара, навучэнца Цэнтральнай музычнай школы пры Маскоўскай кансерваторыі.

Арганізавалі конкурс Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама, музычнае вучылішча імя I. Салярцінскага, ДМШ N I і Віцебскае музычнае таварыства. Спонсары — ЗАА "БелСофт", МП "Адліга", МП "БелФорт", СП "Кока-Кола Амаціл Беларусь", кандытарскі камбінат "Віцьба" — паспрыялі правядзенню імпрэзы. Усе ўдзельнікі атрымалі "салодкія" падарункі, а лаўрэаты — каштоўныя прызы.

**Вольга ДАРЭНСКІХ**

# Свята на Смаргоншчыне

На Смаргоншчыне прайшоў V Міжнародны конкурс камерных ансамбляў імя М. К. Агінскага. Калі пяць гадоў таму ў конкурсе брала ўдзел каля пяці дзесяткаў юных выканаўцаў, дык зараз іх было амаль трыста — лепшых прадстаўнікоў дзіцячых музычных вучылішчаў і ліцэяў з усіх куткоў Беларусі. Журы конкурсу, у склад якога ўваходзіў, дарэчы, піяніст з Вялікабрытаніі Іва Залускі, пра-пра-пра-праўнук вялікага Агінскага, назвала лаўрэатамі I прэміі навучэнцаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі В. Кеда (скрыпка), А. Ходак (віяланчэль) і К. Кірыльчык (фартэпіяна). Адзначаны таксама выхаванцы Віцебскага музычнага вучылішча, Мінскай ДМШ N 10, Пінскай ДМШ N 1, Слуцкай ДМШ і іншыя.

Члены журы, удзельнікі і госці конкурсу аднадушна выказваліся не толькі пра яго высокі творчы, але і арганізацыйны ўзровень. "Мне цяжка ўявіць які-небудзь гарадок у Англіі, дзе б так змаглі наладзіць свята музыкі, як гэта здолелі зрабіць смаргонцы, — адзначыў Іва Залускі. — Я меў вялікую асалоду ад выканаўчага майстэрства юных музыкантаў, адкрыў для сябе бліскучыя камерныя творы беларускіх кампазітараў, быў шчаслівы, што ўсё гэта адбываецца на зямлі майго славутага продка".

**Наталля УЛАН**

# Крытыкі — за незалежнасць

Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў утвораны літаральна днямі: 28 мая адбыўся ўстаноўчы з'езд. Падзея? Безумоўна. У пэўным сэнсе нават сенсацыйная. Бо існуюць жа саюзы, што аб'ядноўваюць творцаў кіно, тэатра, музыкі, архітэктуры, літаратуры... Калі ж сыходзіць з таго, што літаратурная ды мастацкая крытыка — такая самая творчасць, дык і яна вымагае незалежнасці. Перадусім — ад сваіх, так бы мовіць, аб'ектаў... Каб мець магчымасць спраўджваць тое, што нават падручнікі фармулююць крыху напышліва: маўляў, фармаваць грамадскую думку вакол тых ці іншых мастацкіх падзей. Між тым, каб хоць калегаваць паводле прафесійнае прыналежнасці, малавата час-почас збірацца за каваю або жыць у адным гатэлі на фестывалі. А каб падтрымліваць прафесійны ўзровень? Каб на аўтарытэт ды годнасць не ціснула, скажам, камандзіроўка, якую трэба выпрошваць у творцы — старшыні саюза? На жаль, шэраг падобных запытанняў можна доўжыць. Можна цытаваць, крыху перафразуючы, вядомае: "Крытыкі, крытыкі... Нікому не патрэбныя ў скрутную часіну крытыкі. Страшэнна далёкія яны ад народа..."

Ці можна меркаваць пра новаўтвораны саюз, як пра "крок да народа"? Прынамсі, мастацкія недакладнасці і недарэчнасці, якія выдае для народа беларускі друк, можна будзе хоць прафесійна аспрэчыць...

Старшынёй Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў абраны доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі.

**Ж. Л.**

# Міжнародны ў Паставах

Сапраўды міжнародным робіцца традыцыйны фэст народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Сёлета чакаюцца на ім самадзейныя артысты з усяе нашай краіны, а таксама госці з Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны. Іх канцэрты пройдуць не толькі на Пастаўшчыне, а і ў Глыбоцкім ды Мядзельскім раёнах. Выступленне Акадэмічнага народнага аркестра Беларусі, прысвечанае 90-годдзю яго нага заснавальніка Іосіфа Жыновіча; мастацка-забаўляльная праграма "Пастаўскі баль"; феерверк "Агні спадчыны" паводле вынаходніцтваў першага беларускага феерверкмайстра Казіміра Семяновіча; творчыя лабараторыі майстроў выканальніцтва на народных інструментах; конкурс "Хто каго?"... Адчуваеце, якімі падзеямі будуць поўніцца фестывальныя дні?

Пачынаецца пастаўскі фэст сёння, завершыцца 1 чэрвеня.

**С. Б.**

ВІНШУЕМ!

Указам Прэзідэнта нашай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі вядомаму беларускаму пісьменніку, паэту і перакладчыку Янку Сіпакову прысвоена ганаровае званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь". Лімаўцы віншуюць Івана Данілавіча з высокай адзнакай і жадаюць яму добрага плёну на ніве нацыянальнай культуры.

У РЭДАКЦЫЮ "ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА"

*Выказваю сардэчную падзяку ўсім, хто павіншаваў мяне з юбілеем, і, са свайго боку, жадаю ім самага добрага ў жыцці.*

**Раіса БАРАВІКОВА**

для хранічна хворай на імпершчыну краіны ідэі. Спекулюючы на ёй, яны настолькі спляжылі самое паняцце беларускай незалежнасці, што гэта міжволі хістае ўжо і суверэннасць іх уласную, б'е бумерангам і па самой Расіі. Паўтараючы раз за разам добра адпрацаваную легенду пра "ўвесь беларускі народ", які быццам бы спіць і бачыць сябе пасажырам "рускай тройкі", што нясецца немаведама куды і навошта, яны яшчэ раз пацвярджаюць перад усім светам, што вельмі мала ведаюць наш народ і тое, што ў яго на душы.

Галасы супраць відавочнага палітычнага гвалту падаюць у Расіі толькі адзінкі! Манкіруючы дзяржаўнымі інтарэсамі, апалагеты імперыі, якія засыпалі маленькі шматпакутны народ Чачні бомбамі і снарадамі, наўрад ці спыняцца перад "спакойнай" Беларуссю, якую заўсёды лічылі расійскай губерняй. Сёння славуты "дзяржаўны інтарэс" патрабуе праглынуць нашу краіну, разарваўшы, калі будзе патрэба, яе на часткі. Вось як далёка завялі Беларусь славалюбныя і кар'ерысцкія апетыты некаторых нашых палітыкаў. Гэтыя рашучыя інтэгратары наўрад ці добра ўсведамляюць, у якую глыбокую яму штурхаюць яны Беларусь, ды зрэшты і свае ўласныя лёсы. Бо сёння асабліва пасля падпісання Статута Саюза Беларусі і Расіі, для многіх становіцца відавочным, што пры ўсім звышталенце нашага кіраўніцтва перайграць усходняе, шліфаванае стагоддзямі імперскае каварства наўрад ці па сіле...

## III

Зрэшты, у прыхільнікаў беларускай незалежнасці ўсё ж ёсць у Расіі "саюзнікі". Гэта найперш тыя фінансавыя колы, якім і прыйдзецца разам з дзяржавай прафінансаваць мяркуемы аншлюс. Якраз яны і з'яўляюцца той сілай, што настойвае на паступовай, а не імгненнай інкарпарацыі Беларусі. У адрозненне ад лабістаў тэрміновага аншлюса, якія сцвярджаюць, што ў нанава паяднанай "сям'і" ўсё само сабою "образуется", новыя расійскія капіталісты добра ўмеюць лічыць грошы і ўсведамляюць, які можа мець "эфект" для расійскай эканомікі "хуткае і рашучае" аб'яднанне.

Увесь парадокс у тым, што ў напаўкрымінальнай новай-старой расійскай эліты, якая яшчэ не завяршыла да канца працэс легалізацыі сваіх велізарных ценявых капіталаў, назапашаных, дарэчы, часткова яшчэ ў даперабудовачныя часы, сёння сапраўды пакуль яшчэ бракуе сродкаў, каб адразу "асвоіць" Беларусь. Іхнія першасныя планы відавочныя — трохі збіць імпэт нашых найбольш "ретивых" аб'яднальнікаў, добра **замацаваць і падкараціць** і без таго вельмі кароткі павадок, на якім знаходзіцца сёння "стратэгічны калідор", і ўжо толькі потым, праз пэўны час, "обустроив" Расію, ушчыльную за няцца браткамі-беларусамі. Але, мяркуючы па ўсім, "обустройство" аказалася для новых-старых уладароў імперыі далёка не лёгкай справай. Моцна дэзарыентаваная 70-гадовым "шляхам да светлай будучыні", расійская эканоміка сёння паталагічна хворая. Інфекцыя закранула не толькі народную гаспадарку адной з багацейшых па сваім патэнцыяле краін свету. Вірусы небывалай безгаспадарчасці, фатальнай абыякавасці і бязладнасці, нечуванага марнатраўства, татальнага крадзяжу моцна пашкодзілі і душы людзей, дэфармавалі іх псіхалогію.

У такіх умовах хуткае "возрождение Великой России" вельмі праблематычнае, асабліва калі яшчэ "прычапіць" і моцна растрэсены беларускі "вагон". Каб не замежны доларавы "вугалёк", то не выключана, што славуты расійскі паравоз даўно б ужо выдыхся...

Таму,. нягледзячы на надзвычай гучнае шоу з .вяртаннем у "брацкую сям'ю" блуднай сястры, да рэальных эканамічных і фінансавых крокаў, на мой погляд, справа не дойдзе. Да таго ж, не трэба забываць і пра вельмі спецыфічныя планы і задумы нашых кіраўнікоў. Іх наўрад ці задаволіць банальная роля звычайных "членаў сям'і".

Безумоўна, магчымы і варыянты. Бо часам цяжка бывае нават уявіць, вымераць, з пункту гледжання нармальнай логікі, ход думак, сістэму і матывацыю паводзінаў і ўчынкаў людзей, якія воляю лёсу вызначаюць сёння нашу будучыню і будучыню нашых наступнікаў. Але калі ўсё ж дапусціць, што Беларусь будзе паглынута, то наіўна меркаваць, што "правапераемнік" СССР на гэтым спыніцца. Адразу ж узнікае заканамернае пытанне — хто наступны? Не менш "славянская" Украіна, якая, што сёння відавочна, не да канца яшчэ ўсвядоміла небяспеку для сваёй дзяржаўнасці ў беларускім аншлюсе? Ці Прыбалтыка, якая спадзяецца паспець схавацца пад натаўскім парасонам? Дарэмна некаторыя палітыкі суседніх краін усяляк заспакойваюць сябе, мудра даводзячы нешта пра ўнутраныя справы Беларусі. Апетыт, як кажуць, моцна ўзмацняецца падчас яды...

Але праблема не толькі ў ненатольным апетыце розных палітыкаў (хай скажуць, а калі яго не было?), не толькі ў "няпоўным" і ў чарговы раз ашуканым народзе, які далёка не "ўвесь" прагне заняць месца дармаедаў у чужым доме. Праблема не ў нязгоднай з "аншлюсам" меншнасці, даволі дакладна вызначанай яшчэ падчас выбараў 1994 г. Галоўная праблема Беларусі сёння — у тым геапалітычным пасьянсе, які зноў, як гэта не раз ужо было ў нашай гісторыі, расклалі без беларусаў. Дык, можа, час ужо і самім раскласці карты, а не адно глядзець на тое, як яны мільгаюць у чужых руках?..

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

ЭКСЛІБРЫС

# Мая зямля

*Жывапіс беларускіх мастакоў. Мінск. 1996.*

**Трымаю ў руках прыгожы мастацкі альбом, складзены са слайдаў з карцін, назапашаных у часопісе "Мастацтва". Углядаюся ў карціну на вокладцы альбома. Аўтар яе, на жаль, нідзе не пазначаны. Цёмны лясок, рэчка, палі, дарогі. На першым плане — маленькія фігуркі людзей, якія ці то скірдуюць стог, ці то з вінтоўкамі ўзбіраюцца на жоўты ўзгорак. А, можа быць, яны падзелены, думаю я. Двое скірдуюць, а трое з вінтоўкамі праходзяць паўз іх і ідуць да рэчкі? Можа, дзе-небудзь непадалёк ляжыць трубаправод? І карціна адразу набывае сучасны змест. На ёй як бы адбітае і мінулае, і сучаснасць, і будучыня гэтай зямлі, якая пакуль што яшчэ наша, мая, але гэта не значыць, што навечна.**

**Я гляджу на дом і хлявы на карціне А. Гараўскага, якія так нагадваюць фальварак у Ракуцёўшчыне, што аднаўляецца зараз; я гляджу на аб'едзеныя хвосцікі маліны і на пабітыя плямкамі яблыкі ў кошыку на карціне І. Хруцкага; на вернікаў, якія кленчаць пад блакітным небам перад драўляным вясковым касцёлам на карціне Ф. Рушчыца, і адчуваю, што гэта сапраўды — мая зямля.**

**Някідкія бляклыя фарбы ў нашай прыроды. Толькі ў траўні на тыдзень-два яркая зеляніна і аквамарынавае неба круцяць галаву, а так — паўтаны, паўколеры, паўцені. Дасканала адчуў і адбіў душу беларуса праз прыроду В. Бялыніцкі-Біруля. Я гатовы бясконца ўглядацца ў ягоныя шматлікія варыянты беларускага пейзажу, і мне падаецца, што там — разгадка беларускага характару.**

**Гартаю альбом далей. Вось "Шляхам жыцця" П. Сергіевіча, якая ніколі не падабалася мне з-за свайго бызвыходнага настрою. Няўжо гэты магутны, але прыбіты беларус, які цягне торбу, аніколі не расправіць плячэй? А вось пейзаж Я. Драздовіча здаецца геніяльна простым і дасканалым.**

**Гартаю далей і вока спыняецца на халодным, рацыянальным Мінску М. Данцыга. Шэрая кубатура Дома ўрада, іржавыя ад бруднага снегу дарогі і мост — ідэальнае месца для самагубцы.**

**"Мой дом" В. Сумарава — апафеоз развітога камунальнага сацыялізму. Недарма над адным пад'ездам двухпавярховага драўлянага барака завісае чырвоны сцяг, а над другім — шыльда: "вул. Беларуская, 37".**

**Увогуле, слайды падабраныя даволі густоўна і далей можна спыняцца калі не на кожным, дык праз аўтара.**

**Нягледзячы на вонкавую адметнасць у манеры пісання — ад "размытасці" Я. Батальёнка да "фатаграфізму В. Шкарубы, ёсць нейкае няўлоўнае падабенства ў творах беларускіх мастакоў сярэдняга веку. Свой адбітак, мабыць, наклала школа мастацкай акадэміі. На гэтым тле асобна вылучаюцца творы беларускіх мастакоў-замежнікаў.**

**Мая зямля — мастакам як нікому іншаму наканавана апяваць яе прыгажосць, бо, як пісаў М. Багдановіч, "нашто каласы, калі няма васількоў?"**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# Кветкі, апладысменты і... любоў



**Калі сёння артыст можа сабраць на свой бенефіс паўнюткай такую вялікую залу — ён сапраўды дасягнуў вяршынь у сваёй прафесіі... Мусіць, пра гэта мімаволі думалася кожнаму, хто прыйшоў 19 мая ў Канцэртную залу філармоніі. У той дзень на філарманічнай сцэне адбываўся бенефіс актрысы, мастацкага кіраўніка беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" Галіны Дзягілевай, прымеркаваны да 30-годдзя яе творчай дзейнасці. Менавіта монаспектаклі Г. Дзягілевай па творах беларускіх паэтаў сталіся асновай утварэння тэатра, а вобразы гераінь актрысы — яго візітнай карткай: Рагнеда, Ларыса Геніюш, Русалка... Для свайго бенефіса Г. Дзягілева выбрала ролю апошняга свайго монаспектакля "Віленскія мроі" — Юльяну Вітан-Дубейкаўскую з роду Мэнке, сяброўку, паплечніцу і нявесту Івана Луцкевіча. Менавіта ўспаміны пра апошняга і складаюць сюжэтную аснову спектакля.**

**У другім аддзяленні імпрэзы Г. Дзягілева прымала віншаванні. Прагучалі ўзнёслыя, цёплыя словы пра актрысу, яе майстэрства, грамадзянскую пазіцыю і чалавечыя якасці з вуснаў Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Вольгі Іпатавай, Васіля Жуковіча. Песенныя віншаванні падаравалі ансамбль "Камерата", спявачка Надзея Мікуліч, кампазітар Уладзімір Казбанаў з дзіцячым ансамблем "Тымпан". Віншавалі Г. Дзягілеву і калегі па "артыстычным цэху" — з Віцебскага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, дзе некалі пачыналася творчая біяграфія актрысы, з Тэатра юнага гледача. Аляксей Дудараў перадаў віншаванне ад Саюза тэатральных дзеячаў. Падрыхтавалі свае выступленні-віншаванні філалагічны факультэт БДУ і педуніверсітэт, іншыя арганізацыі, дзе добра знаёмы з дзейнасцю тэатра "Зніч" і творчасцю актрысы. Вёў вечарыну Валерый Анісенка.**

**Кветкі і апладысменты былі сведчаннем любові да актрысы, якую добра ведаюць не толькі на Беларусі — незадоўга да імпрэзы ў філармоніі тэатр "Зніч" наведаў Вільню па запрашэнні тамтэйшага культурнага беларускага таварыства. Гастролі былі невыпадковымі — бо дзеянне спектакля "Віленскія мроі" адбываецца менавіта ў Вільні, і менавіта там цяпер жыве пляменнік героя спектакля, Івана Луцкевіча, Лявон Луцкевіч, якому нядаўна споўнілася 75 гадоў. Далучыцца да творчасці Галіны Дзягілевай тады прыйшлі не толькі віленскія беларусы, але і літоўцы, прадстаўнікі беларускага пасольства ў Літве. Спектакль атрымаў розгалас і ў літоўскай прэсе, і на радыё, і на тэлебачанні. Пра гэта мімаволі ўспомнілася на імпрэзе 19 мая — бо Беларускае тэлебачанне не знайшло магчымасцяў зазняць бенефіс вядомай актрысы.**

**Але, думаецца, галоўнае — што ўбачаная імпрэза застанецца ў памяці ўдзячных гледачоў.**

**Л. Ш.**

*На здымку: кветкі Галіне Дзягілевай ад Данчыка, 1996 г.*

# "Галоўнае — заставацца людзьмі"

***Язэп ЯНУШКЕВІЧ добра вядомы сталым чытачам "ЛіМа" як даследчык гісторыі беларускай літаратуры апошняй генерацыі навукоўцаў, укладальнік "Твораў" В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, аўтар кнігі "Неадменны сакратар Адраджэння", прысвечанай Вацлаву Ластоўскаму, у якой упершыню робіцца спроба паказаць жыццёвы шлях колішняга сакратара "Нашай Нівы", былога прэм'ер-міністра БНР... Гэта якраз і сведчыць, што ён — літаратуразнаўца з выразнай грамадзянскай пазіцыяй. З ім гутарыць наш карэспандэнт Аляксей ШЭІН.***

**— Сп. Язэп, у 1994 г. выйшла ваша чарговая кніжка "У прадчуванні знаходак", у ёй вы абагулілі свае набыткі — пошукі ў архівах Варшавы, Вроцлава і Кракава. Ці не падвяло вас прадчуванне, ці патрапіла вам нешта незвычайнае?**

— Задума той кнігі нарадзілася дзякуючы маёй першай стажыроўцы — у 1988 г., у Інстытуце славістыкі Польскай Акадэміі навук. І рэалізавалася яна канчаткова ў 1994 г. У той момант, калі выходзіла кніга, я зноў стажыраваўся, але ў іншай установе: у Інстытуце літаратурных даследаванняў (Instytut Badac Literackich) ПАН. Як нам усім памятаецца, пачатак 90-х быў вельмі плённым у Польшчы і ў Беларусі. У гэтых стажыроўках мне паспрыяла амбасада Польшчы. Я вельмі ўдзячны інтэлігентнай спадарыні-паслу прафесару Эльжбеце Смулак. Я папрасіўся на стажыроўку на тры месяцы, мяркуючы, што дадуць два. А далі тры. Узнік клопат: мусіў падзяліць жаданую стажыроўку. У маім разуменні тры месяцы запар працаваць, ці пісаць, ці адпачываць — зашмат. Першую рату я адбыў увосень 1993 г. у варшаўскіх архівах, а наступныя паўтара месяца — увесну 1994-га — у Кракаве.

Кракаў мне ўспамінаецца вельмі сонечным, узнёслым настроем дзякуючы архіўным сховішчам і людзям, выбітным асобам, якія сталі сябрамі. Па даўняй сталіцы Пястаў у 1988 г. мне спадарожнічаў Алег Латышонак, які зараз жыве ў Беластоку, у 1994 г. — прафесар Здзіслаў Нядзеля, сябра Уладзіміра Караткевіча. З ім мы досыць часта сустракаліся "pod Mickiewiczem" — ля помніка Адаму Міцкевічу на Ратушнай плошчы, побач з Марыяцкім касцёлам. Прафесар Нядзеля нядаўна памёр, і Кракаў мне бачыцца асірацелым...

Апошняя стажыроўка адрознівалася ад першай тым, што значных знаходак не надарылася. Траплялiся розныя ўспаміны пра наш край; аўтабіяграфія Адама Кіркора (з яе даведваемся дату яго нараджэння); матэрыялы, звязаныя з братамі Тышкевічамі. Як высветлілася, Яўстах пісаў паэзію, па-польску, але з беларускім каларытам. Напаткаліся новыя звесткі пра беларускага пісьменніка XIX ст. Вайніслава Сулімы-Савіч-Заблоцкага (ягоныя арыгінальныя пісьмы захоўваюцца ў бібліятэцы Чартарыйскіх). Вывучаў фальклорныя запісы Адама Гурыновіча, знаёмыя вузкаму колу спецыялістаў і дасюль неапублікаваныя. Мяркую, і не будуць з-за сваёй "салёнасці". Паказваў іх прафесару Нілу Сымонавічу Гілевічу. Ён параіў: няхай гэта застанецца для спецыялістаў.

Аднак увогуле 94-ы год быў багаты на працы ў архівах. Яшчэ ўзімку, перад Кракавам, я пасядзеў у віленскіх сховах (збіраў матэрыялы пра Вацлава Ластоўскага, для зборніка дакументаў і матэрыялаў пра Ф. Багушэвіча). Увосень, на запрашэнне Польскага гісторыка-літаратурнага таварыства імя Адама Міцкевіча, накіраваўся ў Парыж, каб папрацаваць у славянскіх зборах музея Міцкевіча. Мяне заінтрыгавалі звесткі пра тое, што ў французскай сталіцы апынуўся асабісты архіў Вайніслава Савіч-Заблоцкага (больш паўтысячы старонак), іншыя цікавыя матэрыялы. Але Парыж не даў мне жаданых адкрыццяў у беларускамоўнай абалонцы. Хаця рукапісы таго ж Вайніслава, мемуары Аляксандра Рыпінскага там знайшліся (успаміны апошняга — сем сшыткаў — пра паўстанне 1830 — 1831 гадоў пераважна асвятляюць падзеі ў Вілейскім, Дзісенскім, Браслаўскім паветах).

Потым у архіўных вандроўках адбыўся двухгадовы перапынак (калі не лічыць "наезду" на Гародню, дзе ў тамтэйшым архіве адшукаўся метрычны запіс пра нараджэнне невядомага Купалавага брата, Мікалая, старэйшага за песняра). Я даводзіў да ладу кніжку пра В. Ластоўскага. Назбіралася багата матэрыялаў у Вільні і ў Мінску. Адкрываўся вялікі неспазнаны мацярык, цэлы сусвет, імя якому — Вацлаў Ластоўскі. Кніжка пра яго выйшла ў 1995 годзе ў гожай серыі "Нашы славутыя землякі", якой прафесійна апекаваўся рэдактар Зміцер Санько. Наколькі ведаю, зараз выхад знакамітай серыі ў Акадэмічным выдавецтве прыпынены.

**— Сёлетняй вясной вы працавалі ў Віленскіх архівах...**

— Апошняя красавіцкая вандроўка ў Вільню прынесла свой чарговы плён. Найперш ён звязаны з архівам БНР, з якім ужо знаёміўся напрадвесні 93-га. Там безліч розных каштоўных матэрыялаў, асабліва ў папках В. Ластоўскага. Сярод асабістай перапіскі прэм'ер-міністра Беларускай Народнай Рэспублікі, рэдактара Беларускага ковенскага часопіса "Крывіч" сустракаюцца аўтографы М. Гарэцкага, Р. Зямкевіча, Б. Эпімах-Шыпілы, Б. Тарашкевіча, Э. Будзькі, П. Мядзёлкавай-Грыб, самога Тамаша Грыба... таксама ў Аддзеле рукапісаў Акадэмічнай бібліятэкі (былая бібліятэка Урублеўскіх) знайшліся невядомыя аўтографы ўласна В. Ластоўскага. А яшчэ — у Гістарычным архіве натрапіў на цікавыя дакументы пра Валожын мінулага стагоддзя. Яны будуць выкарыстаны ў кніжцы, якая выйдзе да юбілею Валожына.

**— Дарэчы, вы былі ўкладальнікам кнігі "Памяць, прысвечанай Валожыншчыне, надрукаванай у гэтым годзе.**

— Калі дакладнай, яна выйшла ў снежні мінулага. Летась я адышоў ад працы над рукапісам кнігі. Адчуў: тое, што хацеў рабіць як укладальнік, не атрымлівалася па розных прычынах. Мне не давяралі: прыносіў пэўныя дакументы, прапаноўваў уключыць іх у кнігу, а матэрыялы не толькі не ставіліся (хоць бы ўрыўкамі), не праходзілі зусім. Не быў згаданы нават генерал Францішак Кушаль — наш зямляк, які першы падаў абуральны пратэст-заяву наконт знішчэння жыхароў-сваякоў у ягоных родных Дорах вылюдкамі Дзірленвангера.

Няхай чытач мяркуе, атрымаўся том ці не, але ён, паўтаруся, далёка няпоўны і зусім аднабаковы — асабліва перыяду апошняй вайны. Летась у траўні рэдакцыя "Нашай Нівы" змясціла вялікую старонку з тытулам: "Дакументы, якія гавораць самі за сябе". Яна цалкам склалася з матэрыялаў, не ўвайшоўшых у раённую кнігу "Памяць". Усе яны, як адзін, пра Валожынскі раён.

**— Значыць, кніга цэнзуравалася?**

— Атрымліваецца, што так... На завяршальным этапе, калі матэрыялаў назбіралася вельмі шмат, больш тысячы старонак — рукапіс моцна скарачаўся і не да лепшага. Шмат якія дакументы не ўпрыгожылі гэты том...

**— Наколькі ведаю, вы адмаўляліся ад свайго аўтарства па складанні тома?**

— Я ў жыцці прызвычаіўся рабіць усё так, каб потым не шкадаваць, і тым больш не перайначваць. Як бачна, гэта кніга стала выключэннем. Зараз разумею, мне не варта было брацца за яе, аднак тады, у час адраджэння нашай краіны, думалася, што годна адолею гэты том і падам праўдзівую інфармацыю пра родную старонку...

**— У свой час вы праводзілі літаратурную экспертызу нашумелай ананімнай паэмы "Лука Мудзішчаў — прэзідэнт". Не баяліся брацца за такую справу?"**

— Тады былі яшчэ даволі спрыяльныя часы... Чаму ўзяўся? Да мяне падыходзілі знаёмцы і пыталіся: "Мы прачыталі ў друку, што Інстытут літаратуры склаў літаратуразнаўчую экспертызу не на карысць газеты "Свабода" і ягонага рэдактара..." Галоўным маім жаданнем, як і майго калегі-сааўтара Івана Саверчанкі, было паказаць, што ў нас у інстытуце далёка да "адзінадушша", якім славілася ідэалогія з трыццатых гадоў. А па-другое, я перакананы да сённяшняга дня: аўтара нельга судзіць за мастацкі вобраз.

**— Давайце пагаворым пра ваш род. Браты Янушкевічы — людзі вядомыя і ў Беларусі, і па-за яе межамі...**

— Як падпісаў У. Караткевіч на адной са сваіх кніг падчас чарговага наведання Ракава 2 мая 1979 г. — "наш род Вялікі". Пра сябе я маю права расказваць, а пра іншых? Хай яны раскажуць самі. Бо сапраўды, род наш немалы. Нас 5 братоў. Мне здаецца, калі хто з нас і дасягнуў нечага (Фелікс — у жывапісе, Валяр'ян — у скульптуры, ці найстарэйшы брат Казімір — у фізіцы цвёрдага цела, ён даследуе ўласцівасці магнітных матэрыялаў), — то дзякуючы працавітасці і сумленным адносінам да сваіх прафесійных абавязкаў. Найбольш нашы поспехі звязаны менавіта з працавітасцю, што закладвалася некалі ў кожнай гаспадарнай сям'і. З дзяцінства нас прывучылі любую даручаную працу рабіць добра, як і належыць па этыкеце роду, моцна павязанаму з роднай зямлёй ці на змагарным полі, ці ў стваральнай



працы. Мусілі любую працу, якая б і даручалася, рабіць па-сапраўднаму — ці ўлетку стаць з касой у пракосе, і, сцяўшы вусны, дайсці загон да канца нароўні са старэйшымі, ці зімовым адвячоркам, адклаўшы ўбок урокі, брацца за ручку сячкарні, каб нарэзаць сечкі... Гэтая працавітасць дапамагала у тых галінах навукі і мастацтва, куды нас паклікаў лёс. Нам, загартаваным, было значна лягчэй. Калі любіш сваю працу, усе намаганні здаюцца не цяжкімі.

**— Любіць працу вас навучылі ў сям'і. А хто зрабіў з вас, дзяцей, патрыётаў?**

— Бацькі-дзяды ткалі гістарычную аснову. Асабліва тата і мама (яна карэнная ракаўчанка, можа, у пятым калене; дарэчы, як кажуць, што шавец ходзіць без ботаў, а кравец без людскіх нагавіц, так і я, узнаўляючы розныя радаводы — Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, В. Ластоўскага, неяк усё не маю часу дабрацца да ўласнага). Яны далі шмат праўдзівай інфармацыі пра тыя часы, калі прайшло іх дзяцінства і маладосць, і якія зусім па-іншаму падаваліся ў нашых школьных падручніках. Тата (ён паходзіць з Усходняй Беларусі) расказваў нам малым тое, адкрыццё чаго для многіх адбылося ў часы "галоснасці". Мы раслі пад вусцішныя аповеды — як прыязджаў "варанок", як уначы бясследна знікалі людзі. Дзеда нашага, Яна, што жыў у засценку Варашылы пад Заслаўем, таксама ўзялі, у сярэдзіне 20-х — Сібір і расстрэл ён абмінуў. Працаваў на будаўніцтве Дома ўрада, Дома афіцэраў, а потым дабываў тэрмін у асіповіцкіх балотах на здабычы торфу. А ягоны брат, якога звалі Язэп, хутчэй за ўсё спачывае ў Курапатах.

Сучаснае нацыянальнае выхаванне для мяне праходзіла не без уплыву старэйшага брата Фелікса. Нават на выбар накірунка маёй будучай навуковай працы ён пэўным чынам паўплываў. Дый мне самому не хацелася займацца перапісваннем рэчаў вядомых, мне былі сімпатычныя дух, прага да адкрыцця новага, неспазнанага. Наколькі дарэчы я ўсім гэтым распарадзіўся, хай мяркуюць чытачы.

**— Што, на ваш погляд, павінна рабіць інтэлігенцыя зараз, у гэты час? І што робіць? Ці не вельмі яна хворая на канфармізм?**

— Адказваючы на першае пытанне — зазначу: беларуская інтэлігенцыя павінна рабіць тое, што заўсёды рабіла асвечаная частка нашага народа. Пра канфармізм?.. Гэта ўжо асабісты выбар кожнага, і вызначаецца традыцыяй выхавання. Належыць трымацца закладзенага змалку "звычаёвага" кодэксу — не зганьбіць добрую славу сям'і, вёскі, роду, не прадаць свайго імя, сваіх родзічаў, знаёмых, суседзяў. Не стаць на шлях Юды. Пастарацца пакінуць пасля сябе на зямлі, якая нас нарадзіла і выгадавала, нешта светлае і большае, чым яна мела да твайго нараджэння.

**Гутарыў Аляксей ШЭІН**

# Правы чалавека — аснова свабоды

## З НАГОДЫ ВЫХАДУ Ў СВЕТ КНІГ ПАЛІТОЛАГА ІВАНА КАТЛЯРА

САМАКАШТОЎНАСЦЬ і недатыкальнасць асобы, прызнанне і рэальнае захаванне правоў і свабод чалавека з'яўляюцца асноўнай прыкметай цывілізаванасці грамадскіх адносін, гарантыяй эфектыўнага функцыянавання дэмакратычных інстытутаў любой краіны. Народжаныя і правераныя гістарычным вопытам чалавецтва, гэтыя каштоўнасці набылі універсальны характар, сталі зыходным пунктам і арыенцірам для пабудовы сапраўды свабоднага, дэмакратычнага грамадства. Іх лёсавызначальнае значэнне асабліва відавочна на фоне тых непераадольных супярэчнасцей сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця, якія перажывае сёння Рэспубліка Беларусь.

Абмежаванне свабоды чалавека, ігнараванне яго законных правоў і інтарэсаў фактычна падразае пад корань любыя самыя добрыя намеры дзяржавы, любыя дэклараваныя ёю праграмы і праекты. І вельмі крыўдна, што такой прасцейшай ісціны не разумеюць некаторыя ўладныя структуры, распрацоўшчыкі і выканаўцы гэтых самых праграм і праектаў. Адсюль, мабыць, іх прыхільнасць да адміністрацыйна-камандных, сілавых метадаў вырашэння ўсіх праблем. Адсюль іх адмоўнае, а часам і агрэсіўнае стаўленне да лібералізму і дэмакратыі наогул.

І справа тут не толькі ў дубінках і "чорных варанках", якія сталі своеасаблівым сімвалам сталічнага атрада беларускай міліцыі і яго своеасаблівага разумення сваёй "праваахоўнай" місіі. Не толькі ў цэнзуры, парушэннях свабоды слова і друку. Справа яшчэ і ў тым, што сваім няўменнем гаспадарыць і актыўным процідзеяннем рынкавым пераўтварэнням чыноўнікі пазбаўляюць людзей аднаго з асноўных канстытуцыйных правоў — права на годны ўзровень жыцця, уключаючы дастатковае харчаванне, адзенне, жыллё і пастаяннае паляпшэнне неабходных для гэтага ўмоў. Справа і ў існуючых цяжкасцях з ажыццяўленнем канстытуцыйных гарантый на разнастайнасць палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў, немагчымасці публічнага выражэння палітычнай волі грамадзян, нязгодных з дзеяннямі улад. Ды, нарэшце, і ў шматлікіх фактах парушэнняў іншых грамадзянскіх правоў і свабод.

І тут узнікае лагічнае пытанне: а ці гатовыя мы да таго, каб абараніць свой гонар і годнасць, каб будаваць жыццё на аснове павагі да асобы і думкі любога чалавека, на аснове роўнасці ўсіх перад законам, строгага выканання дзяржавай свайго абавязку па забеспячэнні асабістай свабоды, недатыкальнасці і незалежнасці кожнага чалавека? Адназначнага адказу на гэтае пытанне няма, таму што за дзесяцігоддзі існавання таталітарнай сістэмы людзьмі авалодалі страх і пачуццё няўпэўненасці за свой лёс і будучыню сваіх дзяцей, а кінутыя зусім нядаўна на такую глебу зярняты дэмакратыі не ўсюды змаглі прарасці і даць добры ўраджай.

Тым больш надзённай для кожнага становіцца патрэбнасць вызначыць сваю асабістую пазіцыю ў такім надзвычайна важным і далікатным пытанні, як абарона правоў чалавека. Слава Богу, у грамадстве заўсёды знаходзяцца людзі, якія незалежна ад маўклівай большасці гатовыя гаварыць на поўны голас, практычна дапамагаць сцвярджэнню вяршэнства закона над беззаконнем і самавольствам.

Іван Іванавіч Катляр, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта сваю пазіцыю як грамадзянін і вучоны заўсёды праяўляў і праяўляе ў канкрэтных дзеяннях, якія часцей за ўсё выяўляюцца ў маральнай рэакцыі на канкрэтныя факты самавольства і беззаконня. Пачынаючы з сярэдзіны 1960-х гадоў, з самага пачатку прававабарончага руху, ён выказваўся ў падтрымку асуджаных іншадумцаў, аказваў адкрытае процідзеянне чыноўнікам ад ідэалогіі за іх антыдэмакратызм і задушэнне ўсякай свабоднай думкі, актыўна дапамагаў вернікам і свяшчэннаслужыцелям у іх барацьбе за "вяртанне царквы", адкрыццё храмаў і малітоўных дамоў, рэгістрацыю забароненых рэлігійных абшчын. У 1990 г. І. Катляр арганізаваў канферэнцыю з удзелам студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта, прысвечаную міжнароднаму дню правоў чалавека і гадавіне з дня смерці А. Сахарава, а ў 1995 г. — навукова-практычную канферэнцыю, прысвечаную 50-годдзю ААН, на якой адно з цэнтральных месц займала праблема сцвярджэння і міжнароднай абароны правоў чалавека. Ён узначаліў Брэсцкае абласное аддзяленне Беларускай асацыяцыі садзейнічання ААН і беларускую секцыю Міжнароднага таварыства правоў чалавека.

Ідэя захавання і абароны грамадзянскіх правоў і свабод фактычна стала галоўным змястоўным стрыжнем першай філасофска-дакументальнай кнігі І. Катляра "Погляд знутры: Грамадска-палітычны працэс на Беларусі", выдадзенай у Брэсце ў 1993 г. (рэцэнзія на кнігу апублікавана ў "ЛіМе" за 29 ліпеня 1994 г.). І вельмі прынцыпова, што ўжо ў ёй прама і адназначна выказвалася думка аб вострай неабходнасці аваладання тэорыяй правоў чалавека, паглыблення навуковых даследаванняў у гэтай галіне. Гэта было тым больш важна, што Генеральная Асамблея ААН абвясціла перыяд 1995—2004 гг. Дзесяцігоддзем адукацыі ў галіне правоў чалавека як фундаментальных асноў дэмакратычнага статуса асобы і яе ўзаемаадносін з грамадствам і дзяржавай.

Рэалізуючы задуманае, вучоны распрацаваў праграму спецкурса "Правы чалавека", які ў 1993-94 навучальным годзе быў уведзены на гістарычным факультэце Брэсцкага універсітэта, потым на факультэце фізічнага выхавання і спорту, а ў бягучым годзе вывучаецца на васьмі факультэтах, уключаны ў праграму падрыхтоўкі бакалаўраў. У 1996 г. выйшла ў свет яго кніга "Правы чалавека: Сучасныя ўяўленні і механізмы абароны".

У кнізе раскрываюцца сутнасць і двухсотгадовая гісторыя ідэі правоў чалавека, супярэчнасці і перашкоды на шляху яе практычнай рэалізацыі, аб'ектыўныя ўмовы і фактары ажыццяўлення і захавання правоў і свабод людзей у свеце, у тым ліку і ў Рэспубліцы Беларусь. Сярод гэтых фактараў аўтар перш за ўсё адзначае вастрыню праблем выжывання чалавецтва і ахоўы навакольнага асяроддзя, неабходнасць дэмакратызацыі палітычных рэжымаў улады, пераадолення аўтарытарызму і таталітарызму ў розных формах, строгага выканання ўсімі дзяржавамі і грамадствамі тых фундаментальных палажэнняў, якія закладзены ва Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, прынятай ААН 10 снежня 1948 г.

На сур'ёзны роздум наводзіць чытача падрабязны палітыка-прававы каментарый Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і нацыянальнага заканадаўства аб правах, свабодах і абавязках асобы. Разважаючы разам з аўтарам над высакароднасцю абвешчаных дзяржавай мэт і іх практычным увасабленнем, прыходзіш да вельмі важнага вываду аб тым, што ва ўмовах глыбокага сацыяльна-эканамічнага крызісу грамадзяне пакутуюць не толькі ад дзеяння або бяздзеяння органаў улады, але і ад анархіі і неразбярыхі, разбуральнай канфрантацыі, матэрыяльнай незабяспечанасці і юрыдычнага нігілізму, выдаткаў яшчэ кволай і неразвітой дэмакратыі, а таксама няўмення і нежадання аднаго чалавека паважаць правы другога.

Лагічным працягам зробленага стала падрыхтоўка І. Катляром грунтоўнай навуковай працы "Правы чалавека", якая выйшла ў Мінску ў 1996 г. у выдавецтве "Права і эканоміка". Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь яна была рэкамендавана ў якасці навучальнага дапаможніка для студэнтаў неюрыдычных ВНУ, а таксама настаўнікаў школ і тых, хто вывучае розныя прававыя дысцыпліны ў іншых навучальных установах.

Паказваючы гістарычнае паходжанне правоў чалавека, І. Катляр падкрэслівае, што яны належаць чалавеку ад нараджэння і не звязаны з ніякім спосабам вытворчасці або якой-небудзь адной сістэмай ці тыпам права. Належнае асяроддзе для іх існавання стварае толькі прававая дзяржава і свабоднае цывільнае грамадства, якія забяспечваюць гарантыю іх захавання і абароны ад парушэнняў з боку улад, грамадскіх аб'яднанняў або асоб. Пры гэтым аўтар адзначае дыялектычную ўзаемасувязь індывідуальных правоў чалавека з калектыўнымі, з правамі нацыі і падводзіць чытача да высновы: трэба навучыцца дабівацца свабоды для сябе, свайго народа такім чынам, каб пры гэтым не ўшчамляць свабоду другіх.

Як вядома, класічныя палажэнні аб натуральных правах людзей, прававых гарантыях забеспячэння інтэлектуальнай і палітычнай свабоды знайшлі адлюстраванне яшчэ ў маральных нормах хрысціянскага веравучэння, у англійскай Вялікай Хартыі Вольнасцей 1215 г., Статуце ВКЛ 1588 г., Канстытуцыі ЗША 1791 г., "Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна", абвешчанай у час Вялікай французскай рэвалюцыі 1789 г., у вучэннях аб прыродных, неадчужальных правах чалавека, дагаворнай сутнасці дзяржавы. У сувязі з гэтым уяўляе інтарэс спасылка аўтара на беларускіх мысліцеляў-асветнікаў Ф. Скарыну, С. Будната, М. Літвіна, А. Волана і інш., якія ўнеслі значны ўклад у распрацоўку тэорыі натуральнага права і маральных, прававых каштоўнасцей грамадства. Даволі актуальнай, напрыклад, уяўляецца ідэя Скарыны аб тым, што "калі ў грамадстве адсутнічаюць законапаслушэнства і пануе свавольства і беззаконне, то гэта — грамадства не людзей, а воўчая зграя".

Цэнтральнае месца ў кнізе займае раздзел, у якім даецца класіфікацыя правоў чалавека, аналізуюцца іх структура і сутнасць, канстытуцыйныя гарантыі забеспячэння. Так, раскрываючы своеасаблівасць грамадзянскіх правоў, аўтар адзначае, што яны акрэсліваюць межы асабістай свабоды чалавека праз сістэму недапушчэння любых дзеянняў дзяржаўных органаў і іншых арганізацый і асоб, якія з'явіліся б замахам, незаконным умяшаннем у яго жыццё, ушчамлялі б яго гонар і годнасць. Дакладна характарызуюцца ў дапаможніку грамадзянскія, эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы людзей, перш за ўсё права на жыццё, на бяспеку і асабістую недатыкальнасць, на ўласнасць, на працу, захаванне сваёй нацыянальнай прыналежнасці і інш. Відавочна, у будучым аўтару варта было б больш падрабязна прааналізаваць спецыфіку правоў такіх катэгорый насельніцтва, як непаўналетнія, інваліды, пенсіянеры, спажыўцы, уласнікі і іншыя, а таксама суадносіны паміж правамі нацыянальных меншасцей і карэннай нацыі.

Пры аналізе структуры палітычных правоў і свабод І. Катляр акцэнтуе ўвагу чытачоў перш за ўсё на гарантаваных міжнароднымі дакументамі і нацыянальным заканадаўствам свабодзе слова, поглядаў і перакананняў, праве на іх адкрытае і публічнае выказванне. Свабодная прэса — гэта, на думку аўтара, духоўнае люстэрка, у якім народ можа ўбачыць сябе, а самапазнанне ёсць першая ўмова мудрасці. Вось чаму так важна забяспечыць гарантаваную дзяржавай даступнасць да сродкаў масавай інфармацыі ўсіх палітычных сіл і слаёў насельніцтва, свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, права на непасрэдны ўдзел у кіраванні справамі дзяржавы.

Агульнапрынятымі і агульнадэмакратычнымі каштоўнасцямі асобы правы чалавека сталі лічыцца дзякуючы мэтанакіраванай дзейнасці ААН і яе спецыялізаваных устаноў. Таму не без цікавасці чытаюцца старонкі кнігі, дзе зроблена спроба прааналізаваць праз прызму міжнародных дакументаў і прававых норм нацыянальнае заканадства Рэспублікі Беларусь і, у першую чаргу, Канстытуцыю, якая абвясціла Беларусь дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай, а чалавека, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі найважнейшай каштоўнасцю і мэтай грамадства, дзяржавы.

Скажам, павучальным для нас з'яўляецца канстытуцыйнае прызнанне роўнасці ўсіх перад законам, права кожнага без усякай дыскрымінацыі на роўную абарону сваіх правоў і законных інтарэсаў. А гэта, у сваю чаргу, немагчыма без фарміравання ў Беларусі інстытутаў цывільнага грамадства з развітымі эканамічнымі, прававымі і палітычнымі адносінамі паміж яго членамі, якія былі б незалежнымі ад дзяржавы, але ўзаемадзейнічалі з ёю ў вырашэнні надзённых праблем. Мяркую, што атрымае належную падтрымку чытачоў прапанова аўтара ўключыць у нацыянальнае заканадаўства нормы, якія забаранялі б злоўжыванне ўладай і прадугледжвалі б дзейсныя сродкі абароны чалавека, стварыць у краіне нацыянальную сістэму абароны правоў грамадзян, састаўнымі элементамі якой маглі б стаць нацыянальная камісія па правах чалавека, аналагічнай камісіі пры абласных, гарадскіх і раённых Саветах, суды ўсіх узроўняў, прафсаюзы, сродкі масавай інфармацыі і такія аўтарытэтныя праваабарончыя арганізацыі, як Беларускі Хельсінскі камітэт, Беларуская секцыя Міжнароднага таварыства правоў чалавека, Беларуская Ліга правоў чалавека і інш.

Змястоўныя тэарэтычна і метадычна насычаныя навучальныя дапаможнікі Івана Катляра паспяхова праходзяць апрабацыю непасрэдна ў вучэбным працэсе, атрымалі высокую ацэнку вядучых вучоных-палітолагаў, педагогаў, работнікаў сістэмы народнай адукацыі. Так, удзельнікі абмеркавання, якое адбылося ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы і гуманітарнай адукацыі, асабліва адзначалі той факт, што аўтарам такога унікальнага і патрэбнага дапаможніка, як "Правы чалавека", стаў не прадстаўнік сталічнай навуковай эліты, а даследчык і выкладчык-практык з Брэста, чыя грамадзянская пазіцыя, шырокая эрудыцыя і прафесійнае майстэрства дазволілі належным чынам рэалізаваць задуманае. Зыходзячы з таго, што І. Катляр фактычна стаў ініцыятарам даследаванняў па новым накірунку навуковай думкі ў Беларусі, аўтарам першага ў краіне навучальнага дапаможніка па правах чалавека і арганізатарам шырокага вывучэння гэтага курса, вучонаму савету Брэсцкага універсітэта было рэкамендавана разгледзець пытанне аб пераводзе яго на пасаду прафесара.

Назапашаны ў брэсцкіх і іншых ВНУ рэспублікі вопыт выкладання правоў чалавека, а таксама звязаныя з гэтым тэарэтычныя і метадычныя праблемы, знайшлі шырокае адлюстраванне на першай рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі на тэму "Правы чалавека ў Рэспубліцы Беларусь: механізмы абароны і рэалізацыі, праблемы выкладання", якая прайшла ў Брэсце ў канцы мінулага года. Канферэнцыя рэкамендавала ураду краіны ажыццявіць шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне становішча з правам розных катэгорый насельніцтва, на справе гарантаваць рэалізацыю права на годны ўзровень жыцця, здароўе, свабоду ад галечы і беспрацоўя, а таксама распрацаваць праекты законаў аб падтрымцы сацыяльна неабароненых грамадзян. Міністэрству адукацыі, створанаму пры ім Каардынацыйнаму цэнтру па адукацыі ў галіне правоў чалавека было рэкамендавана ўвесці курс "Правы чалавека" ў праграмы усіх вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, стварыць і арганізаваць падрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі навукова-педагагічных кадраў па методыцы яго вывучэння, а таксама прызнаць мэтазгодным наладзіць выпуск спецыяльнага альманаха і іншых перыядычных выданняў па гэтай праблематыцы, стварыць у Брэсце Цэнтр правоў чалавека.

Усё гэта, разам узятае, складае аснову навукова-даследчай, педагагічнай і праваабарончай дзейнасці Івана Катляра, спрыяе павышэнню прававой культуры людзей, гуманізацыі ўсёй сістэмы адукацыі і выхавання. Ды і яго навуковыя працы па правах чалавека — гэта не проста аналіз асноватворных тэарэтычных палажэнняў або комплекс метадычных распрацовак і рэкамендацый. Гэта адлюстраванне і яго асабістага духоўнага, жыццёвага вопыту, яго разважанняў над прычынамі вострых супярэчнасцей і калізій у чалавечым грамадстве. Адсюль і такая вялікая сацыяльная значнасць нялёгкай і высакароднай працы аўтара рэцэнзуемых кніг, усіх руплівцаў на ніве адукацыі і асветы ў галіне правоў чалавека, якія ўяўляюць гуманістычны ідэал і мэту кожнага грамадства, усяго чалавецтва.

**Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ**

*Котляр И. И. "Права человека. Современные представления и механизмы защиты". Изд. 2-е, переработанное и дополненное. Брест, 1996; яго ж: "Права человека". Учеб. пособие. Мн., "Право и экономика", 1996.*

## Вечарына Андрыса Веяна

**На памежных тэрыторыях, дзе сутыкаюцца культуры розных этнасаў, суіснуюць розныя традыцыі, творчасць народаў цесна пераплецена. Адзін з такіх рэгіёнаў — Латгалія, якая мяжуе з сучаснымі Верхнядзвінскім (Дрысенскім) і Браслаўскім раёнамі. Так, у сям'і Плiекшанаў размаўлялі на некалькіх мовах, спявалі там песні і латышскія, і беларускія. Менавіта гэтая сям'я дала Латвіі, Беларусі, свету Яніса Райніса, класіка латышскай літаратуры і шчырага памочніка беларусаў у Латвіі.**

**Больш блізкі прыклад — Андрыс Веян, які таксама паходзіць з Латгаліі. Пэўна... і гэтае паўплывала, што пісьменнік шмат увагі надае нашай культуры, перакладае творы нашых пісьменнікаў. Ёсць у А. Веяна вершы, прысвечаныя нашай краіне, выдатным асобам нашага народа.**

**Даўняя дружба ў А. Веяна з беларускімі літаратарамі. Пра гэтае ды іншае шмат гаварылася на вечарыне Таварыства "Беларусь—Латвія", прымеркаванай да сямідзесяцігоддзя выдатнага латышскага паэта. Анатоль Вярцінскі коратка расказаў прысутным пра жыццё і творчыя зацікаўленні юбіляра, падзяліўся сваімі ўражаннямі пра сустрэчы з ім. Багата згадак і ў Сяргея Грахоўскага, які гасцяваў у А. Веяна і падоўгу размаўляў з ім. Прыязнымі й шчырымі былі выступленні крытыка Уладзіміра Гніламёдава і паэта, старшыні рады Таварыства "Беларусь—Латвія" Сяргея Панізніка. "Вядома, шкада, што Андрыс Веян не прысутнічае на нашай вечарыне, — зазначыў сп. Панізнік. — Але верыцца, што словы шчырасці дойдуць да яго. Бо сяброўскае стаўленне юбіляра да Беларусі й нашай культуры заслугоўвае пашаны".**

**Добрым музычным афармленнем стала музыка Баха, Гендэля, Грыга. Выканалі яе вучаніцы мінскай музычнай школы N 11 Вольга і Таццяна Кукель.**

У. ПУЧЫНСКІ

## Па аповесці Васіля Быкава



**Прэм'еру спектакля па аднайменнай аповесці Васіля Быкава "Палюбі мяне, салдацік..." паказаў Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску. Пастаноўку ажыццявіў Валеры Маслюк, сцэнаграфія і касцюмы Святланы Макаранкі, музыку напісаў Уладзімір Кандрусевіч.**

*На здымку: мастацкі кіраўнік тэатра, пастаноўшчык спектакля Валеры Маслюк з артыстамі Міхаілам Краснабаевым і Генадзем Шкуратавым.*

*Фота Аляксандра* ХІТРОВА, *БЕЛТА*

## А на развітанне — песня...

**У сценах Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта сталі ўжо традыцыйнымі сустрэчы з вядомымі паэтамі, празаікамі, бардамі. Кожная такая імпрэза дае магчымасць не толькі пабачыць вядомага чалавека, а і паслухаць яго, адкрыта і шчыра паразмаўляць аб жыцці-быцці. І кожная з іх пакідае ў душы студэнтаў свой след.**

**Не магла не запомніцца і сустрэча з празаікам Андрэем Федарэнкам і бардам і таксама празаікам Уладзімірам Клімовічам. Пазнаёміцца з гасцямі прыйшлі не толькі студэнты філалагічнага факультэта, а і выкладчыкі. Адбылася шчырая і цёплая размова. Студэнты намала даведаліся аб жыццёвых шляхах, творчых планах А. Федарэнкі і У. Клімовіча, аб стане сучаснай беларускай літаратуры. Ну і, вядома, не абышлося без песень пад гітару, што выканаў на развітанне У. Клімовіч.**

Марына ЦІМАШЭНКА

ВІНШУЕМ!

# На парозе памяці

### У ВАЛЯНЦІНЫ ШЧАДРЫНОЙ КРУГЛЫ ЮБІЛЕЙ



*В. Шчадрына з І. Мележам у Мікалаеўшчыне.*

*Фота Ул. Крука*

Нязначная сённяшняя болька бывае страшнейшай за ўчарашнюю страшную трагедыю. І каб не парушалася адпаведнасць жыццёвых маштабаў, іншы раз карысна падштурхнуць чалавека на ўспаміны, даць яму магчымасць яшчэ раз вярнуцца ў мінулае, углыбіню, дзе ён некалі быў.

А калі ўжо ўспамінаць, то лепш за ўсё гэта рабіць на дасвецці, на зыходзе ночы, калі горад спіць і маўчаць назойлівыя радыё- і тэлегалашэнні.

Калі чалавек застаецца сам-насам з цёмным акном, праз сіняву якога прабіваюцца дзяжурныя агенькі суседняга дома, а з вуліцы далятаюць галасы рэдкіх машын, ён шмат што можа прыгадаць. Такой парой у чалавеку прачынаецца яго сапраўднае "Я" — не па-дзённаму сумятлівае і раскіданае, а па-начному сабранае і засяроджанае. І тут чалавек прыходзіць да высновы, што памяць наша — гэта не нейкая размытая абстракцыя, а зусім канкрэтная рэч — сустрэчы, твары, учынкі, слёзы, пахі, колеры... І, аказваецца, усё гэта жыве ў нас не ў стане броўнаўскай штурханіны і хаосу, а ўпарадкавана і лагічна ляжыць адно пры адным і адно над адным. І не трэба нічога нанова будаваць, там ужо злеплена даволі прыстойнае тварэнне. Нібы помнік, гатовы да адкрыцця і схаваны да часу пад балахонам-накідкай. Нікому, акрамя стваральніка яго, невядома, што пад тым шоўкам ці паркалем. Але калі балахон скінуць, то можа стацца, што помнік цікавы не толькі самому аўтару.

Дык вось, памяць...

Яшчэ зусім нядаўна, а "нядаўна" гэтаму няма і дзесяці гадоў, усе, хто з нашага Саюза пісьменнікаў ці пад яго сцягам збіраўся ехаць у Маскву, першае, што рабіў, — званіў з Мінска Валянціне Міканораўне Шчадрыной. Чалавеку ў чужым горадзе, асабліва калі прыязджаеш на некалькі дзён, абавязкова патрэбен дах над галавой, ці папросту — гасцініца. Дастаць нумар ці нават месца ў тыя гады ў Маскве было незвычайна цяжка, і ўжо гэтым адным тэлефонным званком цяжар гэты аўтаматычна перакладваўся на плечы нашай землячкі, "дзяўчыны з Палесся", з вёскі Вербавічы пад Нароўляй, якая воляй лёсу даўно апынулася ў белакаменнай, займела прапіску, кватэру, дзвюх дачок і працу ў сакратарыяце СП СССР — куратарам па беларускіх літаратурных справах. Як яно ўсё вырашалася практычна з усімі тымі гасцінічнымі клопатамі, ніхто не ведаў ды і ведаць асабліва не імкнуўся, але месца ў гатэлі заўсёды было. Адно трэба было даехаць да сталіцы і там ужо дабрацца да так званага "талстоўскага", а папраўдзе графа Алсуф'ева асабняка па вуліцах Вароўскага—Герцэна.

Калі падняцца на некалькі прыступак пасля ўваходу ў асабняк і прайсці па калідоры першага паверха налева, за заўсёды расчыненыя створкі высокіх дзвярэй, а потым зайсці ў першы кабінет справа — першым, зноў жа з правага боку, стаяў стол з этажэркай-прыстаўкай, бязладна завалены беларускай друкаванай прадукцыяй, — усім літаратурным і калялітаратурным, што выходзіла ў Мінску. На стале быў яшчэ тэлефон, маглі з'явіцца адзін ці некалькі кубкаў з кавай ці чаем. Гэта быў стол кансультанта па беларускай літаратуры, а кансультантам гэтым была ўсё тая ж Валянціна Міканораўна. І несла яна гэты свой крыж ні многа, ні мала — як не дваццаць гадоў.

"Несла крыж"... Іншыя словы наўрад ці могуць увабраць у сябе ўвесь аб'ём клопатаў і адказнасці, што заключаліся ў дзеясловах "выконвала", "арганізоўвала", "правадзіла", "рыхтавала", "сустракала" і многае, многае іншае. Усё гэта рабілася для пісьменнікаў, для беларускай літаратуры, усё гэта на звязку беларускай і рускай, беларускай і іншых многіх літаратур народаў, зацiснутых у абрэвіятуру "СССР" і служкі якіх сцякаліся ў знакамітыя залы і калідоры ў часы ўрачыстых і дзелавых "саюзных" мерапрыемстваў.

Як нешта далёкае, як з іншага свету, — ці то ява, ці сон, — успамінаюцца тыя калектыўныя заезды ў Маскву. Не будзем грашыць самі на сябе, нібыта ехаў туды нехта пад прымусам, не па сваёй добрай ахвоце. Тыя, хай і тлумныя, мерапрыемствы мелі ўжо сэнс хаця б таму, што давалі магчымасць адарвацца ад сухой мясцовай паўсядзённасці, пабыць разам, пагаварыць, абмяняцца думкамі, адчуць нейкі к а л е к т ы ў н ы сэнс у чыста затворніцкай індывідуальнай рабоце кожнага.

І ў кожны такі заезд на пероне Беларускага вакзала і зімой, і летам, і ў снег, і ў дождж, ці ў кампаніі з кім-небудзь, а часцей за ўсё адна, сустракала шаноўныя дэлегацыі ўсё яна ж, — для равеснікаў і старэйшых узростам — Валя, для маладзейшых — Валянціна Міканораўна.

Вывальваецца гурт з вагона, традыцыйныя вохі-ахі, прывітальныя пасляначны гармідар, і вось ужо ўздоўж перона расцягнуўся ланцужок, узначальвае які, як курыца вывадзеных родных куранят, яна. На прывакзальнай плошчы ўжо чакае своечасова зафрахтаваны "Ікарус", народ рассаджваецца і прамым ходам у гатэль — ці то ў "Расію", ці ў "Маскву". І там, у зале афармлення, яна зноў пры ўсіх, пакуль не пераканаецца, што ўсе рассяліліся, усе размясціліся.

Здавалася, ёй усё лёгка і проста даецца, і гэта арганізацыйна-творчая работа, быццам яна для таго была народжана, каб пра некага апекавацца, за некага думаць, за некага рашаць. Рэдкі чалавек з блізкіх ёй па душы ведаў, як гэта няпроста было знаходзіцца паміж маскоўскім саноўным літначальствам (а яно ўмела паказаць сваю саноўнасць!) і несаноўным і неначальствам беларускім. Неначальствам, але тымі, хто даваў сваёй краіне і літаратуру, і сілу яе, і славу.

Яшчэ такі штрышок. Аэрапорт Шарамецьева. Не так даўно прызямліўся самалёт з Ханоя. За плячыма ці не трынаццаць тысяч кіламетраў пералёту, а перад гэтым тыдзень паездак па Паўднёвым В'етнаме, сустрэчы ў рэдакцыі "Духмянай ракі" — так назвалі в'етнамскія калегі свой часопіс. Усё цікава, экзатычна, і ўсё цяжка, стамляюча — пры 38—40 градусах плюс, пры духаце, трапічнай вільготнасці.

Выхадны дзень, сем гадзін раніцы, але на ўсякі выпадак набіраю хатні тэлефон: а можа, нікуды не паехала, а можа, дома? Так і ёсць. Глухаваты са сну голас. "Анатоль Паўлавіч, адкуль вы? Прыязджайце, ёсць пра што пагаварыць. А я за гэты час каву згатую". І Масква ўжо не тая далёкая і чужая, яна сагрэта цяплом прыязнай шчырасці, паразумення.

Пакуль таксі едзе да горада, пакуль разам з таксістам шукаем Малую

СЛОВА

# Куды падзеліся небажаты?

Неяк аднаго разу адно за адным згадалася:

***...Вучыся, нябожа, вучоба паможа...***
***...Ну, небажаты, будзем снедаць,***
***У людзей садзяцца ўжо абедаць...***

Першы сказ — гэта прымаўка, крылатае выслоўе. Другі — страфа са славутай паэмы Якуба Коласа "Новая Зямля". Згадалася і падумалася: "А да каго так звярталіся, каго называлі "нябогамі", "небажатамі"?

І. Насовіч у "Слоўніку беларускай мовы" 1870 года выдання адказвае так: "Небога, зват. небоже. Пріятель, любезный. Поймали небогу. Почекай, небога, мене. Дай, небоже, понюхаць тобаки. Помогай, Боже, да й ты не лѣнись, небоже".

І яшчэ:

"Небожа, небожаты. Тоже, что Небога, но говорится при угрозѣ и болѣе въ отношении, къ несовершелѣтнимъ. Дамъ я тѣбѣ небожѣе! Поймаю я цебе небожу, тогды не животай. Постойце, небожаты, я вам!"

І. Насовіч зафіксаваў і такія формы згаданага слова: "Небожечка, умен. слово. Небога. Любезненькій, дружекъ. Подожджи, мене, небожечка!

Небожухна. Дружище. Якъ же ты много берешь, небожухна?"

Такая падача слоў "нябожа", "нябога", "небажаты" ды яшчэ ў перакладным кантэксце адкрывае іх вялікую магчымасць.

Тым часам кажам, наракаем: у нас мала звароткаў. Не ведаем, як звяртацца да малых, да падлеткаў: дзеці — не заўсёды падыходзіць; вучні, школьнікі — казённа. Але, як бачым, нашы продкі такога клопату не мелі. Небажаты — "богавы людзі", дзеці. Яшчэ нягрэшныя — таму і небажаты. Як яшчэ прыязней можна звяртацца да дзяцей, падлеткаў?

Паміж іншым, "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" ў пяці тамах слова "не-

**ЛіМ ЧАСАПІС**

## Ён змагаўся за Радзіму

**Яму было б 80. Ён скончыў у 1940 годзе Белдзяржуніверсітэт (геафак) і пайшоў у Чырвоную Армію. Пайшоў і не вярнуўся. Загінуў у першы год вайны. Восенню, дзесьці пад Вязьмай, калі там вяліся кровапралітныя баі ў часе наступлення фашысцкіх войск на Маскву.**

**Сыну Якуба Коласа Юрку, воіну-змагару, прысвячалася вечарына, што прайшла ў музеі народнага песняра. Напачатку прысутныя праслухалі "магнітафонныя" ўспаміны яго старэйшага брата. Шчымліва было на душы, бо і самога Данілы Канстанцінавіча няма ўжо сярод нас (памёр у мінулым годзе). Затым слова бралі прафесар БДУ Вольга Якушка (вучылася з Юркам на адным факультэце), суседзі Коласавай сям'і з даваеннай пары Валянціна Сачок і Галіна Уладамірская, Кастусь Самахвал, народны артыст Беларусі Павел Дубашынскі (прачытаў лісты воіна з фронту). Коласаў сярэдні сын быў таварыскі, чулы да людзей, смелы і дужы, патрыёт Айчыны.**



**Цікавыя факты з жыцця-быцця Юркі ўспомніў яго малодшы брат Міхась. Ён падарыў паляўнічую стрэльбу музею. Адыходзячы ў армію, Юрка перадаў яму на захаванне (быў юнак няўрымслівым паляўнічым, трапным стралком — часта прымаў удзел у спаборніцтвах па стэндавай стральбе).**

**Песняю "Мой родны кут" у выкананні Данчыка (магнітафонны запіс) закончылася гэта вечарына. Вёў яе Іван Курбека.**

**С. ІВАНЧЫК**
*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

## Ад роднае зямлі



**Традыцыйны, восьмы па ліку, фестываль юных музыкантаў "Сымон-музыка" прайшоў на радзіме Якуба Коласа. Як заўсёды, у першы дзень вёўся адбор лепшых выканаўцаў. А яны, музыкі, спевакі і танцоры, з'ехаліся з усіх абласцей Беларусі. Былі прадстаўнікі і з братняй Расіі. Конкурс адбываўся ў Стаўбцоўскім Доме культуры.**

**Другім днём ладзілася літаратурнае свята "Слова пра Коласа". Вядома ж, у слыннай Смольні. Дарэчы, сёлета, 8 чэрвеня, спаўняецца 30 гадоў, калі тут пачаў працаваць філіял музея вялікага песняра, і 85, калі тут упершыню сустрэліся Колас і Купала. Да юных святкоўцаў прыехалі музейцы-коласаўцы, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Зуёнак, сын народнага паэта Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, народны артыст рэспублікі Павел Дубашынскі, мастачка Алена Лось, рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін, саветнік па культуры Пасольства Украіны ў РБ Валянціна Ешчанка.**

**На трэці дзень фестывалю ў Старасвержанскім СДК адбыўся заключны канцэрт, дзе члены журы абвясцілі пераможцаў.**

**К. СЦЕПАНЮК**
*Фота Васіля ЗЯНЬКО*

ПАЭЗІЯ

Васіль ЗУЁНАК



# На крыжах дарог

•

*Ходзіць, ходзіць клён па хаце —*
*Бесцялесны цень:*
*З кута ў кут, як нешта страціў, —*
*Кожны божы дзень.*

*Ад застолля да парога —*
*Вершамі Басё, —*
*Не гаворыць мне нічога,*
*Бо я знаю ўсё.*

*Мігатлівы іерогліф*
*На зыходзе дня... —*
*Гэта вас, душой знямоглых,*
*Страшыць цішыня.*

*Мне ж яна — як дар нябесны,*
*Боскі напамін,*
*Што і я — як Уваскрэслы:*
*На зямлі адзін.*

*А другі — з табою, маці,*
*Кожны божы дзень...*
*...Ходзіць, ходзіць клён па хаце —*
*Мой касмічны цень.*

•

*Сорак год біблейскі Майсей*
*Па пустыні вадзіў сваё племя,*
*Каб навек адрынулі ўсе —*
*Нават з памяці — рабскае семя.*

*Сорак год з Егіпта ішлі*
*Да зямлі, абяцанай Богам.*
*І па-рабску Прарока клялі.*
*Толькі ён не зыначыў дарогу, —*

*Той, хто ведаў: дойдуць тады,*
*І сапраўдная воля ўваскрэсне,*
*Як апошні раб назаўжды*
*У душы сваёй рабства закрэсліць...*

*Сорак год — я таксама хаджу,*
*І пустэльна маўчыць дарога.*
*Сорак год сваё слова ваджу, —*
*Азірнуся: нікога, нікога...*

*Я хацеў паклікаць народ,*
*Каб са мной збіраўся ў пустыню,*
*Ды знямеў: аж на сорак год —*
*Сам зямлю сваю хто ці пакіне?..*

•

*Вы ў небе што-небудзь бачылі?*
*Не? То яшчэ паглядзіце,*
*Калі пад выццё сабачае*
*Спіць ветах старэнькім дзіцем;*

*Калі абрываюцца сувязі*
*Жывых і мёртвых пачаткаў,*
*І ўсходу і захаду сумессю*
*Віхураць Аляска з Камчаткай;*

*Калі аднамоўе чорнае*
*Сябе за Ўсявышняга лічыць,*
*І зор галасы незлічоныя*
*Трымцяць у няволі касмічнай, —*

*Бачыце: хусткай матулінай*
*Слёзы ўціраючы ў скрусе,*
*Ляціць душа беспрытульная*
*Апошняга беларуса...*

•

*Я помню: "Ведаць будзеш многа,*
*Уміг састарышся", — казалі,*
*Калі цікаўнасці малога*
*З усмешкай крылы падразалі.*

*Я адчуваў, як з кожнай лічбай*
*І з кожнай літарай мудрэю, —*
*І запытанне на абліччы*
*Нёс да люстэрка: ці старэю?..*

*Вышукваў тайныя маршчынкі*
*і сівізну шчыпаў на скронях.*
*Плыло дзяцінства аблачынкай*
*У край развеяных іроній...*

*І быў у мудрым тым старэнні*
*Дзень заўтрашні, як учарашні,*
*І мне, як богу ў дзень тварэння,*
*Было і радасна — і страшна...*

## Зноў бы так...

*Зноў бы так: апынуцца ў травах,*
*Нібы жаўранак — з галавою,*
*І да песні ўзлятаць — не да славы,*
*Захлынуўшыся сінявою...*

*Зноў бы так: тую сцежку да раю*
*Адшукаць, як было напачатку, —*
*І не знаць: што жыццё адкрывае,*
*І не мець: што за ім — здагадку...*

•

*Я ведаю, што дрэвам паміраць,*
*Згараючы ў агні, наканавана,*
*Ім сонца — кожнай клетачкай збіраць,*
*Каб выбухнуць аднойчы палымяна...*

*Я гэту "веду" выдумкай заву:*
*Не наш агонь тут і не нашы дрэвы, —*
*Я толькі моўчкі падаю ў траву —*
*І космасу ляснога чую спевы...*

•

*Не ў тым сакрэт:*
*"было" ці "не было"? —*
*Ці ты паэт, ці з кірмашу патлумак.*
*Не ў тым сюжэт: зламалася крыло,*
*А ў тым — якія абудзіла думы...*

•

*І школа ёсць, і да школьнай*
*Дрэсуры — вопыту ствол,*
*І замест песні вольнай —*
*Лірычнае рамяство...*

*Аладкамі скачуць вершы*
*З астылай патэльні стала.*
*І хто тут апошні, хто першы, —*
*Чарга ці пара прыйшла?..*

•

*Лецішчы лысагорскія*
*І пералескі грыбныя*
*Рэхам дзіцячым не гойкаюць,*
*Ад безгалосся ныюць.*

*І цішынёй нагадалася:*
*Ля піянерскага лагера*
*Сцежка мая гайдалася*
*Ад барабанных шлягераў.*

*Я нерваваўся, праходзячы,*
*Бэсціў фізкультінструктараў,*
*Што на слыху ўсіх родзічаў*
*Глушаць дзяцей рэпрадуктарам.*

*А сёння сцежка сумелася,*
*Сцежкай глухой ішоў я:*
*Ад піянерскага меласу*
*Вызвалілі безграшоўе.*

*Ні сумятні апраметнае,*
*Ні маршыровак парадных, —*
*Цені блукаюць бяздзетныя*
*Па карпусах атрадных...*

*Хоць лета ў самым фарватары,*
*Ды лагер не дорыць натхнення*
*Аўтаасенізатарам*
*Пладамі аздараўлення...*

*І я лысагорскія ўзлобкі,*
*Здзічэлы, абследую ў леце, —*
*Голасам радыёкропкі*
*Гукаю, шукаю вас, дзеці!..*

## Чаканне

*Усё знямела: грыбнікоў*
*Ні гоману, ні голасу:*
*Схапілі каласавікоў —*
*І сцежкі пагубляліся;*

*І салавей асалавеў;*
*І сойка стала сонькаю;*
*І дзік — хоць заганяй у хлеў:*
*Рахманіцца пад сонейкам;*

*Рыхтуе ўпотай пчолам збор*
*Палянка верасовая;*
*Чырвоны лыч свой мухамор*
*На людзі не высоўвае;*

*Мурашнік, нібы вар, кіпіць*
*І талакуе стоена:*
*І кнігаўка не просіць піць —*
*Маўчыць сухмень застольная;*

*Крумкач, хоць пры карцах радня,*
*Гнякі не адкаркоўвае, —*

*Такая ў лесе цішыня*
*Перадбаравіковая...*

•

*Узвіжанне — вужакі і вужы*
*Віюцца зябка ў парудзелых травах,*
*Віжуюць, каб без ордэраў лаўжы,*
*Ўзяць пад зімплошчу —*
*са зміяным правам...*

*Ніхто тым днём — ані нагою ў лес:*
*Крый божа ў той паток*
*паўзучы трапіць!..*
*Што чалавек! — ніколі звер не лез*
*На ўзвіжны шлях ні капытом,*
*ні лапай...*

*Узвіжанне... Ніводзін варажэй*
*Той ход спыніць ці адвярнуць не можа.*
*Ды ёсць сакрэт: чым будзе лес бліжэй*
*І чым радней, тым лепш табе паможа.*

*Я знаю кут, што вечна дрыгвянеў*
*У чадных буяках і журавінах,*
*І ведаю, што тут супроць мяне*
*Не выдаваў дэкрэтаў цар змяіны.*

*Я там хадзіў, нібыта пропуск меў.*
*Глухія нетры сцераглі вужакі.*
*І ўзвіжанне, каб мой суняць сумнеў,*
*Лес ахінаў таемнаю імжакай...*

## Над жоўтым грудком...

*Бяроз перашэпты патайныя*
*Над жоўтым грудком самоты...*
*Здаецца, і ўсе пытанні.*
*А ўсе адказы — на потым...*

•

*Маўчаннем, як нямое небыццё*
*Ці выдыхам, нібы надзея, даўкім, —*
*У рэшце рэшт канчаецца жыццё*
*Кароценькай адмоўнаю прыстаўкай:*

*"Неда-"...*

*"Неда-" — бывае ў кожнага сваё:*
*Недачакана і недаспаткана,*
*Недаспявана і недакахана, —*
*І ўсё яно — маё, маё, маё...*

*"Неда-"...*

•

*Жыццё — і развітанне і абман:*
*Імгла ў былым і ў прышласці туман.*

*Жыццё — пытанне на крыжах дарог:*
*Накрэсліў лёс, ды разгадаць не змог.*

*Жыццё — малітва небу і зямлі,*
*Што між бяссмерця і табе далі...*

•

*А слова — Бог. І тут няма паловы.*
*І з кожным днём — маўчанне даражэй.*
*І з кожным днём — мялее мнагаслоўе,*
*І з кожным днём — да ісціны бліжэй.*

•

*Кудысьці з жыцця адлятаюць*
*(Пра гэта ад свёдак я чуў —*
*Каго з той дарогі вяртаюць)...*
*Што ж, пэўна, і я палячу...*

*Святлом да святла далучуся,*
*А потым — ты станеш чыя, —*
*Часцінка свята Беларусі,*
*Душа трапяткая мая?..*

*Ці пылам касмічным вецер —*
*Нядзейсненым ў Хрысце —*
*Мой след і мой цень у сусвеце*
*На зорных шляхах замяце?..*

*І ўсё. І ніякай разгадкі.*
*Як простая мудрасць Творца:*
*Дарога не мае пачатку,*
*Дарога не знае канца...*

ПРОЗА

Алесь ДЗЯТЛАЎ

# НАВЕЛЫ

## СТАРЫ ХУТАР

Другое лета пасля вайны выдалася гарачае, сухое; з ўсходу да заходу сонца пякло неміласэрна, а на небе хоць бы якая аблачынка; нават не прыпарвала, бо спёка высмактала з зямлі ўсю вільгаць. І так было не дзень, не два, а тыдні, усё сухмень і гарачыня. Зямля прагла вады, а яе не было.

Яны прыехалі на чатырох падводах. Пярэднія калёсы ўз'ехалі на загончык жыта, падмялі зялёную рунь: вазак не паспеў ці не схацеў выкіраваць каня, запозненa тузануў лейцамі, вылаяўся. Тры другія падводы спыніліся воддаль, на ўтравелай дарозе.

Гаспадар хутара, высокі, жылаваты і худы, ужо ў гадах мужчына, які акучваў цапай бульбу на гародзе, разагнуўся, пільна, унурыста, з-пад рукі паўзіраўся ў падводчыкаў, цяжка ўздыхнуў, кінуў цапу ў баразну, апусціў рукі. Ён усё зразумеў, схапіў адразу вострым позіркам: і тое, што калёс было чацвёра, і што на кожным сядзела па двое-трое моцных мужчын, а завадатарам — намеснік старшыні калгаса Кучмель, невысокі, нервовы і мітуслівы мужычок з тых, хто ў дваццаць дзевятым, семнаццаць гадоў назад, бегаў па вёсцы і віскліва дапамагаў упаўнаважаным з горада.

Кучмель, нецярпліва падскокваючы, падбег да плота, востра, быццам на паляванні, зіркнуў на хату, учапіў позіркам гаспадара, гукнуў:

— Яўхім, на выхад! — у яго голасе чулася рашучасць. — Прадпісанне ёсць табе.

Яўхім стаяў пасярод зялёнага загончыка бульбы, быццам урос у баразну, босы, у вайсковых, выгаралых на сонцы галіфэ, у зрэбнай белай кашулі, вольна расплікнутай на худых грудзях.

— Яўхім, каму кажу! — голас у Кучмеля сарваўся на віскат. Мужчыны каля падвод пачалі пасмейвацца.

— Ідзі сам, калі табе трэба, — Яўхім буркануў сабе пад нос, памкнуўся падняць цапу, але вялавата махнуў рукой, цыбата перастаўляючы ногі, пайшоў у двор.

Кучмель ababeг плот ад дарогі, піхнуў вузенькую, як працiснуцца аднаму, калітку ў гарод, паджгаў напярэймы Яўхіму, на хаду выцягваючы з нагруднай кішэні чорнай суконнай кашулі паперку.

— Ты што, глухі? — задыхана, з пагрозлівасцю выгукнуў. — Непадчыненне савецкай уладзе? Ведаеш, што за гэта?..

Не паварочваючы галавы, Яўхім скасавурыўся на Кучмеля, прыкмеціў у яго руках паперку, грэбліва кінуў:

— Сходзі з гэтай паперчынай... Гад.

У двары ён нетаропка прысеў на нізенькі, у дзве прыступкі ганак, няспешна пачаў вярцець самакрутку, рукі яго дрыжалі. Як певень, на яго налящеў Кучмель, трос перад носам паперкай, раз'ятрана крычаў:

— Ета што? Што ета, пытаю? Прадпісанне звесці твой хутар! Хопіць, нажыўся тутака... Новы пасёлак каля школы закладваем.

З хаты выбегла гаспадыня, спусцілася з ганка, накінулася на Кучмеля:

— Сідар, пабойся бога. Ету ж хату няможна кратаць, адно трухлячце. З дзесятага года стаіць, а ўжэ ж тады зруб не новы быў. Пацярпі колькі, мо дзе прыкупім хатку, то і перабярэмся. Во, сам паглядзі, падрубы ледзь ліпяць.

Яна цягнула за рукаў, каб накратаў бёрны, але той бы не чуў яе, пагрозліва размахваў паперкай.

— Кінь, Марфа, — голас у Яўхіма задрыжаў. — Хай ідзе ўсё пылам-дымам. Хай жруць, калі хочуць... А з гэтага месца нікуды не зрушуся.

Але Марфа не слухала яго, зноў кінулася да Кучмеля, пачала ўпрошваць:

— Чалавек мой з вайны вярнуўся, два разы паранены быў. І цяперака шчэ ногі баляць. Сідар, богам прашу...

Але Кучмель яе не слухаў. Дробненька тэпаючы, з падскокам, ён выбег з двара, ухапіў бліжэйшага каня за аброць, вывернуў калёсы, падвёў іх бліжэй да хаты.

— Плот ламай! — закрычаў мужчынам. — Супраціўленне савецкай уладзе! Давай, сюды...

Калгаснікі нехаця, паныла загасіўшы недакуркі, пасунуліся да хаты, з асцярогай зазіралі поверх плота ў двор, дзе на ганку сядзеў, бы скамянеў, гаспадар.

— Мо пачакаем, Сідар, — Лапунок, невысокі, жвавенькі мужычок, нясмела запярэчыў.

Але Кучмель рэзка абсек яго, каб і іншым паказаць, хто тут улада:

— Што, хочаш, каб табе соткі па вуглы абрэзалі? І ты мо етакі... куркуль? Прынята рашэнне, то спаўняй.

Двое маладзейшых неахвотна, спалохана азіраючыся на Яўхіма, палезлі па драбіне на страху, пакараскаліся да вільчыка. Рыжая трухлявая салома клоччам спаўзала з-пад іх ног, падала на дол. Яўхім сядзеў на ганку да таго часу, пакуль не затрашчалі кроквы, і старая страха папаўзла ўніз. Яе жэрдкамі знізу падтрымлівалі мужчыны, а яна не хацела спаўзаць, за нешта чэпка трымалася ўверсе. Гаспадар абхапіў галаву рукамі, згорбіўшыся, выцягнуўся за вароты, пасунуўся прэч па дарозе, а губы сасмягла шапталі:

— За што? Чым я правініўся перад богам?

А на двары ціхенька галасіла Марфа. Яе, абнямoжаную, учарнелую, павялі ў вёску жанкі, якія прыйшлі паглядзець на разбой.

Ажно да сярэдзіны пяцідзесятых ляжала на ўскраіне вёскі каля школы трухлявае бярвенне Яўхімавай хаты. Людзі глядзелі на іх, неадабральна хіталі галовамі. Яўхім не прыйшоў складаць сваю хату, выкапаў на былым котлішчы зямлянку і жыў. Яго больш не чапалі.

А бярвенні і дошкі расцягалі вяскоўцы, а што засталося, згніло. Хутка і знаку не засталося на тым месцы, дзе яны ляжалі.

Яўхім неўзабаве памёр.

## САМАСТРЭЛ

Віктар Таран памёр праз тры гады пасля вайны, у маі. Праводзіць яго на могілкі сабралася як не ўся вёска. Старая, яшчэ даваенная палутарка з адкрытымі бартамі паўзла па пыльнай вуліцы, раз-пораз з-за перагрэтага матора пастрэльвала з выхлапной трубы сіне-чорным дымком, а ў кузаве стаяла белая труна з габляваных дошак. Многія ціха плакалі — шкада было маладога хлопца, які не ў пару пакінуў адзінокую маці. Толькі адзін чалавек, унурана схіліўшы галаву, здаваўся спакойным, тэпаў у задніх радах, і яго маленькія, сухія вочкі неўпрыкмет з-пад брыля кепкі зыркалі востра і насцярожана. Здавалася, ён прыйшоў, каб яшчэ раз упэўніцца, што адзіны сведка яго ганьбы навек адыходзіць на той свет, і ён, Хведар Мамаец, цяпер можа жыць, як і ўсе людзі.

...Іх узялі на вайну ў адзін дзень — у канцы чэрвеня сорак чацвёртага. Мабілізавалі не цераз ваенкамат, яго тады яшчэ не было, а забрала вайсковая часць, якая вызваліла вёску. Мужчын прызыўнога ўзросту пасадзілі на "студэбекер", з вецярком адтарабанілі ў недалёкі тыл, пастрыглі, памылі, выдалі старое хэбэ, аўтаматы ППШ, таксама не новыя, і, павучыўшы два дні, прывезлі на перадавую. Хведар Мамаец, мужчына ў гадах, невысокі, жылаваты і цягавіты, і Віктар Таран, ягоны сусед, з выгляду яшчэ зусім падлетак, які вырас за вайну, трапілі ў адну роту.

У першы дзень іх бамбілі нямецкія самалёты, і хаця нядоўга, усяго якіх пяць хвілін прасавалі лясок, дзе спынілася рота, Мамаец зразумеў, што на гэтай вайне ён не жылец, вунь яшчэ колькі да Берліна дыбаць. З тае бамбёжкі апаслівы, агідны страх пасяліўся ў душы Мамайца; ён схуднеў, учарнеў з твару і, нібы ў сне, у нейкім тупым здранцвенні выконваў загады, але быццам ужо не жыў на гэтым свеце. З болем думаў пра дзяцей, жонку, і гэты боль усё мацнеў і мацнеў у душы, раз'ядаў яе да самай глыбіні, знішчаў усё чалавечае.

Месяц нашы наступалі. Каля Ліды, непадалёк ад граніцы, немцы ўмацаваліся, сустрэлі полк кінжальным кулямётным агнём.

У тую цёмную, трывожную ноч перад атакай Тарана і Мамайца паслалі ў перадавы дазор. Яны сядзелі ў неглыбокім, паспешліва выкапаным акопе наперадзе ўсіх, да болю ў вачах узіраліся ў вышыньку, аблытаную калючым дротам. Немцы нерваваліся, штомінуты пускалі ракеты, і ў іх няроўным, мігатлівым святле, здаецца, рухаліся невысокія кусцікі, што паўтыканы сям-там на сухім у гэты час балотцы. Мамаец, бы зацкаваны, як толькі ўзлятала ракета, спаўзаў на дно акопа і, уцягнуўшы галаву ў каўнер шыняля, з жахам глядзеў угору.

З вяршыні бугра пачаў біць буйнакаліберны кулямёт. Вогненнымі пісягамі кулі рэзалі на палосы цемру, утыкаліся гарачымі джаламі ў прастору, згасалі дзесьці за пазіцыямі роты.

— Штось расхадзіліся фрыцы,— Таран трывожліва ўзіраўся ў вышыньку. — А мо баяцца? — прашаптаў з надзеяй, што так яно і ёсць, што і немцы не такія страшныя, таксама смерць стаіць над кожным.

Мамаец асцярожна вызірнуў з акопа, але новая чарга вогненным пісягом шархатнулася над зямлёй, на гэты раз нізка, над самым бруствeрам акопа, і ён хуценька нырнуў уніз, на дно, тыцнуўся тварам у халодны вільготны пясок. Удалечыні, за нашай траншэяй раптам успыхнуў кволы, ледзь прыкметны агеньчык, разгарэўся, і неўзабаве запалымнеў, як не на паўнеба, пажар.

— Ну, ясна, нервуюцца, вось і запалілі, — заключыў Таран. — Там хутар, вось яны па ім і білі запальнымі. Нічога, раніцай саб'ем іх з вышыні, пагонім...

— Саб'еш, чакай, — Мамаец сядзеў на дне акопа. — Ляжам пад кулямётамі, пакуль туды дабяжым, — голас яго пакутліва задрыжаў.

— Не перажывай, Хведар. Бачыў, колькі гармат падцягнулі?

Мамаец уздыхнуў, трывожна правёў позіркам чарговую ракету, зноў зашыўся ў куток акопа.

— Не, Віця, хана нам тут...

— Не скуголь, Хведар, — Таран таксама пачаў хвалявацца. — Праз гадзіну змена прыпаўзе, паспім трохі, а там — за Родзіну, за Сталіна...

Ён гаварыў зухавата, весела, з тым безнадзейным адчаем, які ахоплівае чалавека перад страшнай небяспекай, якую нельга абысці, але голас усё ж выдаў яго, задрыжаў на апошніх словах.

Мамайца раптам закалаціла, ён выпраставўся, хістка паўзіраўся ў цемень, потым прысеў на кукішкі, угнуў галаву да каленяў.

— Ты што, Хведар? Не дрэйф, куля дурніца, мо і абміне, — Таран з трывогай глядзеў зверху ўніз, быццам пра нешта пачаў здагадвацца. — Нікуды не дзенешся — ці нямецкая, ці свая... Унь, заградкі ззаду, кажуць...

— Ты што? — Мамаец зблядне́ў, змучана зірнуў на Віцьку, апусціў галаву. — Табе што? А ў мяне дзеці...

— Не дуры, Хведар, нам адзін шлях — ура — і ўпярод.

Таран здагадаўся, што аднавясковец баіцца, нешта задумаў, каб не бегчы на кулямёты, таму і папярэдзіў, што дзявацца няма куды, на світанні трэба падымацца ў атаку.

Але Мамаец думаў інакш. Яго неадчэпна, упарта свідравала адна думка: адна рана, невялікая, неапасная для жыцця, і ён, Хведар, не пагіне на гэтым куп'істым сухім балотцы, вернецца дадому, да дзяцей і жонкі, а там будзе відаць. Недзе чуў, каб не дазналіся, не было слядоў пораху, трэба страляць цераз бохан хлеба. Не дакапаюцца, не дакажуць, а Віцька свой, не выдасць, не павінен выдаць, бо ўсё ж сваяк, хоць і далёкі, дзесятая вада на кісялі. І новая думка, страшная, апаслівая: "А раптам плявузгне? Малады, дурны шчэ. Не, не павінен, сусед ды і трое дзяцей у мяне, іх пашкадуе. Папрашу, ногі буду цалаваць. Аўтамат — не вінтоўка, кароткі, якраз... Не трэба разувацца, каб націснуць на курок. Колісь Захар з хутара, у калектывізацыю, з ружжа... Зняў чобат з правай нагі, ствол у рот — і паўчэрапа знесла. А мо Віцьку папрасіць? Пстрыкне раз у руку — і усё? Не, не зможа, маладзён, зялёны... Яго не трэба ўблытваць у гэту справу, тады прызнаецца, не вытрымае... Дзеці, дзеці... Толькі з-за іх..."

Мамаец ажно ўпатнеў, хаця цела праціналі халодныя дрыжыкі. "Дазнаюцца — расстрэл перад строем. Але хоць ёсць шанц... У баі няма, а тут... НЗ вось ён, у рэчмяшку, на трое сутак, для наступлення. Хлеб, але ці з'ясі яго? Не, трэба, трэба рашыцца... Але як? Віцька як здагадваецца, сочыць за кожным рухам, пачаў балбатаць пра заградку, палохаць. Віш, схмурнеў, зіркае апасліва. Але ж трэба перахітрыць яго..."

— Ой, жывот, Віця, — Хведар застагнаў, лёг поперак акопа, падкурчыўшы ногі. — З'еў нешта не тое... Не магу...

Таран са спалохам нагнуўся, у святле ракеты моўчкі паўзіраўся ў бледны твар Мамайца, кіўнуў галавой на бруствер акопа, з гідлівасцю прамовіў:

— Адпаўзі куды, тут не ўседзіш тады...

Хведар з цяжкасцю ўстаў на калені, апіраючыся на няроўную сценку акопа, ускараскаўся наверх, перачакаў, пакуль дагарыць ракета, і, трымаючы перад сабой аўтамат, папоўз па быльнягу да куста, што цямнеўся метраў за дзесяць ззаду.

Суха, амаль нячутна шчоўкнуў стрэл, быццам хто пераламаў сухую галінку, і Таран павярнуўся, трывожна, выцягнуўшы шыю, узіраўся ў той бок, куды папоўз Мамаец. Счакаў колькі, пагукаў:

— Ты дзе? Паўзі сюды.

Паўзіраўся яшчэ з паўхвіліны, пачуў, што быццам хліпнуў Хведар, застагнаў. Выпаўз з акопа, не згінаючыся, пашаркаў да куста...

Праз паўгадзіны прыйшла змена, і Таран, падтрымліваючы параненага, пабрыў у тыл. Хведара трэсла і ад страху, і ад страты крыві. Апіраючыся на плячо Віцькі, жаласна шаптаў:

— Шальная куля, дурніца... Нямецкая, адтуль прыляцела. Ты бачыў, вышэй локця рана, навылёт. Маўчы, Віцька, на калені стану, ногі цалаваць буду... Дзяцей пашкадуй, Віцька. Ты не бачыў, не чуў. Не дазнаюцца, немец шпокнуў. А як што вякнеш, цябе заграбуць... Тутака не будуць разбірацца, абодвух... перад строем...

Віктар Таран вярнуўся ў вёску ўвосень сорак шостага. У тым баі за вышыню яго пакалечыла асколкамі міны. Два гады лячыўся ў шпіталях.

Перад смерцю сасмяглымі, чорнымі губамі ледзь чутна прашаптаў маці:

— Хведар... самастрэл. Сам сабе руку прастрэліў...

Яшчэ намагаўся нешта сказаць, але не паспеў.

## БОЖЫ СУД

Ён сабраў чамаданы — вялікі, абцягнуты жоўтай скурай, не нашага вырабу, і невялічкі, фанерны, з якімі звычайна да вайны вясковыя хлопцы выпраўляліся на вучобу ці на заробкі ў горад, кінуў апошні позірк на сцены хаты. На стале слаба курэла карасінавая лямпа, белыя ў сіні гарошак фіранкі няшчыльна закрывалі цёмныя шыбы. На вуліцы чалавека чакала падвода, каб адвезці на станцыю да начнога поезда. Маладзіца, гаспадыня хаты, накінула на плечы чорную плюшаўку, бо ўжо стаяла позняя восень, нахопліваліся прымаразкі, — яна мелася падкінуць чалавека на станцыю, — хвалюючыся, раз-пораз паглядаючы на вокны, прапанавала:

— Мікалай, пасядзім перад дарогай, во, семкі палускай.

Яна сыпанула на краёк стала, засланага чыстым абрусам, жменю сушаных гарбузікаў. Чалавек, цяжка ўздыхнуўшы, прысеў на лаўку, спіной да вакна, а маладзіца прытулілася да печы, быццам грэлася перад дарогай у кволым цяпле.

Рэзка гахнуў стрэл, шыбка разляцелася, і чалавек пачаў хіліцца галавою на стол, а потым паволі абсунуўся на падлогу...

Жанчына ўмомант падбегла да яго, загаласіла на ўсю хату, вомельгам, абярнуўшы каля парога вядро з вадой, кінулася на вуліцу клікаць суседзяў. За хатай, у цемені, ваўкавата мільгануў чалавек з абрэзам.

(Працяг на стар. 12)

## "Зорная" прэм'ера



**Падзея сапраўды адметная: даўно не папаўняўся рэпертуар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі спектаклем, які доўжыцца амаль тры гадзіны і наводзіць шматлікіх мінскіх паклоннікаў Тэрпсіхоры на думку пра "старую добрую класіку".**

**Гэта й сапраўды "старая добрая класіка" — "Раймонда" А. Глазунова, балет, які не йшоў на нашай сцэне гадоў трыццаць. Гэта й сапраўды класіка харэаграфіі ХХ стагоддзя, бо паставіў "Раймонду" легендарны Юры Грыгаровіч, запрошаны мастацкім кіраўніком Беларускага балета Валянцінам Елізар'евым. Афармленне спектакля належыць класіку сцэнаграфічнага мастацтва — Сімону Вірсаладзе. За пультам прэм'ернага паказу новай пастаноўкі быў непаўторны маэстра Генадзь Праваторай. А галоўныя партыі танцавалі выхаванцы сапраўды акадэмічнай беларускай школы, сённяшнія нашы "зоркі" Кацярына Фадзеева, Веніямін Захараў... Іх вы бачыце на гэтым здымку ў па-дэ-дэ з "Раймонды".**

**Фота Віт. АМІНАВА**

## Коласаўцы — у доме Коласа



**Падчас гастроляў у Мінску артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа нязменна завітваюць у музей песняра, каб пакланіцца яго светлай памяці. Гэтым разам яны таксама не парушылі сваёй завядзёнкі. Група майстроў нацыянальнай сцэны пабывала ў святым кутку сталіцы. Іх гасцінна сустрэлі музейцы на чале з дырэктарам Зінаідай Камароўскай. Гаворка ішла пра набалелае — і ў тэатры, і ў музеі. Выказваліся меркаванні, як палепшыць сваю дзейнасць, як "аколасіць" рэпертуар, наладзіць цяснейшыя ўзаемінаы паміж дзвюма коласаўскімі ўстановамі. У сяброўскай гутарцы ўдзел прынялі З. Камароўская, сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч, народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч (яна, купалаўка, вельмі любіць сваіх калег-коласаўцаў), народны артыст рэспублікі Т. Кокштыс, заслужаныя артысты В. Петрачкова і Г. Шкуратаў, дырэктар Коласаўскага тэатра Алесь Харкевіч, загадчыца літаратурнай часткі Святлана Дашкевіч.**

**Гасцям ад музея былі паднесены сувеніры, а лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Генрых Далідовіч падарыў ім сваю "свежую" кнігу "Жар кахання" з надпісам: "Віцебскім Коласаўцам — з павагай да Вашай высакароднай працы мой "Жар..." і з пажаданнем, каб у кожным з Вас заўсёды былі любоў-каханне, што рабіла б жыццё больш узнёслым".**

**А. СЛЕСАРЭНКА**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

ГОСЦІ

# ОРФ прадстаўляе "Дон Кіхота"

Берлінскі тэатр ОРФ упершыню наведаў Мінск са спектаклем "Дон Кіхот" паводле Сервантэса. На сцэне Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі адбудуцца два паказы. Імёны пастаноўшчыкаў ды выканаўцаў пакуль мала што скажуць беларускаму гледачу (рэжысёр — С. Трукенброд, ёй жа належыць інсцэніроўка, сцэнаграфія Г. Х. Элерфельда, акцёры У. Шмідэр, М. Хорн, К. Мондэн, А. Гернер). Твор жа Сервантэса ў шматлікіх мастацкіх адлюстраваннях вабіць людзей ужо каторае стагоддзе. Дарэчы, раман на нямецкую мову перакладаў знаны Людвіг Цік.

Стваральнікі пастаноўкі падкрэсліваюць свой давер да Дон Кіхота, да ягонай веры ў існасць, да ягонай ахвярнай сілы, да бясконцага змагання з плюгавасцю нашага свету, да абароны свету ўласнага, ірэальнага для тых, хто наўкола, але найрэальнага для самога Дон Кіхота.

У ацэнцы таго, што ўбачаць беларускія гледачы, гучыць вызначэнне "рытуал": менавіта паводле ягоных законаў, альбо яго спавядаючы, будуць дзейнічаць акцёры на сцэне. Зрэшты, рэжысёр спасылаецца на Тургенева, які зважаў на донкіхотаву веру ў штосьці адвечнае, на веру ў існасць, якая знаходзіцца па-за асобным чалавекам, — здаецца, і рытуал на сцэне будзе да месца, і гледачы могуць зрабіцца ягонымі ўдзельнікамі. Але толькі сёння і заўтра, 31 мая.

**Ж. Л.**

# "Хоць сабе дзеля аднаго..."

*(Праця́г. Пачатак на стар. 1)*

— Я была на юбілеі ў Аляксандра Іванавіча, — расказвае і падбірае словы Вера. — Па тэлефоне, зусім неспадзявана, ён неяк сказаў мне: "Дачушка мая!" Я была на юбілеі, але ні там, ні пасля, ніколі, напэўна, не магла б расказаць Бутакову, як... не любіла яго ў інстытуце. Бо ён намагаўся навучыць нас не толькі прафесіі, але і жыццю ў прафесіі, што само па сабе — від мастацтва. Ён меў рацыю, безумоўную, неаспрэчную, але я... Не даравала. Бо не ўмела дараваць. І толькі праз шмат гадоў зразумела, хто ў маім жыцці Аляксандр Іванавіч. Як ён (падсвядома, уплывова) выхоўвае мяне ўсё маё самастойнае акцёрскае жыццё, — сваім стаўленнем да працы, да сцэны, сваёй асобаю, сваёй прыстойнасцю. Якасцю надта дарагой і надта рэдкай. Гэта я цяпер люблю Бутакова — шчыра. Гэта я цяпер усведамляю, што такую дзяўчынёху, як колішняя я, узяць на курс мог толькі Аляксандр Іванавіч. Бо ўглядацца ў мяне трэба было надта пільна. І дужа хацець угледзець нешта. І патраціць угледзець, нарэшце. Гэта цяпер на сцэне мне дапамагае жыццёвы досвед, — а я ж заўжды была максімалісткай! Толькі чорнае і белае! Толькі добрае і нядобрае! І перавыхаваць мяне было надта цяжка.

**— Збоку, назіраючы за выхадамі актрысы Амяльчэні на падмосткі, часцяком можна ўгледзець ды адчуць паспяховасць гэтых выхадаў. Прызнанасць публікі. Падатнасць матэрыялу ролі. Удалае выкананне, — што з важкай рэжысёрскай дапамогай (як у колішніх адметных па рэжысуры спектаклях Валерыя Маслюка), так і (часам) па-акцёрску дапамагаючы рэжысёру...**

— Мой першы спектакль — "Дарослая дачка маладога чалавека" Слаўкіна. На жаль, не бачыла легендарны, славуты маскоўскі спектакль, які нават у Мінск прывозілі, — трымала іспыты ў інстытуце. Але як крыўдна было пачуць ад крытыкаў на сесіі БТА (цяпер СТД — **Ж. Л.**), што я паўтараю маскоўскую актрысу! Упершыню моцна пакрыўдзілася. А калі Валерый Маслюк ставіў "Тутэйшых" у Магілёве — асвойталася з ягонымі патрабаваннямі так, што роля гатова была за два тыдні. Калі (часова) працавала з ім жа, з Маслюком, у Віцебску, ніяк не разумела, чаму рэпетыцыі доўжацца па дзевяць месяцаў. Бо перагараеш, пляжышся. А ў дзень прэм'еры "Каханне пад вязамі" (леташняя магілёўская прэм'ера — **Ж. Л.**) спала да самага вечара ад стомы. Канцэнтравалася. Засяроджвалася. Актрысе вельмі важна быць здаровай, фізічна моцнай, але, на жаль... На жаль, я і канфліктую часта, асабліва з рэжысёрамі, праўда, з часам навучылася... ну не так апантана, не так востра перажываць ды даводзіць сваё. Гэта праўда, што да пэўнага моманту ў працы я цярплівая, а потым... кіраваць мною немагчыма. Выдатны ўрок дала мне нябожчыца Юдзіф Гальперына. "Верачка, — казала яна, страсваючы попел з доўгай цыгарэты, — я ўсё жыццё займалася тым, што падманвала рэжысёраў. Увесь мой талент выдаткаваўся менавіта на гэта. Вы са сваім талентам, Верачка, якнебудзь падумайце на гэтую тэму". Але, у Гальперынай ніякіх непаразуменняў са спрэчкамі ды нерваваннем не было. Што і мяне перакананала: сумленна-прасталінейны шлях — гэта шлях не тэатральны.

**— Вера, творчыя асобы зазвычай атулены, акружаны сябрамі, але як патраціць сумясціць душэўную ды прафесійную засяроджанасць і ўсіх, хто побач?**

— У мяне мала сяброў. З гадамі ўсё меней. Адзіны сябра — муж. І па сцэне, і па жыцці, і па быце. У маладосці, здаецца, расхінаешся, маўляў, любіце мяне, а цяпер адкрываецца цяжэй. Кажуць, каб траціць працаваць у сталіцу, патрэбна воля ды жаданне, велізарнае жаданне. А ў мяне няма гэтага жадання — прабіваца ў "зоркі". Альбо яно, жаданне гэтае, надта кволае. Дый, напэўна, далёка не ўсё я маю для "зоркі", для сталічнай актрысы. Трэба праз шмат што пераступіць, а я — не магу. Нават для самай важнай ролі...

**— Вера, а калі атрымліваеш важную, жаданую ролю ды не спраўджваеш яе? Гэта — драма?**

— Я раз на дзесяць гадоў выбіраюся ў Мінск і праваліваю лэдзі Ганну. Кажуць, лёс трэба хапаць за глотку. Але як толькі я намагаюся гэта зрабіць, нічога ў жыцці не складваецца. Няшчасці, непрыемнасці, няўдачы. І як толькі я кажу: "Хай будзе, што будзе", усё пачынае складвацца. Напэўна, няварта тузаць, выпрабоўваць свой лёс, не трэба яго ладзіць, ладкаваць. Марыла пра Джульету, колькі разоў трымала ў руках яе ролю і — не сыграла. Затое ў "Зорках на ранішнім небе" атрымала ролю Ганны і была ў жаху: апіваха, бадзяжка, а мне ж толькі трыццаць!

**— І не п'еш...**

— Аднаго разу таварыства цвярозасці штосьці ладзіла ў Магілёве ды ўсім складам наведала спектакль. Пасля, таксама ледзь не ўсім складам, прыйшло за кулісы: надавалі мне папераў, буклетаў і... прапанавалі бясплатна падлекавацца. Ад п'янства. Тэатр смяяўся тыдзень. Бо я ж нават не палю... Вось так удала я перайшла з роляў маладзенькіх дзяўчынёх на ролі сталых і нават пітушчых кабет. Ведаючы свой лёс, ролі ніколі не выпрошвала, не вымагала. Дзякую, каторы ўжо раз дзякую Аляксандру Іванавічу Бутакову. Ён даваў мне ўзроставыя ролі ды прыгаворваў: "Рыхтуйся, Верачка, альбо ведзьмаў будзеш іграць, або снягурачак". Так і атрымалася. Адны рэжысёры бачаць мяне вострахарактарнай, іншыя — гераіняй, блізкай да ідэальнай, часам з хваравітым ухілам. Нават у ролі лэдзі Ганны Валерый Маслюк прасіў мяне сыграць даму з гарнастаем... І ў няўдалым мінскім паказе (у рамках рэспубліканскай тэатральнай лабараторыі на сцэне Маладзёжнага тэатра. — **Ж. Л.**) таксама вінавачу сябе... Хоць было шмат абставін, якія адметна замінялі не тое што добра — проста сыграць спектакль, які не было часу нават у Магілёве папэпецірaваць (год не ігралі!).





**— Не ўсе акцёры перажываюць з тае нагоды, што працаю не загружана... уласная душа. А даваць ёй працы не ўмеюць або няма як. Вынік — на сцэне. Перадусім такога выканаўцу надта лёгка прадказаць, надта ён спрошчаны, прасцякаваты, плоскі...**

— Гэта адбываецца не таму, што ролі няма або грошай бракуе. Гэта штосьці ўсярэдзіне акцёра... Я не люблю больш за дзве ролі на год, бо пачну паўтарацца, сама сябе мардаваць. Жаданне ролі вялікай ды яркай — вынік маёй правінцыйнай кар'еры, правінцыйнага жыцця. Дарэчы, мне часцяком даюць зразумець, што я, скажам так, не ўпісваюся, не прыдаюся да напружанай унутрытэатральнай гульні, якая ў кожным тэатры да сцэны амаль не мае дачынення. Мяне неяк спыталі: "Чаму гэта вы, Вера Пятроўна, як толькі скончылася рэпетыцыя, павярнуліся й пайшлі? З тэатра?!" Ды толькі таму, што я не люблю закуліснае жыццё. Таму, што ў тэатры я люблю работу. Гэта — прафесійнае... Мяне яшчэ ў інстытуце дражнілі: "Р-ребята, давайте р-работать!" Давайце! Мо таму, што я — сялянская душа? Што не ўмею дзве справы адразу рабіць? У нас гады два таму зусім не было гледача. Чалавек па дваццаць у зале. Казалі, што акцёру сорамна выходзіць перад пустою залаю, а я маўчу і... Хачу на сцэну хоць сабе дзеля аднаго... Дзеля аднаго чалавека, бо калі ўжо той прыйшоў, дык мусіць зразумець, што я раблю для яго...

**З Верай АМЯЛЬЧЭНЯЙ сустракалася Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

ІМПРЭЗЫ

***Кнігі такой, папраўдзе, няма. Проста я дазволіла сабе параўнанне фестывалю "Музы Нясвіжа" з цудоўнай кнігай, да захапляючых старонак якой варта звяртацца неадночы. Тыдзень таму нашы чытачы мелі магчымасць зазірнуць у гэтую кнігу, пазнаёміўшыся з падборкай фотасюжэтаў. Сёння — яшчэ адна спроба пагартаць фестывальныя старонкі ды пашукаць сакрэт магнетызму зусім яшчэ маладой традыцыі.***

не маюць грошай для яе падтрымкі. А заможныя сваякі з "краін капіталу" чакаюць, пакуль юны суверэнітэт Беларусі усталюецца-акрэсліцца і яна вызначыцца на міжнароднай арэне як сапраўды незалежная дэмакратычная стабільная дзяржава. Праўда, ёсць усё-ткі шанц на замежную дапамогу. Для гэтага, як разважаў, зноў жа, А. Мальдзіс, трэба дамагацца, каб наш гістарычны комплекс "Нясвіж — Мір" стаў помнікам нулявога класа паводле класіфікацыі ЮНЕСКА.

Мо і дажывём да таго часу, калі высокіх іншаземных гасцей на Беларусі будуць прымаць не ў заслаўкай рэзідэнцыі, а ў залах Нясвіжскага замка, які зробіцца адным з галоўных сімвалаў нашай краіны —кшталту мастацтваў. У стасунках нясвіжскіх музаў адчувалася нязмушанасць і суладдзе.

Як заўважыў мастацкі кіраўнік імпрэзы маэстра М. Фінберг, тут усё спрыяе росквіту беларускага мастацтва: творчы сімбіёз тых, хто піша музыку і хто яе грае; і захапленне слухачоў, якія добра ўспрымаюць і класіку, і адроджаныя старонкі спадчыны, і сучасных нашых аўтараў, якія імкнуцца працаваць у духу высокіх традыцый свіх музычных продкаў.

Гэтае агульнабеларускае свята (вось калі разумееш, чаму ў нашай мове "свята" родніца са словам "святое") і сапраўды — як дзівосная кніга, перагортваць, перачытваць, пераказваць якую можна гадзінамі. Столькі тут самабытнай філасофіі, гістарычнай

# Сталіцы некаранаванай дух

## ПА СТАРОНКАХ "ФЕСТЫВАЛЬНАЙ КНІГІ"

Маладой? Калі мець на ўвазе, што фестываль камернай музыкі з усімі спадарожнымі яму імпрэзамі прайшоў у Нясвіжы толькі другі раз, традыцыю можна вызначаць нават не як маладую. А як нованароджаную. Калі ж мець на ўвазе, што імпрэзы ды фэсты для нясвіжскай зямлі — важны складнік ейнага еўрапейскага мінулага, традыцыю варта лічыць даўняй, але на доўгі час адрынутай. І вось, нарэшце, адроджанай.

Нясвіж, як сведчыць гісторыя, быў не адзінай сялібаю музаў у колішняй Беларусі. І Слонім, і Шклоў, і Гародня, і Слуцк, напрыклад, зведалі часы росквіту вытанчаных мастацтваў. Ды толькі Нясвіж, наша "некаранаваная сталіца" (такое вызначэнне пачула ад сп. А. Мальдзіса), і пры канцы XX стагоддзя захоўвае ў сабе тое, што вабіць-прываражвае многіх. Ідэалістаў, прагматыкаў, вучоных, абывацеляў, чыноўнікаў, паэтаў...

Фестываль "Музы Нясвіжа", такая родная, доўгачаканая і своечасовая кветка ў кволым садзе досыць безабароннага беларускага адраджэння, — гэты фестываль як самавітая каштоўнасць дапаўняе каштоўнасць яго гістарычнай сялібы. Дапамагае паўней адчуць-зразумець, наколькі неабходны сёння гэты старажытны горад з ацалелай рэзідэнцыяй яго былых уладароў — неабходны для прэстыжу нашай дзяржавы.

Пра лёс замка Радзівілаў, дарэчы, няма-ла гаварылася ў дні фестывалю: падчас навуковай канферэнцыі, на сустрэчах чыноўнікаў імпрэзы з журналістамі. Старшыня райвыканкама У. Дражын, прынамсі, распавёў пра візіт на нясвіжскую зямлю прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі, ягонае наведванне адметных мясцін, зацікаўленасць у выкананні вядомай пастановы Саўміна аб стварэнні на базе Нясвіжскага замка філіяла Нацыянальнага музея з выкарыстаннем яго ў асобных выпадках у якасці ўрадавай рэзідэнцыі. Рэстаўрацыя гэтага гістарычнага помніка вымагае вялікіх капіталаўкладанняў, часу, а таксама... вырашэння праблемы санаторыя, што месціцца ў замкавых будынках.

Санаторый мяркуюць перасяліць у Сноў, у прыгожы палац. Там цяпер вайсковы шпіталь, які ў сувязі са скарачэннем Узброеных Сіл можна без асаблівых выдаткаў зрабіць "цывільнай" медыцынскай установай. Нешматлікая тэхнічная абслуга санаторыя "Нясвіж" застанецца на ранейшых працоўных месцах.

Тэрмін рэстаўрацыі, які, на думку спецыялістаў, можа расцягнуцца гадоў на 10, прэзідэнт краіны нібыта вызначыў з надзеяй на лепшае: 4-5 гадоў.

Фінансаванне... Нашчадкі Радзівілаў, якія сёння жывуць у Польшчы і вітаюць ідэю стварэння музея ў родавым замку, на жаль, Крамля для расійцаў, Версальскага палаца для французаў, Белага Дома для амерыканцаў, Каралеўскага Замка для палякаў... І афіцыйныя асобы, і звычайныя турысты, аглядаючы гістарычную нясвіжскую святыню, ужо не будуць лічыць Беларусь дзіўным геапалітычным утварэннем XX стагоддзя. Яны адчуюць годнасць гаспадароў старажытнай і самабытнай краіны, даўнасць вытокаў яе дзяржаўнасці, еўрапейскі дух адроджаных глыбінных традыцый гэтай зямлі.

А пакуль...

●

Пакуль жа гаспадары Нясвіжа, нашай, дзякаваць Богу, ацалелай нацыянальнай рэліквіі, разам з іншымі арганізатарамі ды чыннікамі фестывалю рабілі ўсё, каб кожны, хто завітаў на свята, "адчуў сябе еўрапейцам" (цытую словы міністра культуры А. Сасноўскага).

Першы канцэрт быў наладжаны ў замку — у той самай акустычна выдатнай зале, дзе калісьці таксама гучала музыка. Мінскі абласны камерны хор і аркестр "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута сабраў аншлаг — і падзяліўся з публікай двума музычнымі адкрыццямі.

Упершыню пасля немаведама якога перапынку выконвалася "Нясвіжская імша" колішняга мясцовага аўтара Шымкевіча. Новае творчае жыццё строга рытуальны твор атрымаў, можна сказаць, з далікатных, працавітых, майстарскіх рук сучаснага кампазітара А. Залётнева, які хваляваўся і прымаў віншаванні, быццам у дзень уласнай прэм'еры. А яшчэ адным адкрыццём стаўся "Рэквіем" нашага слыннага земляка В. Казлоўскага...

"Сцэны з жыцця адпачываючых" (канцэрт адбываўся ў спецыфічнай абстаноўцы санаторыя — што зробіш) не псавалі ўрачыстага настрою ад знаёмства з нязнанымі старонкамі беларускай музычнай спадчыны, гэтак натхнёна, самазабыўна ўвасобленымі хорам ды аркестрам. Дарэчы, акурат у той майскі дзень калектыву пад кіраўніцтвам А. Шута споўнілася 5 гадоў.

Шкада, вядома, што з-за неўразумелай пазіцыі ксяндза не ўдалося, хаця планавалася, выканаць гэтую праграму ў знаным нясвіжскім касцёле. Адкрыццё фэсту, на думку У. Дражына, мусіць адбывацца толькі там, і ёсць надзея, што праз год задуманае спраўдзіцца.

●

Музычныя адкрыцці фестывалю набывалі асаблівую свежасць ад спалучэння подыху мінуўшчыны і духу дня сённяшняга, дыялога часоў і стыляў, суседства і сінтэзу розных мудрасці, навуковых назіранняў, рамантычных замалёвак, дасціпных сюжэтаў, глыбокіх пачуццяў, адметных дзейных асобаў!

Пра канцэртныя праграмы, падрыхтаваныя двума цудоўнымі калектывамі, што ўваходзяць у структуру Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі,– Камерным аркестрам пад кіраўніцтвам маэстра В. Сарокі ды Актэтам духавых інструментаў пад кіраўніцтвам прафесара Б. Нічкова, — пра гэтыя ўзоры эстэтычнага густу, артыстызму і натхнення мы пагаворым больш падрабязна. Але... не зараз. У іншых публікацыях, якія ўжо рыхтуюцца да друку.

Адмысловай гаворкі вартыя (гэта ўжо справа для часопіса) і тэмы, якія абмяркоўвалі ўдзельнікі навуковай канферэнцыі пад старшынствам энергічнага, удумлівага і пунктуальнага кіраўніка — рэктара Беларускага інстытута праблем культуры У. Скараходава. Паўтара дзесятка вельмі розных дакладаў, паведамленняў! Іх з цікавасцю слухалі і навукоўцы, і супрацоўнікі гісторыка-краязнаўчага музея, і журналісты, і, уявіце сабе, мэр Нясвіжа! Зусім невыпадкова маэстра Фінберг прадставіў Уладзіміра Несцеравіча Дражына падчас урачыстай музычнай імпрэзы як... самага культурнага чалавека краіны!

Гартаючы старонкі "фестывальнай кнігі", прыгадваеш яго музычную візітоўку — славуты Ля мінорны паланез М. Кл. Агінскага, пад гукі якога грацыёзна ступалі нясвіжскія "паненкі ды кавалеры", выхаванцы харэаграфічнай студыі (кіраўнік Г. Агароднік).

І стылізаванае пад "тыя часы" фае гарадскога цэнтра культуры, дзе перад пачаткам канцэрта і ў антракце гралі баранавіцкія музыкі — ансамбль "Контрданс" (кіраўнік А. Канстанцінаў).

І сустрэчу ў музычнай школе, куды завіталі выхаванцы класа кампазіцыі прафесара Д. Смольскага разам са сваім Настаўнікам. Іх, добра вядомых сёння творцаў — Г. Гарэлава, А. Літвіноўскага, У. Кур'яна, С. Янковіча, — прадстаўляла музыказнаўца Р. Аладава, якой, дарэчы, выпаў нялёгкі чын выступаць з разгорнутым асветніцкім каментарыем падчас канцэртаў.

Успамінаецца выстаўка мастакоў У. Вішнеўскага, Р. Сітніцы ды Ю. Хілько, вернісаж новых партрэтаў У. Стальмашонка з яго "радзівілаўскай" серыі. І персанажы спектакля "Барбара Радзівіл", урывак з якога паказалі артысты тэатра "Вольная сцэна".

І канцэрт мар'інагорскага ансамбля народных інструментаў "Крыніца", які граў на вольным паветры, пад шатамі нясвіжскага парку старадаўнюю беларускую музыку, "расфарбаваную" нечаканымі тэмбрамі балалаек, баяна, скрыпкі...

Успамінаецца паўнюткая зала, куды ў адзін з вечароў завіталі дыпламаты са Швейцарыі ды Аўстрыі, сям'я бізнесмена з Германіі. Нават міністр сельскай гаспадаркі Беларусі сп. Лявонаў, які прыязджаў на Нясвіжчыну з клопатам пра ход сяўбы, трапіў на канцэрт і зведаў вялікае ўзрушэнне: вось такое нечаканае атрымалася спалучэнне клопату пра хлеб наш надзённы ды спажыву духоўную...

●

Паэт Л. Дранько-Майсюк, удзельнік фестывальнай імпрэзы, сярод іншых прачытаў і вось гэтыя свае радкі: "Жыць трэба, як раней жылі, — шануючы і хорам свой, і сорам".

Шануючы "хорам свой", стваральнікі свята (маэстра М. Фінберг, прафесар У. Скараходаў, рэжысёр У. Арлоў, мастак В. Маршак ды многія іншыя) ужо сёння думаюць пра тое, якімі паўстануць "Музы Нясвіжа" праз год...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*



*Лаўрэат Міжнароднага конкурсу габаіст Алег АЛЯСЮК.*



*У колькіх сэрцах струны тыя адгукнуцца!*



*Вяртаецца Музыка ў замак...*



*Нібы на балі ў Радзівілаў?*



*Брава, Камерны аркестр; брава маэстра! Заслужаны артыст Беларусі Валеры САРОКА.*

ЛiМ ЧАСАПIС

## "Травень" Анатоля Іверса

**15 мая споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Анатоля Іверса. Якраз у гэтым месяцы ў юбіляра выйшла ў свет новая кніга вершаў "Травень". Спонсарам і выдаўцом кнігі выступіла Слонімская ўзбуйненая друкарня. Аформіў выданне мастак Пётр Бурсевіч.**

**У Чамяроўскім сельскім Доме культуры адбылося святкаванне юбілею паэта і прэзентацыя "Травеня". Вечарыну вяла бібліятэчны работнік Вера Бруснікова. На свяце прысутнічалі прадстаўнікі ўлад горада і раёна, шматлікія госці з Мінска, Гародні, Баранавічаў, з родных мясцін юбіляра, сярод іх "касмічны" скульптар Іван Міско, пісьменнікі Данута Бічэль-Загнетава, Іван Чыгрын, Аляксей Якімовіч, Іван Сяргейчык, Сяргей Ёрш, Сяргей Чыгрын і іншыя. Выступіў перад прысутнымі і сам Анатоль Іверс, які прачытаў новыя вершы "Маім землякам" і "Працаўнікам Чамяроўскай сельскай бібліятэкі".**

**Ёсць у Івана Дарафеевіча такія радкі:**

*Ці хочаш, ці не,*
*А цябе заварожыць,*
*Калі Беларусь*
*Майскай кветкай цвіце.*

**Што ж, "майскай кветкай" зацвіў і сам на Беларусі Анатоль Іверс, і сведчаннем гэтаму не толькі яго нараджэнне ў маі, але і паэтычны зборнік "Травень".**

**М. МАЛІНОЎСКІ**

## Захаваныя скарбы



**У Браслаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі адкрылася выстава "Захаваныя скарбы". Яе экспанаты — іконы, старадрукаваныя кнігі, унікальныя прадметы побыту, маглі назаўсёды пакінуць нашу рэспубліку і асесці ў прыватных калекцыях на Захадзе. Гэтага не дапусцілі работнікі мытнай службы. Толькі летась браслаўскія мытнікі перадалі музею чатырнаццаць каштоўных рэліквій.**

**А Віцебскаму абласному музею былі перададзены многія рарытэты, затрыманыя на мяжы Брэсцкай мытні. Частку з іх абласны музей перадаў у фонд Браслаўскага краязнаўчага музея. Цяпер з гэтымі скарбамі нацыянальнай культуры знаёмяцца браслаўчане і госці горада.**



*На здымках: галоўны захавальнік фондаў Ірына Віктараўна Шыдлоўская (злева) і малодшы навуковы супрацоўнік музея Аліна Аляксандраўна Выжыкоўская рыхтуюць да паказу затрыманыя на мытні старадрукаваныя кнігі і іконы; гэтыя каштоўнасці нацыянальнай культуры вернуты народу.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

ПАЭЗІЯ

## Алег ЛОЙКА



### О мой любы, святы, паважаны...

*О мой любы, святы, паважаны*
*Не латруга, не здрайца, не хлус,*
*Крыжаваны ды не ўкрыжаваны*
*Чорнай нехрысцю беларус,*

*Я ўслаўляць цябе не бяруся*
*І наогул спяваць не магу,*
*О мой любы, святы беларусе,*
*Што з смугі выйшаў у смугу;*

*О смуга на аслеплых разлогах,*
*Каб цябе я развеяць мог,*
*Запрадаўся б і д'яблу і богу,*
*Выціračкай пад ногі іх лёг,*

*Не ў цане, аднак, родная мова,*
*Песня нашынская — не ў цане,*
*Мефістофельскае адмовы*
*Аніхто ў свеце не цапане,*

*Спадзяюцца ўсе: пакаруся,*
*Здраджу, сам сябе абылгу,*
*О мой любы, святы беларусе,*
*Што з смугі выйшаў у смугу,*

*Ды — дарма, мой не ўкрыжаваны —*
*Ні хлам'ё, ні хам'ё, ні друз,*
*О мой любы, святы, паважаны*
*Не латруга, не здрайца, не хлус,*

*Хай асмужана далеч, хай дымам*
*Змрочна сцелецца долам абрус,*
*Чорна засцячы нашу Радзіму,*
*О мой любы, святы беларус, —*

*Хай! Ды то — іх апошні шанец!..*
*Тое вяне, што мусіць вянць,*
*О мой любы, святы, паважаны*
*Брат, каго беларусам зваць!..*

### Век барозны свае даворвае...

*Век барозны свае даворвае,*
*А мы — смяротэльна хворыя,*
*Жывыя марыянеткі,*
*Якім не выскачыць з клеткі,*
*Чым хто з нас ні ёсць мечаны —*
*Абрушаны, анямечаны,*
*Аб'яўрэены, апалячаны,*
*Бэнээфны, вертыкальны, —*
*Век лавінай абвальнай*
*Над усімі намі горка плача.*

*Век барозны свае даворвае, —*
*Цмантароў брак і крэматорыяў,*
*І таго жывыя сведкі —*
*Чарнобыльскія кветкі;*
*Белчырвонабелыя, чырванзялёныя*
*З істэрычнымі праклёнамі*
*Сцелем адзін аднаму лядача, —*
*Век абавальны, ён і аўральны,*
*Век лавінаю непрадказальнай*
*Над усімі намі плача.*

*Век барозны свае даворвае,*
*І звужаецца аўдыторыя*
*Песень-псалмаў, вершаў-одаў,*
*Якіх нам зусім не шкода*
*Ані тым, каго карты крапленыя,*
*Ані тым, хто, хлуснёй утрапёныя,*
*Пад купальскімі яснымі зорамі,*
*Пад Чарнобыльскай зоркай...*
*Па-над намі, смяртэльна хворымі,*
*Век не можа не плакаць горка.*

### Мой родны кут...

Пятру ШУПЛЯКУ

*Загнаны ў кут я, да глухой сцяны*
*Шматкутнае, пакутнае маны:*
*Кут правы, левы, цэнтра, заду кут —*
*Куты маны, куты маіх пакут, —*

*Здаецца, манну сыпаць трэба тут*
*Нябёсам, што над намі, ды суддзя*
*Тут не нябёсы, тут табе хамут*
*На шыю — ад кутнога пазаддзя,*

*Ад тых, хто мрэ ад мройнага зуддзя,*
*Каб панаваць на радасць бізунам:*
*Ім — бізуны, мана, хлусня ўсім нам,*
*Хто ім не падпявае загадзя,*

*Хто ведае цану ім і маны,*
*Каму баліць і сэрца і душа...*
*Загнаны ў кут, прыперты да сцяны,*
*Не ў моцы "Прэч!.."*
*крычаць звадыяшам,*

*Шапчу адно: "Мой мілы родны кут,*
*Мілей ты больш і больш,*
*чым больш пакут...*
*Мілей ты больш і больш,*
*чым больш пакут!.."*

### Падпарадкаванцы

*"Вам гэта — не Францыя*
*І не Бурбоны!.."*
*Падпарадкаванцы*
*Зноў на амбонах;*

*Былы трон зноў тронам*
*У тых жа салонах...*
*Патрон ёсць!.. Патроны!*
*Ім матчыным лонам;*

*Час быў ім — хавацца,*
*Час быў ім — азвацца,*
*Час стукнуў, нарэшце,*
*Падпарадкавацца;*

*О то ж яны ўмеюць:*
*Не жнуць і не сеюць*
*І нат не лысеюць*
*Ад дум і турбацый;*

*О радасць авацый —*
*Падпарадкавацца!..*
*Падпарадкаванню*
*Сенатара званне!..*

*Бо тут вам не Францыя,*
*Тут — не Бурбоны, —*
*Падпарадкаванцы тут*
*Пад Увяльбёным!..*

# НАВЕЛЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Год назад, у сорак пятым, расфарміравалі полк, які прыбыў з Германіі. Сёй-той з былых франтавікоў не паехаў дахаты, прыжыўся ў навакольных вёсках. Застаўся ў маладзіцы, удавы без дзяцей, і сяржант, артылерыйскі разведчык Мікалай: не было яму куды ехаць. У сорак трэцім на Смаленшчыне загінула сям'я, хату немцы спалілі. Ды ўлетку атрымаў ён ліст ад сястры, якая цудам выратавалася ад смерці. І стала неспакойна на душы ў чалавека, пацягнула яго да роднага котлішча. Доўга не гаварыў маладзіцы, бо шкада яе было, ды і прывык, але ўсё ж сказаў праўду:

— Выбачай, Маруся, але паеду дадому. Любая ты мне, але не магу тут жыць. Што хочаш рабі, але паеду...

Яна як стаяла з ёмкай ля печы, так і скамянела, бы аглушаная, слова не магла вымавіць, а потым, як даўмела, заплакала па-бабску, ціха, жаласліва.

— Паедзем разам, родная ты мне стала, ды і дзіцё... Едзем, не прападзем. Ну, не магу я тут. Там нарадзіўся, там і паміраць буду.

— Ды тут жа ўсё — і хата, і соткі, і сад, а там што? Жыць дзе будзем?

Мікалай задыміў самакрутку, доўга, унурыста маўчаў, сядзеў за сталом. І быццам выціснуў з сябе, з болем, з жалем:

— Рашай, Маруся, сама. Абжывуся, наведаю цябе. А дзіцёнка, калі родзіцца, глядзі, запішы на мяне. Праз два дні паеду, у суботу...

Назаўтра, адвячоркам, жанчына крадком, па загуменні, падалася на край вёскі, да Пільгуна. Той жыў адзін, як воўк, на водшыбе. Перад вайной адседзеў дзесяць гадоў за забойства. Жонка памерла ў вайну, дзяцей не было. Так і дажываў свае гады Пільгун...

Праз месяц на пераездзе, між рэек, знайшлі знявечаны труп жанчыны: грузавы цягнік нават не спыніўся.

Ніхто ў вёсцы і дасюль не ведае: ці яна сама кінулася пад поезд, ці ў цемені, пераходзячы цераз дарогу, загінула выпадкова. Але ўсе сышліся на тым, што прыйшла да Марусі божая кара за вялікі грэх, ад якой не можа ўратавацца ніводны грэшнік.

### СЛЯЗА

У вёсцы, у канцы пяцідзесятых, рушылі званіцу старой царквы — меліся зрабіць тут клуб. Стаяла яна сто гадоў, мо і болей, кладка — любата: чырвоныя цагліны шчыльна прыгнаны адна да адной, хоць бы дзе якая трэшчынка; тады ж, відаць, пасадзілі вакол клёны і бярозы, і ўзнесліся яны вышэй за серабрыстыя, быццам шлемы воінаў, купалы, ахоўвалі царкву ад вятроў і бур. А ўвосень, калі барвавела лістота, здавалася, царква свеціцца чырвонымі водсветамі пад промнямі сонца.

Рахманы, кульгавы і п'янаваты мужычок — такія заўсёды на падхваце ў любой справе, — высунуўся на вышыні з вузкага вакенца званіцы, узмахнуў рукой, каб адышліся ад цвінтара, і хутка адтуль данёсся грукат, лязгат жалеза. Звон, відаць, не паддаваўся. Мужычок зноў паказаўся ў вакенцы, пераґнуўся ўніз, нешта неразборліва закрычаў — прасіў падаць вяроўку ці што іншае, — і раптам няўклюдна пахіснуўся наперад, зашкроб рукамі па гладкай цаглянай кладцы, каб утрымацца ў апошні момант, і імкліва паляцеў уніз.

Людзі закрычалі, у жаху адбегліся ад цвінтара.

Ён нерухліва ляжаў на невысокіх, абліцаваных белым мармурам прыступках, і кроў тоненькім ручайком сцякала на сухі жвір.

Назаўтра з недалёкага вайсковага палігона прыгналі цяжкі танк, завялі доўгі сталёвы трос на вільчык званіцы, абматалі яе вакол. Машына, шалёна ўзроўшы маторам, грабучы гусеніцамі ўдратаваную зямлю, напяла трос, нібы струну, рыўком, натужліва памкнула наперад. Званіца з крыжам паволі нахілілася, затрашчала, бы ў апошні раз крычала пра свой боль, і з грукатам паляцела ўніз, на шырокі разлапісты клён. Дрэва здрыганулася, затрэсла густой лістотай і ўпала на дол, прыціснутае неймаверным цяжарам.

Згорбленая бабулька, што стаяла воддаль, узняла галаву, хапатліва, спяшаючыся, перажагналася, быццам спяшалася адхрысціцца ад нячыстай сілы.

Па яе маршчыністай старэчай шчацэ паволі каціласа сляза.

### ВОЗ НА ГРАЗКАЙ ДАРОЗЕ

Лінуў кароткі, але спорны летні дождж, па вясковай вуліцы пацяклі ручаі, і вось зноў сонца зззяе ў чыстым блакіце неба. Дарога стала гразкай, цяжкай.

Невысокі, клышаваты, у шэрым паношаным пінжачку, ужо ў добрых гадах мужычок, з перакрыўленым ад злосці тварам, сцябае і сцябае пугай каня, а той, упінаючыся з усіх сіл, цягне па гразі пасярод вуліцы нагружаны даверху мяхамі з камбікормам воз. Конік ад непасільнай натугі ўвесь мокры, раз-пораз спыняецца, косіцца разумным вокам на вазака і зноў як не кладзецца ў аглоблях.

Мужычок, саскочыўшы перад лужынай з драбін, шлэпае ў гумовіках па гразі, з нядобрай, зацятай злосцю, скрывіўшы твар, б'е пугай па мокрым ад поту крыжы. Конік не ў сілах перацягнуць воз цераз вязкае месіва, цяжка храпучы, прыпыніўся, потым напружыўся, памкнуўся вырваць калёсы з глыбокай каламуты, але воз ні з месца. Мужычок забягае збоку, тузае лейцамі, з прыдыхам, хрыпата лаецца і зноў злосна шлягае каня пугай. Бедная жывёліна быццам разумее, што не адступіцца ад яе гэты клышаногі мучыцель, пакуль не давязе да месца цяжкі воз, пакутліва скошвае вочы назад, з усяе сілы рвецца наперад і, урэшце, выдзірае калёсы з густой гразі. У апошнім адчаі, часта перабіраючы нагамі, конік цягнецца далей, каб не атрымаць балючы ўдар пугай.

Задняе гумавае кола спусціла, відаць, яшчэ далёка за вёскай, расплюшчана вішчыць пад цяжарам грузу, а мужычку хоць бы што: конь жа не яго ўласны, калёсы таксама, і вязе ён не сваё дабро, а калгаснае. Прыехаў, скінуў і вольны. І нікому няма справы да таго, што адбылося на дарозе.

Ці не такое і наша жыццё? Быццам наканавана як не кожнаму ў натужлівай, злой упартасці цягнуць і цягнуць свой цяжкі воз па раскіслай, гразкай дарозе немаведама куды. І ніхто не скажа, калі ж скончыцца гэты нясцерпна доўгі і пакутлівы шлях...

УГОДКІ

# "Каб захаваць павагу да сябе..."

## ГЭТЫМІ ДНЯМІ А. САХАРАВУ СПОЎНІЛАСЯ Б 76 ГАДОЎ

Рускі фізік і змагар за мір і правы чалавека, Нобелеўскі лаўрэат Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў нарадзіўся ў Маскве 21 мая 1921 года. Ягоны бацька, Дзмітрый Сахараў, быў прафесарам фізікі Маскоўскага педагагічнага інстытута імя Леніна. Па словах самога Сахарава, ён вырас у вялікай камунальнай кватэры, напоўненай традыцыйным сямейным духам, дзе цанілася перш за ўсё працавітасць і прафесійная кампетэнтнасць. Мяккі і сціплы юнак быў асабліва прывязаны да сваёй бабулі. Ведаючы англійскую мову, яна кожны вечар чытала ўнукам кнігі вялікіх англійскіх пісьменнікаў. Перад праваслаўнымі святамі яна чытала ім Евангелле.

Ён вучыўся ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, дзе лічыўся лепшым студэнтам, які калі-небудзь вучыўся на фізічным факультэце. Пасля заканчэння універсітэта з адзнакай у 1942 годзе ён быў вызвалены ад службы ў дзейнай арміі і накіраваны на ваенны завод у Паволжа.

Вярнуўшыся ў Маскву пасля вайны, Сахараў паступіў на працу да вядомага спецыяліста па квантавай фізіцы Ігара Тама ў інстытут імя Лебедзева. Праз два гады, ва ўзросце 26 гадоў, ён атрымаў ступень доктара фізіка-матэматычных навук.

Працуючы ў абстаноўцы найстрогай сакрэтнасці, Сахараў, Там і іх калегі стварылі вадародную бомбу, якая прайшла выпрабаванні ў жніўні 1953 года. Гэты поспех прынёс ушанаванні перш за ўсё Сахараву. У тым жа годзе ён стаў самым маладым вучоным, які калі-небудзь выбіраўся ў Акадэмію навук СССР — элітарны кіруючы орган савецкай навукі.

З гэтага часу і да 1968 года Сахараў працаваў над удасканаленнем ядзернай зброі. Апісваючы свае жыццё тых гадоў, ён пазней гаварыў: "Суб'ектыўна я адчуваў, што працую ў імя міру, што мая работа ўмацоўвае баланс сіл і таму прыносіць карысць савецкаму народу, ды і чалавецтву ў цэлым". Аднак з цягам часу ў ім нарадзілася пачуццё пратэсту супраць ядзерных выпрабаванняў, спачатку з апасення біялагічнай небяспекі выпрабаванняў у атмасферы.

У 1958 годзе Сахараў склаў мемарандум для Хрушчова, пераканаўшы ў непатрэбнасці выпрабаванняў, якія толькі правакуюць гонку ўзбраенняў. Ён прапанаваў спыніць усе выпрабаванні ядзернай зброі і дамагчыся забароны выпрабаванняў, але — безвынікова. Пазней ён успамінаў: "Я не мог нічога зрабіць з тым, што лічыў няправільным і непатрэбным. У мяне было жахлівае пачуццё бяссілля. Пасля гэтага я стаў іншым чалавекам".

Яго інтарэсы ўжо тады не абмяжоўваліся ядзернай фізікай. У 1958 годзе ён выступіў супраць планаў Хрушчова па скарачэнні сярэдняй адукацыі. Праз пяць гадоў яму ў ліку іншых вучоных удалося пазбавіць савецкую генетыку ад згубнага ўплыву фельдфебеля ў навуцы — агранома Трафіма Лысенкі, антынавуковыя тэорыі якога (у прыватнасці, яго думка аб тым, што спадчыннасць раслін можна змяніць за кошт навакольнага асяроддзя) у немалой ступені абумовілі правал сельскай гаспадаркі пры Сталіне.

Пасля хрушчоўскай адлігі аднавілася барацьба з іншадумствам у СССР. Пісьменнікі Андрэй Сінеўскі і Юлій Даніэль былі асуджаны да турэмнага зняволення ў 1966 годзе за "паклёп" на Савецкі Саюз у кнігах, апублікаваных на Захадзе. Сахараў разам з Тамам, Пятром Капіцам і 22 іншымі віднымі інтэлектуаламі накіраваў ліст Брэжневу, у якім адзначалася, што любыя спробы адрадзіць сталінскую палітыку нецярпімасці да іншадумства "былі б найвялікім бедствам" для савецкага народа.

Такім чынам Сахараў супрацьпаставіў сябе афіцыйным колам. У 1968 г. ён напісаў маніфест "Роздум аб прагрэсе, мірным суіснаванні і інтэлектуальнай свабодзе", пра які амерыканскі журналіст Гарысан Э. Солсберы пазней адгукнуўся як пра "вышэйшую адзнаку руху за лібералізацыю ў камуністычным свеце". Асуджаючы гонку ядзерных узбраенняў, дакумент заклікаў да супрацоўніцтва Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў, прадказваў паступовую канвергенцыю дзвюх сістэм, патрабаваў аб'яднання савецкіх і амерыканскіх рэсурсаў для барацьбы з глабальнай пагрозай голаду, перанасялення і забруджання навакольнага асяроддзя. Сахараў выступіў за адмену цэнзуры, палітычных судоў, супраць утрымання дысідэнтаў у псіхіятрычных шпіталях. Гэты маніфест нелегальна цыркуляваў на тэрыторыі Савецкага Саюза, потым быў апублікаваны ў ЗША пад назвай "Прагрэс, суіснаванне, інтэлектуальная свабода".

Афіцыйная рэакцыя на "ерэтычнае" выказванне Сахарава паследавала неадкладна: ён быў звольнены з усіх пасад, звязаных з ваеннымі сакрэтамі. (А што ў нас тады не было сакрэтным!). Пазней ён быў прыняты ў Інстытут імя П. Н. Лебедзева на пасаду старшага навуковага супрацоўніка (?!) — самую нізкую з тых, якую можа займаць савецкі акадэмік. Тут ён прадаўжаў тэарэтычныя даследаванні элементарных часцінак, гравітацыі і структуры Сусвету, пачатыя раней.

Да таго часу жонка Сахарава, якая нарадзіла яму трое дзяцей, памерла. У 1970 годзе разам з іншымі фізікамі Сахараў заснаваў камітэт "За правы чалавека", які павінен быў увасобіць прынцыпы Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Праз год ён ажаніўся з Аленай Бонэр, з якой пазнаёміўся ў час пікетавання залы суда, дзе ішоў працэс над дысідэнтамі.

Чым больш Сахараў разыходзіўся з савецкай палітыкай, тым больш часу займала ў яго дысідэнцкая дзейнасць. У 1973 г., нягледзячы на папярэджанне намесніка генеральнага пракурора, Сахараў арганізаваў прэс-канферэнцыю для 11 заходніх журналістаў, у час якой асудзіў не толькі пагрозу перасьледавання, але і тое, што назваў "разрадкай без дэмакратызацыі". Ягоныя заявы выклікалі рэзкую крытыку "грамадскасці": у газеце "Правда" з'явіўся артыкул, падпісаны 40 акадэмікамі; артыкул аналагічнага зместу за подпісам 25 урачоў (у ліку якіх быў Яўгеній Чазаў, пазней сустаршыня арганізацыі "Урачы свету за папярэджанне ядзернай вайны") быў апублікаваны ў газеце "Известия".

У 1975 годзе Сахараў быў удастоены Нобелеўскай прэміі міру за "бясстрашную падтрымку фундаментальных прынцыпаў міру паміж людзьмі" і за "мужную барацьбу са злоўжываннем улады і любымі формамі ўціску чалавечай годнасці". Нарвежскі Нобелеўскі камітэт заявіў, што "глыбока шкадуе аб тым, што Андрэю Сахараву не далі магчымасці атрымаць прэмію міру асабіста".

Узнагароду прыняла Алена Бонэр, якая абнародавала прамову Сахарава. У ёй ён гаварыў: "Каб захаваць павагу да сябе, чалавек павінен рабіць адпаведна ўсеагульнай празе міру, сапраўднай разрадкі, сапраўднага раззбраення". Заклікаў да "ўсеагульнай палітычнай амністыі ў свеце" і "вызвалення ўсіх вязняў сумлення паўсюдна". Прасіў слухачоў мець на ўвазе, што гэтую ўзнагароду "падзяляюць усе вязні сумлення ў Савецкім Саюзе і краінах Усходняй Еўропы, а таксама тыя, хто змагаецца за іх вызваленне".

На наступны дзень Бонэр прачытала Нобелеўскую лекцыю мужа "Мір, Прагрэс, Правы чалавека", у якой Сахараў даказваў, што гэтыя тры мэты "непарыўна звязаны адна з другой". Ён назваў прагрэс не толькі непазбежным, а і непадзельным, адзначыўшы, што ён патрабуе "свабоды сумлення, існавання інфармацыйнай грамадскай думкі, плюралізму ў сістэме адукацыі, свабоды друку і доступу да крыніц інфармацыі". Усяго гэтага, заявіў Сахараў, "востра не хапае ў сацыялістычных краінах". Далей ён намеціў прапановы па дасягненні разрадкі і раззбраення.

Сахарава арыштавалі ў 1980 годзе, калі ён рэзка асудзіў савецкае ўваходжанне ў Афганістан. Ён быў пазбаўлены ўсіх узнагарод, уключаючы званне Героя Сацыялістычнай Працы, і без усялякага суда сасланы ў ваенна-прамысловы горад Горкі (цяпер Ніжні Ноўгарад), закрыты для іншаземцаў, дзе быў змешчаны пад хатні арышт. Праз чатыры гады і Бонэр таксама саслалі ў Горкі, абвінавconfigўшы ў антысавецкім паклёпе.

У снежні 1986 г. Гарбачоў аб'явіў Сахараву па тэлефоне аб заканчэнні ссылкі. Праз некалькі дзён Сахараў разам з Бонэр вярнуўся ў Маскву, дзе аднавіў навуковую працу, і працягваў дамагацца вызвалення савецкіх дысідэнтаў, зняволеных па палітычных матывах.

На першых свабодных выбарах народных дэпутатаў у 1989 г. Сахараў вырашыў балатавацца толькі ад Акадэміі навук СССР, хоць быў вылучаны ў многіх тэрытарыяльных акругах, якія гарантавалі яму безумоўную перамогу. У гэты перыяд ён шмат разважае аб рэформе палітычнай структуры СССР. Ім быў падрыхтаваны праект "Канстытуцыі Саюза Савецкіх рэспублік Еўропы і Азіі". Мэтай народа і дзяржавы аўтар абвясціў "шчаслівае, поўнае сэнсу жыццё, свабоду духоўную і матэрыяльную, дабрабыт, мір і бяспеку для грамадзян краіны, для ўсіх людзей на Зямлі, незалежна ад расы, нацыянальнасці, полу, узросту і сацыяльнага становішча..."

Сахараў памёр 14 снежня 1990 года, пасля напружанага дня працы на З'ездзе народных дэпутатаў. Развітацца з вялікім чалавекам прыйшлі сотні тысяч людзей.

Поўная ацэнка навуковых заслуг Сахарава немагчымая да заканчэння тэрміну сакрэтнасці яго работ. Тым не менш ясна, як шмат ён зрабіў не толькі для развіцця ядзернай зброі, але і для выкарыстання сіл атама ў мірных мэтах. Яго высокаарыгінальная работа, апублікаваная ў 1969 г. (у ёй разглядалася роля антыкваркаў, які, магчыма, тлумачаць баланс рэчыва і антырэчыва), дае падставу лічыць, што яго ўклад у вучэнне пра Сусвет не саступае яго ролі ў ядзернай тэхналогіі. Аднак ні тое, ні другое не можа пераўзысці яго непараўнаных заслуг у справе абароны міру і правоў чалавека.

**Барыс ЖАГРЫН**

*г. Мінск*

НАДЗЁННАЕ

# Надзея павінна жыць

## ПАДКАЗКІ З МІНУЛАГА

Паэма Янкі Купалы "Калека" была надрукавана 85 год таму, але час не аддаліў, а, наадварот, наблізіў да нас гэты твор, актуалізаваў яго, зрабіў больш выразнай яго ўнутраную сімволіку. Адзначыць чарговыя ўгодкі купалаўскага твора — гэта значыць чарговы раз у яго ўглядзецца з таго месца, на якім мы зараз знаходзімся. Такім чынам мы кожны раз будзем адкрываць для сябе нешта новае, раней не заўважанае. Янка Купала — гэта такі скарб, які мусіць не пыліцца на кніжных паліцах, а заўсёды знаходзіцца ў нашых думках, у нашай душы.

На працягу свайго творчага жыцця Купала стварыў шмат сімвалаў Беларусі, і адзін з самых пранізлівых увасоблены ім у героі і ў самой назве паэмы — "Калека". Сюжэт тут вельмі просты: аўтар (лірычны герой) сустракае ў карчме дзецюка, які з выгляду "повен сілы", але вельмі пахмурны, быццам ён "збіты ці з пахмелля". У адказ на пытанне, чаму ён гэткі, дзяцюк апавядае пра сваё жыццё "ад пачатку". Ён прызнаецца, што "мала помніць родну хатку" свайго маленства, але ўспамінае яе з вялікім замілаваннем. Бяда прыйшла са стратай ім бацькі і маці, бо сірату адразу ж "З хаты выгналі за браму". Згубіўшы бацькоў, ён згубіў і Бацькаўшчыну. Значыць, Бацькаўшчына і бацькі — гэта нешта адзінае. Без Бацькаўшчыны ж шлях адзін — "да пана".

*Далі там агрызак хлеба,*
*Далі колькі марных грошаў;*
*Што, здаецца, болей трэба?*
*Будзь слухмяны, будзь харошым!*

*Здацца можа добра гэтак,*
*А дзе ж кут свой, а дзе воля?*
*Панскі дом, страва, адзетак*
*Душы, сэрца не здаволяць.*

Нават калі так-сяк задаволены матэрыяльныя патрэбы, застаецца яшчэ "душа, сэрца". А ім неабходна воля, свабода, а гэта магчыма тады толькі, калі ёсць "кут свой"! Пану ж трэба толькі адно — каб быў "слухмяным". Бо такіх можна пасылаць куды заўгодна. У тым ліку і "ў салдаты..." Адтуль ён вяртаецца ўжо калекам, без рукі. "І вярнуўся... куды? — к пану...", бо няма куды болей вяртацца. Цяпер пан ставіць яго "за лесніка". На гэтай службе герой паэмы трапляе ў буру, і дрэвам яму пашкодзіла нагу. Пану ён ужо непатрэбны, і дарога застаецца адна — у жабракі.

Лёс, пагадзіцеся, у нечым тыповы. І не толькі для часоў мінулых. Ці мала мы пахадзілі "ў салдаты", якія толькі даўгі (у тым ліку і інтэрнацыянальныя) не сплачвалі "пану"? А колькі гэтых "бур" было (у тым ліку і чарнобыльская), колькі "лесу паламана" ды атручана. А мы ўсё роўна імкнёмся "да пана", хаця папярэджвае нас Купала, што "залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазе" ("Незалежнасць").

*Дзе ты, вера, дзе ты, сіла?*
*На каго мне наракаці?*

— пытаецца калека. Але нават у сваім цяжкім становішчы ён не наракае ні на кога, ён толькі просіць: "— Глянь душой, дзе, ў чым няшчасце..."

"Слухаць душой" — скажа Янка Купала ў паэме "Курган". Але адказ на гэтае пытанне кожны "хай шукае свой" — папярэджвае ён у паэме "Магіла льва". Хто, акрамя нашай беларускай інтэлігенцыі, можа і павінен знайсці і данесці да народа гэты адказ? Нават калі народ маўчыць, пытанне гэтае, няхай часта і падсвядома, усё роўна прысутнічае: дзе, у чым няшчасце? Адказу не было, альбо яго не пачулі, альбо не схацелі пачуць... Здарылася так, што на кароткі тэрмін мы трошкі пажылі самі і нарэшце зразумелі, у чым наша няшчасце. У тым, што жывем без пана! А, значыць, трэба хутчэй назад, да яго!..

Герой паэмы "Калека", пакідаючы карчму, гаворыць аб самым галоўным, ён як бы робіць выснову са свайго горкага вопыту: "Стой за праўду, стой, як скала"...

Гэта значыць, што нягледзячы на свой драматычны лёс, на пераможаны крыўды, веру ў праўду, у тое, што яна ёсць, ён усё-такі не згубіў. Бо калі заклікае стаяць за праўду — значыць, верыць, што яна існуе. Тут наш нацыянальны геній вуснамі свайго героя выказаў нешта такое, на чым неабходна прыпыніцца і як след задумацца. Вера ў праўду — гэта тое адзінае, на чым можа быць заснавана наша надзея на лепшае. Янка Купала, які здолеў "сэрца мільёнаў падслухаць біццё" ("З кутка жаданняў"), як ніхто іншы разумеў гэта, адсюль ён чэрпаў сілы для сваёй творчасці. "Дух у народзе к праўдзе заве" ("За праўду!"), "ёсць вялікая праўда на свеце" ("Можна..."), "адвечная праўда і законы" ("Ці маем мы права выракацца роднай мовы" — аб гэтым Янка Купала напамінае вельмі часта. І шукаць гэтую праўду трэба ў сваёй душы: "дабудзь з сваёй душы ўсе праўды, сваіх дум, сэрца запытай" ("Песняру-беларусу"). Бо, як гаворыцца ў Пасланні да рымлянаў, "дзеі закона ў іх напісаны ў сэрцах..." (Рым. 2,15. Перакл. В. Сёмухі).

Паказваючы ў сваіх вершах жудасныя вобразы нашай занядбанасці і беспрасвецця, вялікі паэт аснoўную прычыну бачыць у тым, што ў нас "з балотам змяшаны старыя законы" ("Забраны край"), што ў нас "торг з адвечнай праўды зрабілі" ("Блізкім і далёкім"), "Хрыста згубіўшыя сыны" ("Хрыстос васкрос!"), якія "гандлююць Ісусам" ("Слугам алтарным")...

І ўсё ж "душу вырывай з цемнаты" ("За праўду") — заклікае Купала беларуса.

Сейце па роднай, беднай старонцы
Праўду і ў думках і ў песнях сваіх

— звяртаецца ён да паэтаў. Напачатку — "у думках сваіх", а пасля ўжо ў "песнях". Пра гэта ж кажа і герой паэмы "Калека: Стой за праўду", г. зн. здолей знайсці і адстаяць гэтую праўду ў сваёй душы.

У "Беларусі" (1997 г., N 1) надрукавана невялікае апавяданне А. Дударава "Абразок". Там чалавек, які згубіў веру, вымае з акна шыбу і ўстаўляе замест яе абраз. І ні на якія ўгаворы зняць не паддаецца. Але ранкам шыба была на месцы... Значыць, вера не канчаткова пакуль яшчэ згублена. Герой паэмы "Калека" замярзае зімою ля дарогі пад крыжам. Ён так і не змог знайсці сваю дарогу, бо яго вадзіла ягонае жабрацтва. Усе мы тут духоўныя калекі — таму і не можам нічога зрабіць для сябе, таму і не адважваемся зрабіць крок без чужой падтрымкі. Наш сённяшні стан — не толькі матэрыяльнае, але — найперш — духоўнае жабрацтва. Бо ў цемры ходзім, топчам свае ўласныя скарбы.

І, тым не менш, надзея ёсць. І яна павінна жыць альбо памерці апошняй.

**Уладзімір ПЯТРОЎСКІ**

*г. Маларыта*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Мастак-летапісец Мінска

**З 7 па 26 мая ў невялікай зале Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі працавала выстава, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага графіка і калекцыянера Анатоля Тычыны (1897-1986).**

**З усёй вялікай спадчыны мастака на выставу трапіла толькі каля 60 твораў, якія тым не менш даюць уражанне аб ягоным творчым шляху.**



**Мастак нарадзіўся на Літве, мастацкую адукацыю атрымаў у Пензенскай мастацкай вучэльні (1915-1917) і Омскай мастацкай школе імя М. Врубеля (1918-1920), але сэрца сваё аддаў Беларусі — Мінску, у якім ён пражыў 66 гадоў.**

**Пачынаў А. Тычына як таленавіты прадаўжальнік міріскуснікаў. Ягоныя стылізаваныя краявіды Гомельскага парку 1921-1923 гадоў уражваюць прыгажосцю ліній і тонавых кантрастаў.**

**А. Тычына — адзін з нямногіх беларускіх графікаў, які стварыў непаўторны стыль афармлення беларускай кнігі 1920-х гадоў. Мастаком афармлены шматлікія вокладкі да беларускіх часопісаў "Наддзвінне", "Маладняк", "Наш край", каталогаў Усебеларускіх выстаў, твораў Я. Купалы,М. Чарота, У. Галубка і інш.**

**У 30-я гады А. Тычына схаваўся ад ціску сталінскай ідэалогіі за нейтральную тэму гарадскога краявіду. З той пары яго можна лічыць "летапісцам і песняром" Мінска, які зрабіў для горада тое ж, што Астраумава-Лебедзева для Пецярбурга, увасобіўшы паэтычны міф горада.**

**Іншая справа, што пераможны сталінскі ампір архітэктуры пасляваеннага Мінска не зусім падыходзіў для рамантызацыі горада. Але мастак у лепшых аркушах змог знайсці цёплыя фарбы для перадачы настрою горада. Цяпер ужо "Мінск 50-х" як вобраз горада назаўсёды звязаны з імем Тычыны.**

**На выставе можна было набыць каталог, зроблены на гектографе сіламі музея. Шкада, што нават да 100-годдзя мастака не знайшлося сродкаў для больш прыстойнага альбома...**

**Надзея ВУСАВА,**
**мастацтвазнаўца**

## Рукатворны цуд



**Вераніка Міхайлаўна Галубок са Скідзеля стварае сапраўдны рукатворны цуд. Яе невялікая хаціна аздоблена самаробнымі пакрываламі,абрусамі, дыванамі розных узораў і адценняў.**

**Навучылася яна майстэрству ад бабулі, маці і старэйшых сясцёр у роднай вёсцы Жадзейкі, што ў Шчучынскім раёне. Вераніка Міхайлаўна ўжо даўно на пенсіі, але не сядзіць без справы. Тчэ на бацькоўскіх кроснах.**

**Ілля БАРЫСАЎ**

З ДАРОГІ

***Аднойчы захацеў нячысцік купіць на базары яблыкаў. Хітрая гандлярка замест яблыка падала яму з-пад паліцы цыбуліну. Той кусануў — і ажно морду яму перакрывіла... Мусіць, гандлярка была з Эслінгена, бо толькі ў гэтым нямецкім горадзе адзначаецца фальклорнае свята Цвібельн-фэст (ад Zwiebeln — цыбуліна). Калі б мы прыехалі ў пачатку восені, то на яго пэўна б патрапілі. Але мы тут заспелі вясну: усё квітнела і пахла, сонца грэла вінаградныя лозы на схілах пагоркаў, і толькі вецер быў такім жа сцюдзёным, як і ў нас на Беларусі.***

# Як пашыраюцца межы

**Прадгісторыя.** Эслінген-на-Някары і Маладзечна гэтым летам адзначаць 10-годдзе пабрацімства. Завязаўшыся на зары перабудовы, партнёрскія сувязі то мацнелі, то ледзь цепліліся. Перш кантакты ажыццяўляліся толькі па лініі гарадскіх улад*аў Маладзечна, пазней было створана* культурна-асветніцкае таварыства "Сябрына". Да яго старшыні Мікалая Кудзіна немцы ставяцца з павагай і даверам, і з цягам часу свецкія стасункі неяк плаўна і нязмушана падмацаваліся царкоўнымі. Цікавасць да Беларусі праявілі каталіцкія і пратэстанцкія абшчыны Эслінгена, адбыўся абмен дэлегацыямі, паступала гуманітарная дапамога. І вось сфарміравана чарговая група з нашага боку. Прыхаджане Свята-Успенскай царквы, прадстаўнікі "Сябрыны", Мінскай епархіі і гарвыканкама "запрэглі" два старэнькія мікрааўтобусы і выправіліся за дзве тысячы кіламетраў на поўдзень Германії. "І з такім транспартам наладжваць партнёрскія сувязі?!" — пакпіў работнік брэсцкай мытні. І як у ваду гля.дзеў: гора за дарогу цяпнулі. Суцяшалі сябе адно тым, што стома пройдзе, а ўражанні застануцца. Так яно, зрэшты, і было.

**Экуменізм у дзеянні.** *Евангелічная,* лютэранская, пратэстанцкая — усё гэта назовы аднолі канфесіі. Гэта дзіця Рэфармацыі XVI ст., якую ўзначаліў Марцін Лютэр. Зараз у Германіі 29 млн. вернікаў-евангелістаў, 28 млн. католікаў і 80 тыс. праваслаўных. З праваслаўнай царквой (панямецку — артадаксальнай) 4 стагоддзі ніякіх сувязей не было, і толькі ў апошнія дзесяцігоддзі яны неяк наладжваюцца.

Евангелісты, па ўсім адчуваецца, досыць цярпімыя і талерантныя ў пытаннях веры. У некаторых кірхах практыкуюцца сумесныя службы з католікамі. Ёсць праект правядзення сумеснага царкоўнага дня. На вячэрнім богаслужэнні ў пасёлку Дэнкендорф, куды нас запрасілі, службу вялі прадстаўнікі розных канфесій — як святары, так і вернікі; яны па чарзе чыталі Евангелле. У гэты вянок хораша ўпляліся і праваслаўныя царкоўныя спевы. Справа ў тым, што ў складзе нашай групы быў маленькі, з 5 чалавек, хор музычнага вучылішча горада Маладзечна. За тры месяцы яго кіраўнік, выпускнік кансерваторыі Андрэй Спічак падрыхтаваў цэлую канцэртную праграму, аснову якой склалі творы рускіх кампазітараў мінулага стагоддзя. Спевы так спадабаліся, што ў храме прагучалі воплескі, і "на біс" харысты выканалі яшчэ і беларускую народную песню. Гэта ніколькі не парушыла ўрачыстай атмасферы богаслужэння, а толькі дадало яму жывасці і натуральнасці. Творчы пачатак нідзе не лішні, і хто сказаў, што яго не павінна быць у царкоўнай абраднасці?

Мы сталі сведкамі рэлігійнага супрацоўніцтва і ў грэка-праваслаўным храме, збудаваным на сродкі мясцовай грэчаскай дыяспары. Пасля літургіі з удзелам маладзечанцаў сабор запоўнілі каталікі-італьянцы. Тыя пакуль не маюць свайго храма, а таму арандуюць чужы.

Ідэя саборнасці (экумены) праяўляецца, як бачым, у дзеянні. Як гаварылася ў адной з пропаведзяў, лаза адна, а галінак павінна быць многа... З вялікай увагай на прыёме ў Савеце евангелічных цэркваў быў успрыняты прывітальны ліст ад мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта (ліст агучыў старшыня беларускага праваслаўнага Брацтва трох віленскіх мучанікаў Мікола Матрунчык).

І такая дэталь, што кінулася ў вочы: тысячагадовыя цэрквы — як у Швэбішхале, напрыклад — захавалі ў інтэр'еры прыкметы рымска-каталіцкай, дарэфармацыйнай царквы, хаця ні пазалота, ні вялікая колькасць драўляных скульптур не ўласцівы аскетычнай пратэстанцкай традыцыі. Там, дзе пануе культура, дзе шануецца даўніна, прынцыпы часам адступаюць на другі план...

**Адна з хрысціянскіх галін.** Дэкан евангелічных цэркваў Эслінгена Клаус Шэфбух казаў на сустрэчы так:

— Хрысціянства аб'ядноўвае народы, якія размаўляюць на розных мовах і адносяцца да розных расаў. І камунізм на Усходзе, і матэрыялізм на Захадзе раўназначныя па сваім разбуральным уздзеянні на чалавека: яны аднолькава бездухоўныя і аднолькава забіваюць душу. Хрысціяне-вернікі звычайна лёгка знаходзяць агульную мову. Аднак веру разумеюць дзе-нідзе як палітыку і яе выкарыстоўваюць, каб раз'яднаць людзей, каб прыйсці да ўлады.

Мы пачулі таксама сціслую, але змястоўную лекцыю пра тое, у чым адрозненне лютэранскай ад іншых хрысціянскіх галін. Найперш яна сцвярджае роўнасць святароў і вернікаў перад Богам. Вось чаму першыя так нікідка апрануты, а другія маюць права прапаведаваць у час богаслужэння. Сцвярджаецца таксама аднолькавая грахоўнасць і роўнасць перад Богам мужчын і жанчын. Сярод пастараў зямлі Бадэн-Вюртэмберг 200 жанчын (10 працэнтаў ад агульнага ліку). Існуе выбарнасць святароў, яна ажыццяўляецца саветам абшчыны. (Гэта, безумоўна, прыкмета развітой дэмакратыі). Мае месца абрад прыняцця ў члены абшчыны для тых, хто адлучаў сябе ад веры. Усе працуючыя вернікі плацяць царкоўны падатак, вызвалены ад яго толькі сектанты. Па Канстытуцыі ва ўсіх класах вядзецца рэлігійнае навучанне (2 гадзіны ў тыдзень), працу святароў-настаўнікаў аплачвае дзяржава.

А галоўнае, бадай, чым вызначаецца лютэранская царква, — гэта шматбаковая сацыяльная, практычная дзейнасць. Абсяг дабрачыннасці не можа не ўражваць. Пад апекай храмаў знаходзяцца сотні дзіцячых садкоў. На плячах царквы — матэрыяльная і псіхалагічная дапамога цяжкахворым і разумова адсталым, бяздомным і бедным, цяжкім падлеткам і мацяркам з малымі дзецьмі. Летнія лагеры для падлеткаў, клінікі для пажылых, дамы для маладых сем'яў, дзе жанчын рыхтуюць да родаў, вучаць дагледзець за немаўлятамі і нават прыплачваюць за кармленне грудзьмі, — усе формы работы проста немагчыма пералічыць. Прычым значную частку нагрузкі бяруць на сябе самі вернікі. Пры кожнай абшчыне ёсць дом, дзе яны могуць збірацца і згуртоўвацца дзеля добрых спраў. У кожнай з суполак — пажылых людзей, жанчын, моладзі — свае задачы. Тут умеюць накіроўваць у патрэбнае рэчышча альтруістычныя схільнасці людзей: хтосьці вядзе работу з бацькамі, хтосьці — з жанчынамі, якія *не жадаюць нараджаць* (праблема нараджальнасці, як я разумею, вынікае з крызісу заходняй сям'і). Хтосьці бярэ на сябе самую цяжкую справу — у апошні шлях праводзіць паміраючых. Евангелісты не выпускаюць з-пад увагі і праблему адаптацыі імігрантаў: для іх арганізаваны курсы па вывучэнні мовы.



*Гарадская ратуша. Частка фасада.*

Нехта можа сказаць, што царква — не прафсаюз, што ўсё гэта — не яе функцыя і што *галоўнае* — богаслужэнне. Аднак жа сказана ў Біблії: "Бог даручае нас адзін аднаму". Дбаючы пра ўласную душу, нябілага азірнуцца і на тых, хто побач. Хрыстос "не пытаецца ў людзей, ці веруюць яны ў Бога, не пытаецца пра тое, як яны да Яго ставяцца, Ён у іх пытаецца: "Ці апрануў ты голага? Ці накарміў галоднага? Ці наведаў хворага?" (Антоній Суражскі).

Асобна варта расказаць пра дзейнасць Евангелічнай Дыяканії — хрысціянскай дабрачыннай установы, якая існуе пры царкве ўжо 110 год і знаходзіцца на самазабеспячэнні. Пачыналася яна з курсаў для медсясцёр, якія потым бясплатна лячылі бедных. Сёння на ўтрыманні Дыяканіі вялікая бальніца ў Швэбішхале, якую мы наведалі. Сёмы па ліку яе дырэктар, пастар Франк Іюль, пачаў сваю працу з наведання аперацыйнай: так ён правяраў, ці зможа выносіць людскія пакуты. У штатным раскладзе 105 дактароў і 450 сясцёр і братоў. Імёны самых самаадданых з працаўніц шырока вядомы ў наваколлі і назаўжды ўвайшлі ў летапіс установы. Існуе спецыяльны дом для састарэлых сясцёр, а могілкі, дзе яны знайшлі вечны спачын, — суцэльны кветнік. Гэтыя жывыя кветкі — як сведчанне таго, што жыве і квітнее іх богаўгодная справа.

**Пастары.** *Калі Ільза Франк паказала* мне чорную сутану з белым каўнерыкам, я не адразу зразумела, у каго мне выпала кватараваць. Аказалася, фраў Ільза не про-



*Ваколіцы Эслінгена.*



*Вітраж з кірхі св. Марціна.*

ста **працуе ў кірсе,** яна — святарка. Калі праз пару дзён мы нарэшце пераадолелі псіхалагічны бар'ер, я з дапамогай перакладчыцы задала гаспадыні некалькі пытанняў.

*— Фраў Ільза, калі да вас прыйшла вера?*

*— Першая мая сустрэча з Усявышнім адбылася на чацвёрты дзень пасля нараджэння: мяне ахрысцілі. З ранняга дзяцінства я наведвала кірху з бацькамі і адчувала сябе там вольна і раскавана. Вялікім ударам для ўсёй сям'і стала заўчасная смерць дзядзькі. Гэта таксама, лічу, сыграла сваю ролю.*

*— Жаданне стаць пастарам узнікла ўжо тады?*

*— Не. Мае дзяцінныя мары былі іншымі: я хацела прадаваць мяса ці хацяб выйсці замуж за мясніка. Пазней думала стаць артысткай: мне падабалася прымяць іншы вобраз, іграць. Праўда, для гэтай прафесіі патрабуюцца больш моцныя нервы. Ва ўзросце 15 гадоў аформілася жаданне вывучаць багаслоўе. Вучылася ў евангелісцкай семінарыі ў Цюбінгене, жыла ў студэнцкім інтэрнаце. Там жа атрымала музычную адукацыю па класе аргана і раяля. Заўважу, што і тады я яшчэ не мела думкі стаць пастарам.*

*— Калі ж з'явілася такая думка?*

*— Людзі задавалі мне пытанні, на якія я не магла адказаць. Даводзілася самой шукаць адказы, а хто шукае, той знаходзіць. І вось ужо 20 гадоў я пастар.*

*— Як вы ставіцеся да таго, што ў іншых хрысціянскіх канфесіях жанчыны пазбаўлены права займаць царкоўныя пасады?*

*— І ў евангелісцкай царкве яны не адразу займелі такое права, а толькі ў апошнія 25 гадоў. Згодна з Новым Запаветам, перад Богам усе роўныя, няма гаспадароў і няма слуг. Між тым большасць цэркваў узаконілі няроўнасць. Зрэшты, мужчыны не толькі ў царкве дамінуюць, але і ў многім іншым — эканоміцы, кіраванні, а жанчыны застаюцца ўбаку. Так не павінна быць. У Ісуса былі і вучні, і вучаніцы.*

*— Можна спытаць, чым вы цікавіцеся, акрамя рэлігіі?*

*— Вельмі многім. У мяне столькі цікавых заняткаў, што ледзьве застаецца час на асноўную працу. Я малюю, іграю на флейце, чытаю кнігі па псіхалогіі (аддаю перавагу Юнгу і сучасным даследчыкам). А яшчэ я пачала вывучаць рускую мову, і ўжо ўмею чытаць.*

Мне давялося пабываць у кірсе св. Марціна, дзе службу вядуць Ільза Франк і яе калега Іаган Дзюр. Пад гукі аргана мы моўчкі пасядзелі ў пустым на той час храме, і кожны, відаць, памаліўся пра нешта сваё.

Усе пастары, з якімі давялося сустракацца, запомніліся як вельмі простыя і дэмакратычныя людзі. Я, напрыклад, не магу ўявіць, каб у нас высокі чын епархіі разліваў і разносіў мінеральную ваду для гасцей. А сапраўдным нашым анёлам-ахоўнікам была пастар Рэната Эльзэсэр. Гэта ёй мы абавязаны насычанай, цікавай праграмай, якая выконвалася літаральна па хвілінах і практычна без збояў. Гэта пры яе клопаце евангелісты Эслінгена сабралі грошы для новай маладзечанскай царквы. Калі падчас літургіі ў храме Багародзіцы мы пачулі пра гэта, у многіх на вачах заблішчэлі слёзы.

Прымаючы ў падарунак вялікую саламяную лялькУ, фраў Рэната пажартавала: "У мяне двое сыноў і дзве дачкі, але і гэтую я прыму з задавальненнем..."

**Прыгожае побач.** Што Ільза Франк — мастачка ў душы, добра бачна і па яе кватэры. Зашклёныя дзверы на лоджыю пры дапамозе каляровай паперы, нажніц і клею яна ператварыла ў маляўнічы вітраж. На сценах габелены і кампазіцыі з сухіх кветак. На кожным кроку трапляюцца мілыя і густоўныя дробязі, якія аздабляюць побыт. Але тое ж самае мне казалі і пра іншых немцаў — што яны вялікія выдумшчыкі ў гэтым сэнсе. Іхнія падворкі — гэта сапраўдныя творы мастацтва, і без дызайнераў тут, відавочна, не абыходзіцца. Вынаходліва абыграны рэльеф, каменная кладка, разнастайныя агароджы, кветнікі, дэкаратыўная зеляніна — усё радуе вока, усё пазначана творчым пачаткам і гаспадарлівасцю. Высокі ўзровень побытавай культуры нямецкага народа міжволі прымушае задумацца пра хвалёную духоўнасць рускіх: што ж гэта за духоўнасць без культуры? Ці я чагосьці не разумею ў суадносінах гэтых паняццяў?

І такая вось характэрная дэталь — сведчанне прыгожых адносінаў да чалавека: у швабскіх Альпах падчас выхадных з кароў знімаюць званочкі. Каб не патрывожыць чужога адпачынку...

Швабская зямля, між іншым, лічыцца адной з самых заможных у Германіі. Пра швабаў гавораць, што "Вас іст дас?" яны вымаўляюць як "Ваш ішт даш?", і зразумець іх дыялект падчас нялёгка.

**Перакладчыкі.** Сумоўем і ўзаемаразуменнем з гаспадарамі мы ў значнай меры абавязаны перакладчыкам — "рускім", а дакладней — паволжскім немцам, што эмігравалі з Савецкага Саюза. Акрамя вымаўлення, іх адрознівае незвычайная мяккасць у абыходжанні і тактоўнасць.

Як і большасць паволжскіх немцаў, Марыя Цернікель-Штэйнбах зведала ўсе жахі сталіншчыны (прыехала ў Германію ў 80-ых).

— Заўсёды ведала, што я благая ад нараджэння, — расказвае яна. У Паволжы не паспела нарадзіцца: мама была цяжарная мною, трэцім дзіцем, калі ўсю сям'ю адправілі ў цяплушцы ў Сярэднюю Азію. Кінулі з дзецьмі сярод узбекскага стэпу — жывіце як хочаце...

Фраў Марыя мастацтвазнаўца па прафесіі, і адзін са старажытных алтароў аднаўляўся з яе дапамогай.

Лідзія Ульман тут адносна нядаўна: чатыры гады. За гэты час сям'я больш-менш адаптавалася, сыноў ужо няма патрэбы прымушаць размаўляць па-нямецку. Лідзія пакуль працуе не па спецыяльнасці і таму не вельмі задаволена жыццём. Урастаць у новую глебу заўсёды цяжка. Ёсць рэчы, якіх яна не прымае — душэўнай закрытасці, прынамсі, пры знешняй ветлівасці. Многае хацела б пераняць. Карэнныя жыхары практычна не п'юць горкай, эканомныя, усё наперад плануюць на два гады. І калі ўжо нямецкая сям'я дазволіла сабе мець дзяцей (што раскоша, як і ў нас цяпер, немалая), то з імі сур'ёзна працуюць, і дзіця менш чым у чатыры платныя гурткі не ходзіць. Вось і малыя Ульманы "пры справе", бацькі аддаюць шмат часу і сродкаў дзеля іх выхавання.

Што датычыць школьнай адукацыі, то пра яе нам падрабязней распавёў Рольф Лашэд, выкладчык гімназіі.

**Школа.** У Баварыі і Швабіі існуе трохступенчатая сістэма адукацыі. Пасля 4-га класа вучняў раздзяляюць па ступені адоранасці. (Гэта занадта рана, як лічыць Рольф, а таму немэтазгодна). Трэць ідзе ў гімназіі, трэць у рэальныя школы, астатнія працягваюць вучобу ў асноўнай, базавай школе. Трэба сказаць, што ў іншых землях Германіі — а іх 16 — такога падзелу няма. Гэта тлумачаць тым, што на поўначы больш прагрэсіўнае кіраўніцтва.

У гімназіі з 9-га класа адбываецца выбар профілю, а з 11-га дазволена вольнае наведванне. Да 7-га, побач з роднай, вывучаецца англійская мова, пасля па выбары — лацінь, французская або руская. Папулярнасць апошняй відавочна падае, і палітычныя падзеі ў Расіі іграюць тут не апошнюю ролю.

У гімназіі, дзе мы былі, свая адметнасць: балалаечны аркестр. Адзіны ў Заходняй Еўропе, як нам сказалі. І кіруе ім сам Рольф. Акрамя рускай мовы, ён выкладае матэматыку і гісторыю. Прычым шматпрофільнасць прадугледжана яшчэ на стадыі студэнцтва: жадаючыя вывучаюць некалькі дысцыплін запар. Што азначае большую нагрузку ў будучым і... большыя заробкі.

Урок рускай мовы, які мы наведалі, больш нагадваў урок псіхалогіі. Вучні называлі адмоўныя і станоўчыя якасці чалавечага характару, прыводзілі нямецкія адпаведнікі. Цікава, што першыя сярод адмоўных якасцяў ішлі "замкнуты" і "нясмелы", і толькі потым — "лянівы". Прыярытэты для нас нязвыклыя, бо мы не вучым дзяцей кантактаваць, ды і самі не ўмеем.

Настаўнік наракае, што ў іх няма людскай актавай залы, затое мы пабачылі залу спартыўную. Хоць ты міжнародныя спаборніцтвы ў ёй праводзь... І паколькі ў гімназіі сабрана эліта, то сцены не размаляваны, мэбля ў поўным парадку і ў вялікіх кадушках растуць хатнія кветкі...

На развітанне гаспадары махалі нам услед хусцінкамі. Перасекшы польскую мяжу, мы адразу прыкмецілі розніцу: катэджы хоць і вялікія, але кветак ужо няма. Ад сапсаваных тэлефонаў на аўтазапраўках, трактарчыкаў на палях і беластоцкіх дзядзькоў простага выгляду павеяла знаёмым, сваім. Імклівa аддаляўся маленькі гарадок на рацэ Някар — каб стаць часткай нашага доследу, нашай памяці, нашых сэрцаў. Калі пашыраюцца межы існавання, гэта, згадзіцеся, добра.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

БАЛЕТ

# Свята танца

На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета адбыўся справаздачны канцэрт навучэнцаў Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа.

Гэты дзень быў напоўнены нейкай асаблівай чароўнасцю. Гледачы ж яшчэ не ведалі, якія сюрпрызы падрыхтавалі для іх будучыя майстры балета. І сюрпрызы не прымусілі сябе доўга чакаць. На сцэне з'явіліся "тролі" — самыя малодшыя ўдзельнікі канцэрта, якім выпаў гонар першымі выступаць на вялікай сцэне. Юныя артысты прыемна здзівілі разнастайнасцю акцёрскай ігры. Іхнія тролі то хмурыліся, то хітра ўсміхаліся, злаваліся, гарэзавалі, весяліліся, палохалі, а іх па-дзіцячы вуглаватыя рухі набылі асаблівую, характарную афарбоўку. "Тролі" ў пастаноўцы У. Іванова на музыку Э. Грыга задалі тон усяму канцэрту.

Наступнае выступленне выпускніка А. Баецкага не было віртуозным, але запомнілася дакладным выкананнем, галантнай манерай, закончанасцю поз.

Пачаўшы размову пра выпускнікоў, адзначу тонкі падыход да выбару рэпертуару для сваіх вучаніц педагога І. Савельевай. Яна разгледзела ў С. Пясецкай, якая ў жыцці вылучаецца ўпэўненасцю і дзелавітасцю, пяшчотную ў палёце Жызель, а ў спакойнай, крыху меланхалічнай В. Гайко — велічную гераіню з балета "Карсар".

Асаблівую свежасць унеслі ў канцэрт пастаноўкі студэнтаў балетмайстарскага аддзялення Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам В. Елізар'ева. Не сакрэт, што сучасныя нумары дапамагаюць артыстам разняволіцца, злучыцца з музыкай, выказаць сябе. "Начныя кветкі" К. Дэбюсі ў пастаноўцы Р. Паклітара дазволілі праявіць пачынаючым балерынам Ю. Бяцене і С. Пясецкай музычную чуйнасць, адчуць шырыню і свабоду рухаў. Іх танец быў пяшчотны, паэтычны, напоўнены подыхам свежасці.

А. Вівальдзі. "Канчэрта гроса ў бірузовасінім". Імклівая, парывістая, незвычайная тэхніка, унутраны рытм, паліфанічныя прыёмы, у той жа час напеўнасць і працяглaсць ліній — такі матэрыял прапанавала пастаноўшчык Н. Фурман юным танцоўшчыкам — выхаванцам І. Савельевай і С. Пясецхіна.

Перад героем гэтага нумара стаіць адвечная праблема: ён выбірае паміж душэўнымі якасцямі, фізічнай прыгажосцю і інтэлектам жанчыны. Строгасць, фанабэрыстасць, халоднасць танца вызначаюць выканаўчую манеру М. Вежнавец. Кантрастам яе падаецца вытанчаная, трапяткая Г. Паўлава. Унутраная эмацыянальная засяроджанасць, сіла і моц П. Хамко спалучаюцца са спакойным, удумлівым выкананнем Л. Міносцавай.

Вялікую работу па падрыхтоўцы да канцэрта правёў С. Пясцехін, які выпускае сёлета сваіх першых вучняў. І педагог, вядомы ў свой час выканаўца адмоўных роляў, і ягоныя выпускнікі П. Хамко, А. Баецкі, В. Краўчанка адказна падышлі да такой важнай у іхнім жыцці падзеі. А трэцякурснікі праявілі сябе ўважлівымі, надзейнымі партнёрамі ў дуэтных танцах і паказалі добры ўзровень тэхнічнай падрыхтоўкі ў сольных варыяцыях.

Уражальны момант канцэрта — выхаванкі Г. Сінельнікавай, якія маюць, нягледзячы на юны ўзрост, вялікую сцэнічную практыку. Гэта лаўрэаты міжнародных конкурсаў І. Цымбал і А. Базявічутэ. Бездакорная пастаноўка корпуса, адчуванне партнёра і дыялог з гледачом, свабода ў руках і ўпэўненасць у сабе — вось рысы, якія характарызуюць вучаніц Г. Сінельнікавай. У найскладаным па-дэ-дэ з балета "Дон Кіхот" партнёрам І. Цымбал быў выпускнік Беларускага каледжа, цяпер саліст тэатра балета "Харэаграфічныя мініяцюры" Санкт-Пецярбурга, лаўрэат міжнародных конкурсаў А. Іваноў. У танцы І. Цымбал не было бравурнасці, павышанага тэмпераменту. Адначасова смела і далікатна, тонка і прыгожа яна прадэманстравала свае прачытанне вобраза.

У сцэне з балета П. Чайкоўскага "Лебядзінае возера" вядучыя партыі выканалі А. Базявічутэ і саліст Нацыянальнага тэатра балета Беларусі А. Авечкін. Партнёры выглядалі бездакорна "станцаванымі", а той лёгкасці, з якой яны выконвалі найскладаныя элементы класічнага танца, маглі б пазайздросціць ужо сталыя майстры балетнай сцэны.

Нельга не прыгадаць "Танец гадзіннікаў" з оперы "Джаконда" на музыку А. Панкіелі, спецыяльна пастаўлены У. Азімавым для справаздачнага канцэрта харэаграфічнага каледжа. Адзначаючы велізарную працу У. Азімава і А. Мартынавай з вучаніцамі І, ІІ і ІІІ курсаў, хачу адзначыць, што танцы кардэбалету ў гэтым нумары па складанасці нікольк не саступалі танцам салістаў. "Джаконда" запомнілася музычнасцю, арыгінальнымі пабудовамі, нечаканымі пераходамі. Гэты нумар, пастаўлены з вялікім густам, стаўся адным з упрыгожанняў святочнага вечара.

Без сумнення канцэрт не зрабіў бы такога цэласнага, закончанага ўражання без удзелу ў ім вучняў народнага аддзялення: "Крыжачок" і "Лявоны" ажывілі праграму сваёй яркай, сакавітай афарбоўкай.

Ёсць вучні ў Беларускім харэаграфічным каледжы, гледзячы на якіх спадзяешся і верыш, што будуць у іх творчыя перамогі і свята танца паўторыцца зноў.

**Дана БАКУНЧЫК**



**Супрацоўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму бухгалтару ФІЛІПАВАЙ Але Валерыянаўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

**Беларускі саюз мастакоў выказвае глыбокае спачуванне сябру саюза мастачцы-графіку Галіне ХІНКА-ЯНУШКЕВІЧ у сувязі з вялікім горам — смерцю бацькі.**

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару газеты "Наша слова" ЯЛУГІНУ Эрнесту Васільевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.**

ЗГАДКІ

# Я выпадкова сеў не ў той вагон...

## СЛОВА ПРА МІКОЛУ ФЕДЗЮКОВІЧА



22 МАЯ 1997 года яму споўнілася б толькі 54 гады...

Вядома ж, ён хацеў пражыць больш, бо столькі няздзейсненых задум хацелася рэалізаваць. Пра гэта сведчыць многае ў архіве, пра гэта вядома сябрам і жонцы. Вядома і іншае: ён адчуваў дыханне смерці і фаталістычна, падсвядома чакаў яе. Цану свайму таленту ён ведаў, ведаў свой характар, празмерна шчыры, адкрыты і дружбасты, што ў гэтым жорсткім свеце прыносіць часцей за ўсё засмучэнне. Адчуваў ён гнятлівы, хоць і прыхаваны, боль у ранімай душы ад неўладкаванасці асабістага жыцця, ад дысгармоніі ў грамадстве. Параўноўваючы свой лёс і лёс іншых паэтаў, якія былі блізкімі яму па творчасці і па духу, ён бачыў: чамусьці ў большасці з іх жыццё абрывалася рана.

Заўчасна, на працягу няпоўных трох гадоў, пайшлі з жыцця яго старэйшыя сябры Сцяпан Гаўрусёў, Міхась Стральцоў і Яўген Крупенька, дружбай з якімі ён вельмі ганарыўся і якой даражыў. Больш блізкіх сяброў у яго, здаецца, не было, таму страта была вельмі адчувальнай. Аб гэтым сведчаць радкі, прысвечаныя Міхасю Стральцову:

*Між надмагільных*
*ціхіх пліт*
*я адшукаў,*
*дзе друг мой спіць...*
*На камені агнём зары*
*ягоны высечан абрыс.*

. . . . . . . . . . . . . . . . .

*У памяці і ў снах маіх*
*яго жыццё маланкі міг.*

Смерць сяброў ён успрымаў як нейкі таямнічы знак і для сябе. Добра вядома, што ён вёў і часам паказваў спіс знакамітых асоб, якія памерлі ў 53 гады. Сярод іх быў і Яўген Крупенька. І сабе Мікола прарочыў гэты ж рубеж. Мо таму так апантана працаваў над сябравым архівам і падрыхтаваў публікацыі для друку, а таксама кнігу вершаў для выдавецтва "Мастацкая літаратура", лёс якой сёння прадказаць цяжка.

Цяжка прадказаць і лёс будучай кнігі "Красадзён" самога М. Федзюковіча. Жонка паэта, Алена Аляксандраўна, расказала, што падчас пахавання Міколы рукапіс таямніча знік разам з некалькімі слоўнікамі. Для чаго і каму гэта было патрэбна, цяжка сказаць. Цяпер ёй з вялікімі намаганнямі прыходзіцца ўзнаўляць яго. Наколькі ўдала гэта будзе зроблена і ці так, як задумваў аўтар, не бяруся меркаваць, але спадарыня Алена сцвярджае, што маюцца запасныя экземпляры і яна добра помніць змест. Дай жа Божа, каб гэта было так. Па нядаўняй публікацыі ў "ЛіМе" бачна, які значны талент пайшоў з беларускай паэзіі. Пасмяротны зборнік павінен быць выдадзены!

М. Федзюковіч неаднойчы ўсхвалявана чытаў у сяброўскіх бяседах вершы Яўгена Крупенькі, яго пераклады, у тым ліку "Слова аб палку Ігаравым", сцвярджаючы, што гэта адзін з лепшых перакладаў. Ён пераконваў, што ягоны сябра быў сапраўдным паэтам, які не здолеў рэалізаваць свой талент пры жыцці. Тое ж самае можна гаварыць і пра Міколу. Апошняя ягоная кніжка "Макаў цвет" была выдадзена ў 1979 годзе. А "Красадзён" ён так і не аддаў у выдавецтва. Магчыма, гэта была высокая патрабавальнасць да сябе, аб чым гаворыцца ў адным з вершаў:

*Не выдумляй пачуццяў,*
*вершаруб,*
*у тлуме не згубі*
*сябе самога,*
*сябе карай бязлітасна*
*і строга;*
*падалей будзь*
*ад пустазвонных*
*труб,*
*спакойна ўзводзь*
*свайго палаца зруб,*
*і не крыўдуй,*
*не наракай на лёс,*
*што не збіваеш*
*лёгкай славы рос...*
*Душа, працуй*
*бязлітасна, бо ты —*
*маё сумленне,*
*суд мой — назаўжды!*

Магчыма, і другое стрымлівала: нежаданне пакланяцца літаратурным чыноўнікам у выдавецтвах, прабіваць дарогу свайму рукапісу.

Ну а трэцяе, што адбірала шмат часу, навідавоку: ён самаадданa працаваў для іншых, асабліва для пачынаючых аўтараў. Колькі з іх атрымала ягоную падтрымку і ўбачыла ўпершыню свае творы ў перыёдыцы, пачула па радыё, убачыла першыя кніжкі і ўступіла ў Саюз пісьменнікаў Беларусі! І аўтару гэтага артыкула ён шмат у чым дапамог і напісаў рэкамендацыю для ўступлення ў СП.

Асаблівая вяха ў яго жыцці — супрацоўніцтва з "Чырвонай зменай". Многія былыя і цяперашнія чырвоназменаўцы з удзячнасцю ўспамінаюць "урокі Федзюковіча": ягоную адданасць працы, акуратнасць, сціпласць, сакральную адухоўленасць перад пісьмовым сталом і рукапісамі. Менавіта ў "Чырвонцы" раскрыліся найбольш ярка здольнасці Міколы ў публіцыстычным і літаратурна-крытычным жанрах, а таксама ў гумары. Амаль да апошніх дзён ён рыхтаваў матэрыялы для "Гарчычніка", у якіх змяшчаў і свае творы. Мала хто ведае, што Парамон Капуза і Мікола Федзюковіч — адзін і той жа аўтар. Празаічныя гумарэскі Федзюковіча-Капузы прываблiваюць арыгінальнасцю сюжэта і дасціпнасцю.

Часам яго папракалі, што ён падтрымлівае зусім малавядомых аўтараў, якія, магчыма, і будучыні літаратурнай не маюць, але ён не зважаў і яшчэ больш актыўна рабіў справу, не шкадуючы часу, сіл, здароўя. Ён быў упэўнены: беларускай паэзіі патрэбны новыя імёны, патрэбна шырыць увагу да роднага слова. Няхай сабе некаторыя пачаткоўцы і не адолеюць вялікага плёну на літаратурнай ніве, але ж і іхняе слова некаму асветліць душу. Мікола любіў людзей і жыў для людзей, але ён не пераносіў падману, хцівасці і ў болі душы, аб чым ужо гаварылася вышэй, не надта любіў прызнавацца:

*О, як бы ні жыў*
*я цярпліва,*
*стамляюцца розум*
*з душой*
*ад плётак*
*і зайздрасці хцівай,*
*абразы —*
*сваёй і чужой...*

Стамляюцца розум з душой... Мусібыць, гэтая стомленасць прымушала думаць пра заўчасную смерць. У архіве паэта збярогся вось гэты верш, які напоўнены прарочай безвыходнасцю:

*Паломаны жыццём,*
*чакаючы магілы...*
М. Багдановіч

*Як ні чакаем смерці мы,*
*яна заўжды*
*прыходзіць рана.*
*І думкі аб магіле раняць,*
*як ні чакаем*
*смерці мы...*

*Таму вось і пішу*
*старанна*
*я два радкі сярод зімы:*

*"Як ні чакаем*
*смерці мы,*
*яна заўжды*
*прыходзіць рана".*

Паэзія і прароцтва. Гэта вельмі загадкавая тэма. У беларускай паэзіі (асабліва ў маладнякоўцаў) і ўвогуле ў сусветнай паэзіі шмат прарочага і містычнага. Напрыклад, Мікалай Гумілёў прадказаў сваю смерць у вершы "Рабочы". Гэткае ж прадказанне зрабіў і Мікола яшчэ на пачатку творчасці. Працытую верш, які ён неаднойчы друкаваў у перыёдыцы, у варыянце з першага зборніка "Зямля — магніт":

*Прачыналася*
*рэчка Ясельда*
*і цякла ў старажытны*
*бор...*
*Павандрую —*
*і зноўку я сюды*
*прынясу маёй*
*страты боль.*
*Не сунімецца боль*
*ад дотыку*
*хвалі ціхай —*
*нібы сляза...*
*Пачыналася песня*
*з досвітку*
*ў барадатых,*
*сівых лясах.*
*О, дачка задуменнай*
*вернасці —*
*Ясяльдзянка*
*з касой-красой,*
*я не веру,*
*што ты не вернешся*
*ў гэта мудрае хараство.*
*А паверу —*
*дык песняй раненай*
*на гарачы ўпаду абрус...*
*Захвалюецца рэчкай*
*ранішняй*
*у вачах маіх Беларусь.*

Памёр ён на кухні за сталом. Адкуль такая прарочая дэталізацыя і прадказанне задоўга да смерці свайго лёсу і лёсу Яўгеніі Янішчыц? Да гэтага верша ён вяртаўся і ў апошнія гады, друкаваў яго ў "Народнай газеце", у "ЛіМе". Аднойчы даў мне канверт з некалькімі аматарскімі кадрамі фотаплёнкі, на якім было напісана ягоным каліграфічным почыркам: "Янусь! Зрабі, калі ласка, пару здымкаў. Тут М. Федзюковіч і Я. Янішчыц". Для чаго яму спатрэбіліся здымкі і адкуль тыя негатывы, не ведаю. Але ва ўсім гэтым зноў жа таямнічы сэнс.

Сапраўдныя паэты ў гэтым жорсткім свеце адчуваюць сябе няўтульна і адзінока. Яны як бы апярэджваюць час, іх месца ў больш дасканалым грамадстве, пра якое на нашай планеце можна толькі марыць. І ці не пра гэта пісаў М. Федзюковіч у вершы "Вагон", які пераклікаецца з рубцоўскім "Поездом":

*Я памылкова сеў*
*не ў той вагон,*
*не ў той вагон*
*і не на тым паўстанку...*
*Ляціць вагон:*
*агні — з усіх акон,*
*і гік, і смех, і ляск —*
*бесперастанку.*

. . . . . . . . . . . . . . . . .

*Я выпадкова сеў*
*не ў той вагон.*
*Ды і назад вярнуцца*
*немагчыма.*
*Ляціць вагон*
*за часам наўздагон.*
*Мільгае электрычнымі*
*вачыма.*
*А рэйкі ад напругі*
*аж гудуць!*
*І нехта паўтарае*
*безупынку,*
*што я павінен*
*скокнуць на хаду,*
*а не чакаць наступнага*
*прыпынку...*

За год да смерці Міколы памерла ягоная маці, якая жыла ў яго і якой ён прысвяціў не адзін верш. Гэта таксама была вялікая страта. Напэўна, не адзін раз яны ўспаміналі Слаўку (ягонага роднага брата, які трагічна загінуў), бацьку, якога напаткала смерць на фронце, і сына ад першай жонкі, якога забілі ў Расіі. І ён не вытрываў пакутных перыпетый пакручастага лёсу. Можа, яму там, куды ён раптоўна саскочыў з "вагона", будзе і святлей, і цяплей...

Ну а тым, хто яго ведаў, хто захапляўся ягонымі вершамі, хто з ім сябраваў, застаецца з сумам шкадаваць, што яны больш не ўбачаць ягоную ветлівую ўсмешку, не адчуюць далікатны поціск ягонай рукі.

**Янусь МАЛЕЦ**

**P. S.** Можа, гэты артыкул прачытае той, хто мае дачыненне да знікнення рукапісу М. Федзюковіча "Красадзён". Просьба: зрабіце ўсё, каб ён не прапаў, каб кніжка пабачыла свет менавіта ў тым выглядзе, як задумвалася паэтам. Не бярыце грэх на душу!

**Я. М.**

*На здымку: Я. Янішчыц і М. Федзюковіч ("землякі-палешукі, птахі, якія так рана адляцелі ў вырай...")*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фота-карэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 29.5.1997 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3101/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12